Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 25 (4671) 22 чэрвеня 2012 г.

*Думка пісьменніка*

## Не трэба забываць



Пісьмы мы цяпер самі ведаеце як пішам. Але па інерцыі ў паштовую скрынку ўсё ж заглядваем: а раптам?.. Сачу і я — асабліва пільна-ўважліва пасля таго, як недзе надрукуюся. І недарэмна: абавязкова знаходжу там ліст ад Міхася Пятровіча Даніленкі, старэйшага нашага пісьменніка, якому ўвосень будзе ўжо 90 год, але ён і сёння цікавіцца літаратурным жыццём, актыўна друкуецца. Беручы пісьмо ад творцы-земляка, я згадваю маму, тату, якія пісалі мне на гэты ж гомельскі адрас. Яны таксама жадалі мне дабра. Маіх бацькоў няма ўжо на гэтым свеце, і я ўдзячны лёсу, што жыве мой літаратурны бацька — Міхась Пятровіч. З ім можна параіцца, калі бывае скрушна, падзяліцца думкамі пра новыя творы беларускіх пісьменнікаў, пра падзеі ў краіне. Пра ўсё.

Прыгадваю шасцідзясятыя гады мінулага стагоддзя, калі я, вучань Ільічоўскай СШ Рагачоўскага раёна, набраўся мужнасці і даслаў на імя М. Даніленкі сваё першае апавяданне "У завіруху". І колькі было радасці, калі атрымаў ад пісьменніка адказ! Мой твор быў густа папраўлены акуратным прыгожым почыркам, але я цешыўся, бо Міхась Пятровіч параіў пісаць і далей, не спыняцца, а майстэрства, маўляў, прыйдзе.

На вялікі жаль, няма ўжо Івана Кірэевіча Сяркова, таксама гамяльчаніна. Адчуваў я і яго бацькоўскую падтрымку. І. Сяркоў быў галоўным рэдактарам на абласным тэлебачанні і адначасова ўзначальваў аддзяленне Саюза пісьменнікаў, а калі пайшоў на заслужаны, як кажуць, адпачынак, прапанаваў маю кандыдатуру на пасаду кіраўніка абласной пісьменніцкай арганізацыі. Дзякуй, Міхась Пятровіч! Дзякуй, Іван Кірэевіч!

Асобная старонка ў маім жыцці — сяброўства з народным пісьменнікам Іванам Пятровічам Шамякіным. Вядома ж, гэтаму паспрыяла і тое, што Гомельшчына — ягоная малая радзіма, і яму было цікава пачуць, як жывуць-пажываюць землякі. А калі ў Доме літаратара быў мой творчы вечар, Іван Пятровіч знайшоў час, каб прыйсці і сказаць некалькі слоў…

Усё гэта помніцца. Усё гэта не забываецца.

І было мне балюча і трывожна, калі некаторыя маладзейшыя пісьменнікі ў свой час маглі дазволіць сабе ў друку няўдобразычлівыя выказванні пра асобу і творчасць народнага пісьменніка, аўтара, якога вельмі шырока чыталі і — упэўнены! — чытаюць не толькі беларусы. Балела. Вельмі. Усё роўна калі б сказалі нейкую брыдоту пра майго роднага бацьку. Аднак, здаецца, жыццё патрохі ўсё ставіць на свае месцы.

Трэба маладым помніць, што ў кожнага з іх ёсць акрамя крэўных бацькоў і бацькі літаратурныя. Мы з нічога не ўзяліся. Нам дапамагалі, як маглі, і словам, і… ганарарам. А ці заўсёды мы помнім пра гэта? Як жывуць яны, тыя людзі, што аказаліся побач у патрэбную хвіліну? Мо хварэюць? Ці пішацца ім? Чаму не відаць у друку?..

Сваіх жа бацькоў мы помнім і шануем. Не трэба забываць, што ёсць у нас і літаратурныя бацькі.

Я помню.

**Васіль ТКАЧОЎ**

# Тры юбілеі Купалы




**У Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы прайшлі чарговыя чытанні, прысвечаныя асобе класіка беларускай літаратуры. Адметнасцю канферэнцыі сталася супадзенне адразу трох юбілеяў. Першы з іх відавочны: 130-годдзе з дня нараджэння творцы. Другі звязаны з чытаннямі, якія, дзясятыя па ліку, сёлета маюць назву "Янка Купала. Дыялог з XXI стагоддзем".**

**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ,**
**аўтографы паэта прадастаўленыя для першай публікацыі Дзяржаўным літаратурным музеем Янкі Купалы**

Аднак калі пашукаць вытокі навуковых канферэнцый, прысвечаных асобе Купалы, у далёкай мінуўшчыне, высветліцца: аматары і даследчыкі творчасці Песняра могуць смела адзначаць трэці юбілей! Бо першым мерапрыемствам, што прайшло ў такім фармаце, можна лічыць вечар, прысвечаны саракагоддзю з дня нараджэння паэта. Ён адбыўся ў БДУ 19 сакавіка 1922 года — 90 гадоў таму! З дакладамі выступалі літаратуразнаўцы Аляксандр Вазнясенскі і Міхаіл Піятуховіч, філосаф і сацыёлаг Саламон Кацэнбоген.

Сёлетнія чытанні адкрыла дырэктар установы Алена Ляшковіч. Яна звярнула ўвагу прысутных на пераемнасць мерапрыемства ў адносінах да папярэдніх канферэнцый. Цікава, што ў мінулыя гады тэматыка была акрэслена больш вузка: напрыклад, "Янка Купала і «Наша ніва»", "Янка Купала — публіцыст", "Янка Купала і Адам Міцкевіч". А сёлета праблематыка прыкметна пашырылася.

Намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь Тадэуш Стружэцкі падкрэсліў незвычайнасць гэтага года, падчас якога святкуюцца юбілеі Янкі Купалы і Якуба Коласа. Тадэуш Іванавіч запрасіў усіх прысутных узяць удзел у святкаванні 7 ліпеня ў Вязынцы.

Доктар філалагічных навук, прафесар Вячаслаў Рагойша павітаў прысутных ад імя Міжнароднага фонду Янкі Купалы, які дзейнічае з 1996 года. На яго думку, беларусы заўсёды імкнуліся "дарасці" да Купалы, як украінцы — да Шаўчэнкі, а рускія — да Пушкіна. Таму колькі б ні было канферэнцый, цалкам раскрыць феномен Купалы немагчыма, хоць трэба да гэтага імкнуцца.

Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Славацкай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Мар'ян Серватка, які вывучае беларускую мову і добра ведае творчасць Купалы, у сваім выступленні правёў паралелі паміж беларускім і славацкім народамі, якія вытрымалі шмат выпрабаванняў. Сп. Серватка адзначыў парадокс, пры якім у пачатку


ЯНКА КУПАЛА
Народный поэт Белоруссии
ИЗБРАННЫЕ
СТИХИ
И
ПОЭМЫ
1906 — 1935
Под редакцией
С. ГОРОДЕЦКОГО
Дорогим и милым гостям
в день моего юбилея
М. Л. и А. С. Новиковым-Прибоям
с искренней любовью
Янка Купала
Государственное издательство
«Художественная литература»
Москва 1935

XXI стагоддзя два народы так мала ведаюць адзін пра аднаго. Зрэшты, пасольства вітае і падтрымлівае ўсе намаганні, накіраваныя на пераадоленне гэтай прыкрай недарэчнасці. Напрыклад, днямі пабачыць свет кніга літаратуразнаўцы Мікалая Труса "Янка Купала ў Славакіі". А на філалагічным факультэце БДУ адкрыўся кабінет славацкай філалогіі.

У выступленні паэта Рамана Лубкіўскага, Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Украіны, дамінавала філасофскае пераасэнсаванне лёсаў Беларусі і Украіны, разгляд творчасці нашага класіка і яго значэння для абодвух народаў, яго сувязей з украінскай зямлёй. Упэўнены, шэраг даследчыкаў зацікавіцца інфармацыяй сп. Лубкіўскага пра публікацыю 1997 года. Тады ва ўкраінскай перыёдыцы з'явіўся ліст Янкі Купалы да Міхаіла Грушэўскага, напісаны ў 1914-м. У ім паэт запрашаў гісторыка да сябе на Пірагі. Чым закончылася размова двух нацыяльных геніяў, яшчэ павінны высветліць гісторыкі.

Адной з сенсацый канферэнцыі стала выступленне Уладзіміра Адамушкі, дырэктара Дэпартамента па архівах і справаводстве Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь. Ён перадаў музею копіі 34 раней невядомых дакументаў, якія датычаць Купалы і знаходзяцца ў Маскве: у Дзяржаўным архіве Расійскай Федэрацыі і Расійскім дзяржаўным архіве літаратуры і мастацтва. Сярод іх ліставанне нашага класіка з пісьменнікам Фёдарам Янчуком, гісторыкам і грамадскім дзеячам Фёдарам Туруком, паэтам і перакладчыкам Іванам Белавусавым, дарчыя надпісы паэту Міхаілу Ісакоўскаму і шэраг іншых матэрыялаў, якія дазволяць даследчыкам даведацца пра новыя акалічнасці ў біяграфіі класіка.

Зоя Падліпская, галоўны рэдактар часопіса "Роднае слова", прадставіла гасцям і ўдзельнікам канферэнцыі сваё выданне, якому сёлета спаўняецца чвэрць стагоддзя. Асаблівая ўвага была звернута на чэрвеньскі нумар, усе матэрыялы якога прысвечаныя асобе і творчасці Янкі Купалы. Наогул, за гады выдання "Роднага слова" на яго старонках было надрукавана каля сямідзесяці вершаў Песняра.

Дырэктар музея Янкі Купалы Алена Ляшковіч пазнаёміла прысутных з новымі паступленнямі ў фонды музея. Яшчэ ў студзені гэтага года ва ўстанову завітала дачка вядомага савецкага пісьменніка-марыніста Аляксея Новікава-Прыбоя. Высветлілася, што ў яе захоўвaецца архіў бацькі. На просьбу пашукаць у ім "беларускія сляды" яна адказала згодай. А праз тры месяцы ў Мінск прыйшла бандэроль. У ёй знаходзіліся дзве кнігі Янкі Купалы і яго партрэт з дарчымі надпісамі. Прычым цёплыя пажаданні Песняра свайму калегу па пісьменніцкім цэху дагэтуль з'яўляліся невядомымі для навукоўцаў. З ласкавай згоды Алены Раманаўны з імі могуць пазнаёміцца цяпер і чытачы "ЛіМа".

Праца канферэнцыі працягнулася на пленарным пасяджэнні, якім кіраваў В. Рагойша, а таксама ў трох секцыях: "Творчая спадчына Янкі Купалы ў гісторыка-літаратурным і культурным кантэксце канца XX — пачатку XXI стст." (старшыня Ірына Багдановіч), "Ушанаванне памяці Песняра музейнымі сродкамі" (старшыня Наталля Стрыбульская) і "Купала і сучаснасць: новыя аспекты вывучэння спадчыны паэта" (старшыня Яўген Гарадніцкі).

Асаблівасцю сёлетніх Купалаўскіх чытанняў стала вандроўка іх удзельнікаў у Вязынку. Да 130-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы праведзена мадэрнізацыя літаратурна-дакументальнай часткі экспазіцыі (мастак Г. Чысты), што прысвечана нараджэнню чалавека і паэта і ахоплівае перыяд з 1882 па 1904 год. А ў сенцах і пакоі, дзе ў 1881 — 1883 гадах жыла сям'я Луцэвічаў, быў адноўлены тагачасны інтэр'ер.

## Пункціраm

✔ Кіраўнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка павіншаваў калектыў Цэнтральнага батанічнага саду Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі з 80-годдзем утварэння ўстановы. "Гэты ўнікальны сад, які мае бясцэнную калекцыю ўзораў айчыннай і сусветнай флоры, з'яўляецца нацыянальным здабыткам", — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Беларусь як краіна-ўдзельніца Еўрапейскай культурнай канвенцыі далучылася да інфармацыйнай сістэмы культурнай палітыкі Савета Еўропы "Кампендыум". Адпаведная дамоўленасць падпісана паміж Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь і Генеральным дырэктаратам па пытаннях дэмакратыі Савета Еўропы. Дамоўленасць вызначае дзейнні беларускага боку і Савета Еўропы па падрыхтоўцы інфармацыі пра стан і развіццё культуры нашай дзяржавы.

✔ Міністр культуры Беларусі Павел Латушка і міністр культуры, мастацтваў і спадчыны Катара Хамады бен Абдэль Азіза аль-Кувары падчас правядзення Дзён культуры Катара ў Беларусі падпісалі праграму культурнага супрацоўніцтва паміж урадамі дзвюх краін на 2011 — 2013 гады. Міністры выказалі надзею на плённае супрацоўніцтва ў сферы культуры і адукацыі.

✔ Беларускі дакументальны фільм "Званар" Кацярыны Махавай атрымаў Гран-пры кінафестывалю ў г. Кошыцэ (Славакія). У конкурсе ўдзельнічалі 20 краін: Германія, Сербія, Беларусь, Вялікабрытанія, Францыя, Латвія, Славакія, Польшча, Венгрыя, Балгарыя, Нідэрланды, Іспанія, Аргенціна, Македонія, Турцыя, Румынія, ЗША, Чэхія, Боснія і Герцагавіна, Харватыя. Міжнароднае журы адзначыла стужку "Званар" як самы выбітны твор фестывалю.

✔ Неігравы фільм "Кавалеры рэк, балот і лясоў" вытворчасці РУП "Беларускі відэацэнтр" стаў пераможцам XVI Міжнароднага экалагічнага кінафэсту "Выратаваць і захаваць". Кінастужка перамагла ў намінацыі "Аўтарская работа". Аўтарам фільма выступіў беларус Ігар Бышнёў — майстар "экалагічнага" кірунку ў неігравым кіно, эколаг, кандыдат біялагічных навук, беларускі кінарэжысёр-анімаліст.

✔ У Нацыянальнай бібліятэцы Сербіі ў Бялградзе ў межах святкавання 130-годдзя Янкі Купалы і Якуба Коласа адбылася прэзентацыя кнігі "Анталогія беларускай паэзіі" на сербскай мове. У мерапрыемстве ўзялі ўдзел больш як 200 чалавек, у тым ліку пaслы Расіі і Украіны, замежныя дыпламаты, супрацоўнікі Міністэрства замежных спраў Сербіі, прадстаўнікі Парламента Сербіі, сербскай грамадскасці і СМІ. Складальнік "Анталогіі…" — прафесар Белдзяржуніверсітэта Іван Чарота. Перад удзельнікамі прэзентацыі таксама выступілі Пасол Беларусі Уладзімір Чушаў, дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Сербіі Дэян Рысціч, перакладчык "Анталогіі..." сербскі прафесар Міадраг Сібінавіч і дырэктар выдавецтва "Сербская літаратура" Драган Лакічавіч.

✔ Удзельнікамі сёлетняга выпускнога балю для студэнтаў — грамадзян замежных дзяржаў у Беларускім дзяржаўным універсітэце сталі 146 выпускнікоў 14 факультэтаў БДУ. Больш за ўсё дыпломаў сёлета — 94 — атрымалі нядаўнія студэнты эканамічнага факультэта, на другім месцы — Інстытут журналістыкі (13 дыпломаў). З прадстаўнікоў замежных дзяржаў лідзіруюць грамадзяне КНР.

Падрыхтавала
Ярына РЫТАМІНСКАЯ

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Дарогамі лёсу Мікалая Чаргінца

Уладзімір САУЛІЧ,
фота аўтара



Падарунак ад старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Ёсць у многіх казках такі эпізод: герой выязжае на скрыжаванне і павінен выбраць дарогу. А каб падаца адразу па ўсіх кірунках? Нерэальна?

Але гэту думку здолеў абвергнуць Мікалай Чаргінец, старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі. Ён — генерал-лейтэнант, кандыдат юрыдычных навук, спартсмен, вядомы палітычны і грамадскі дзеяч і, нарэшце, знакаміты пісьменнік — аўтар больш як 40 кніг, некалькіх кінасцэнарыяў і 50 навуковых прац.

Ці ёсць у свеце яшчэ такі чалавек, які б спалучыў у адной асобе столькі шматпланавых дасягненняў: у вайсковай галіне, культуры, навуцы і спорце? Такім пытаннем азадачылі сябе члены камітэта кнігі Гінеса і прыйшлі да высновы, што няма. І занеслі беларуса Мікалая Чаргінца ў славутую Кнігу.

І вось гэты незвычайны чалавек пабываў на мінулым тыдні ў Глыбокім. Свой візіт патлумачыў так:

— Па-першае, хацелася сустрэцца з чытачамі вашага цудоўнага гарадка. Па-другое, я з'яўляюся членам аргкамітэта па правядзенні Дня беларускага пісьменства, які пройдзе сёлета ў Глыбокім. Гэта вялікае свята кнігі, пісьменнікаў і краіны ў цэлым. І, канечне ж, цікава, як ідзе падрыхтоўка. У бліжэйшы час сюды прыедзе аргкамітэт у поўным складзе. Вядома, праблем нямала, але ўжо цяпер бачна, што кіраўніцтва раёна, глыбачане, робяць усё, каб свята было светам. Рыхтуецца да яго і наш Саюз пісьменнікаў. Прыступілі да фарміравання вялікай дэлегацыі. Плануем правесці цэлую серыю такіх мерапрыемстваў, як сустрэчы з вучнямі школ, дарослым насельніцтвам горада. Падвядзём вынікі конкурсу на лепшую кнігу года. Па 10 намінацыях будуць вызначаны лепшыя аўтары. Ім будуць уручаны дыпломы і прызы.

Прысутных цікавіла творчасць Мікалая Чаргінца, у якой для чытача нямала загадак. Напрыклад, адкуль ён узяў столькі схаванай за "сямю замкамі" інфармацыі пра колішніх гаспадароў Белага Дома, Прэзідэнта Клінтана, спадарыні Клінтан і іншых для сваёй сенсацыйнай кнігі "Тайна Овального кабинета"? Аказваецца, звышсакрэтную інфармацыю яму выдалі… самі амерыканцы!

— Справа ў тым, — распавёў Мікалай Іванавіч, — што я амаль 12 год прадстаўляў нашу краіну ў ААН, выступаў на Генеральных Асамблеях. Аднойчы, пад смех дэлегатаў, разграміў амерыканцаў за іх рэзалюцыю па Беларусі. І як мне адплацілі? Восенню трэба ехаць на сесію ААН, а мне не даюць візу. Канечне, не маюць на гэта аніякага права. Але не даюць — і ўсё! Выдалі толькі пасля таго, як наша МУС унесла некалькі пратэстаў і ААН — тры ноты. І вось, калі работа заканчвалася, да мяне падышлі двое афіцэраў ЗША з перакладчыкам. "Спадар Чаргінец, а чаго вы гаворыце ўсё Клінтан ды Клінтан? — нечакана папракнулі яны мяне. — Мы ведаем Клінтана як здрадніка, які не захацеў ехаць у В'етнам, забаяўся. За яго паехаў хтосьці іншы і, магчыма, загінуў…" Яны перадалі мне кампрамат на Клінтана і яго жонку, які я і скарыстаў у кнізе. Яе пераклалі 5 краін. Цяпер ідзе размова з Галівудам пра выданне кнігі і напісанне сцэнарыя фільма.

Асобна спыніўся старшыня Саюза на ролі пісьменніка ў грамадстве. Ці павінен пісьменнік быць палітыкам?

— Неабавязкова. А вось у палітыцы разбірацца неабходна. Пісьменнік павінен быць вялікім псіхолагам, гатовым даць чалавеку мудры адказ, параду.

Агучыў Мікалай Чаргінец і такую ініцыятыву: каб пісьменнікі стварылі гісторыю Беларусі ў вобразах славутых землякоў.

І яшчэ — пра маладых аўтараў:

— Трэба чытаць іх, дапамагаць, вучыць, калі ёсць божая іскра!

…Вядома ж, было шмат пытанняў да літаратара: пра дзяцей і ўнукаў, пра сяброўства з сям'ёй першага касманаўта Юрыя Гагарына, пра тое, над чым цяпер працуе. Аднак больш за ўсё хвалявала прысутных, што будзе з кнігай. Ці не заменіць яе камп'ютар?

— Не ўяўляю жыцця чалавека без кнігі, — прызнаўся старшыня Саюза пісьменнікаў. — Ніводзін камп'ютар, ніводзін тэлевізар не дадуць таго духоўнага пажытку чалавеку, як кніга, калі ён будзе трымаць яе ў руках, смакаваць кожнае слова, раздумваць — і душа яго будзе станавіцца чысцей. Гэта важна для кожнага, а больш за ўсё для дзяцей. І таму людзям трэба зрабіць усё, каб вярнуцца да кнігі.

На развітанне Мікалай Чаргінец падараваў Глыбоцкай раённай бібліятэцы кнігі беларускіх аўтараў.

## Водгалас

# Максім Багдановіч: на шляху да кітайскага чытача

Мікола БЕРЛЕЖ

Велічны талент аўтара паэтычнага зборніка "Вянок" вядомы не толькі ў Беларусі, але і ў іншых краінах свету. Творы Максіма Багдановіча гучаць на англійскай, балгарскай, венгерскай, грузінскай, іспанскай, казахскай, літоўскай, малдаўскай, мангольскай, нямецкай, польскай, рускай, славацкай, татарскай, туркменскай, узбекскай, украінскай, французскай, чарнагорскай, чувашскай, харвацкай мовах. Бясспрэчна, засваенне спадчыны класіка беларускай паэзіі ў першую чаргу адбываецца ў літаратуры Расіі, Украіны, Польшчы. А ў 2011 годзе ў кітайскім часопісе "Руская літаратура і мастацтва", які выдаецца ў Пекінскім дзяржаўным педагагічным універсітэце, надрукаваны артыкул Алеся Карлюкевіча і Веранікі Карлюкевіч "Жыў народнымі інтарэсамі…", прысвечаны 120-гадоваму юбілею Максіма Багдановіча. У тэксце цытуюцца вершы "З песняў беларускага мужыка", "Як Базыль у паходзе канаў". Часопіс "Руская літаратура і мастацтва", галоўным рэдактарам якога з'яўляецца доктар філалагічных навук Ся Чжунсянь, у розныя гады звяртаўся да разгляду творчасці Васіля Быкава. Двойчы на старонках выдання друкаваліся артыкулы, прысвечаныя беларускаму мастаку Георгію Паплаўскаму. У якасці ілюстрацыі былі выкарыстаныя яго графічныя работы паводле твораў Янкі Купалы і Васіля Быкава.

І апошняя па часе навіна з Пекінскага педагагічнага ўніверсітэта: аспірантка Інстытута замежных літаратур спадарыня Чжан Юань тэмай сваёй дысертацыі абрала паэзію Максіма Багдановіча.

## Афіцыйна

# Рэарганізацыя — не ліквідацыя!

Раіса СІНЯЎСКАЯ

З супрацоўнікамі РВУ "Літаратура і Мастацтва" днямі сустрэўся намеснік міністра інфармацыі Беларусі Уладзімір Матусевіч. Нагодай стала прынятае рашэнне аб рэарганізацыі ўстановы "Рэдакцыя газеты "Звязда"" шляхам далучэння да яе РВУ "Літаратура і Мастацтва". Падпісаныя адпаведная пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь і загад міністра інфармацыі. "Рэарганізацыя ні ў якім разе не вядзе да змяншэння беларускамоўнай літаратурнай ці інфармацыйнай прасторы — наадварот, адбудзецца канцэнтрацыя творчага і арганізацыйнага патэнцыялу: усе выданні, якія выпускае сёння РВУ "ЛіМ", будуць захаваныя", — падкрэсліў намеснік міністра.

Новая арганізацыя — "Выдавецкі дом «Звязда»" — будзе займацца больш шырокай дзейнасцю, як па выпуску перыядычных выданняў, так і кніжнай прадукцыі, так што тым, хто працуе творча і натхнёна, тут абавязкова знойдзецца месца.

## Канферэнцыі

# Раскрыць таямніцы Гарэцкіх

Марына ВЕСЯЛУХА

Гэтыя браты пакінулі след не толькі ў гісторыі беларускай літаратуры, культуры і навукі — іх асобы значныя для ўсяго свету. Выдатны пісьменнік і літаратуразнаўца Максім Гарэцкі, яго брат, бліскучы геолаг Гаўрыла Гарэцкі стваралі Беларусь, пра якую яны марылі, дзеля якой мусім працаваць і мы. Так, у Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры прайшлі XX Гарэцкія чытанні. Падчас канферэнцыі, арганізатарамі якой выступілі Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры, Інстытут мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі і Рэспубліканскі фонд братоў Гарэцкіх, вядучыя літаратуразнаўцы і архівісты краіны прадставілі свае напрацоўкі ў галіне вывучэння жыццёвага і творчага шляху братоў Гарэцкіх.

У сваім прывітальным слове галоўны рэдактар газеты "Звязда", пісьменнік Алесь Карлюкевіч зазначыў: "Максім Гарэцкі павінен знаходзіцца ў адным шэрагу з волатамі і пачынальнікамі беларускай літаратуры — Купалам, Коласам, Багдановічам. Яго творы вартыя перачытання, тым болей што сам аўтар падкрэсліваў, што піша іх на будучыню". Сапраўды, шмат застаецца нявывучанага ў лёсе і творчасці братоў Гарэцкіх. І знаходкі, якія мусяць дапоўніць гісторыю сям'і, з якой яны паходзяць, былі прадстаўленыя літаральна падчас адкрыцця канферэнцыі. Дырэктар музея гісторыі беларускай літаратуры Лідзія Макарэвіч прэзентавала публіцы два новыя музейныя прадметы. Гэта лісты Галіны Максімаўны Гарэцкай Алесю Пісьмянкову, перададзеныя разам з часткай асабістага архіва паэта. Адзін ліст датаваны 10 снежня 1989 года, другі — 6 лістапада 2001 года.

Што да тэматыкі дакладаў, якія гучалі падчас пленарнага і секцыйных пасяджэнняў, то яна самая разнастайная. Закранулі навукоўцы асноўныя моманты гісторыі стварэння Літаратурнага музея-сядзібы Максіма Гарэцкага, прывялі ўспаміны сучаснікаў пра М. Гарэцкага, звярнулі ўвагу на Гарэцкага як даследчыка літаратуры, публіцыста, разгледзелі свет вобразаў яго твораў у ракурсе эстэтычных канцэпцый, у тым ліку і літаратуры "плыні свядомасці", не абмінулі ўвагай і пытанні вывучэння творчасці М. Гарэцкага ў школе.

Літабсягі

# Старасвецкі баль з Крашэўскім

**Свята, прысвечанае 200-гадоваму юбілею Юзафа Ігнацыя Крашэўскага, ярка і запамінальна справілі ў родных мясцінах раманіста супрацоўнікі музея "Пружанскі палацык". Дзеля гэтага было вырашана перанесці святкаванне традыцыйнай Ночы музеяў на больш позні час і сумясціць абедзве імпрэзы.**

**Ірына МАСЛЯНІЦЫНА, фота Аляксандра Мелеша**

Жыхары Пружан і госці былі адразу ж пастаўленыя перад умовай: тыя, хто хоча узяць удзел у святкаванні, мусяць абавязкова быць апранутымі ў бальныя альбо, на крайні выпадак, вячэрнія строі. Дзіўна, але такі "дрэс-код" зусім не засмуціў мясцовых аматараў гісторыі і літаратуры. У прызначаны час — а менавіта а дзявятай гадзіне вечара — старажытны Пружанскі парк перад графскай сядзібай паноў Швяйкоўскіх, дзе, на думку арганізатараў вечарыны, мог бываць літаратар Крашэўскі, запоўніўся пекнымі паненкамі ў шаўковых уборах, карунках і аксаміце ды іх кавалерамі ў смокінгах. Баль, задуманы паводле ўзору старасвецкага, распачаўся выступленнем камернага хору гарадскога Палаца культуры пад кіраўніцтвам Якава Малайчука. Харыставу змянілі дзяўчаты ў старасвецкіх строях — як у гераінь гістарычных раманаў Юзафа Крашэўскага. Кіраўнік народнай студыі моды і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва "Папараць-кветка" цэнтра творчасці дзяцей і моладзі Вера Лапука падрыхтавала са сваімі выхаванкамі відовішчны танец у стылі беларускага рэнесансу.

Далучыцца да атмасферы свята прысутным дапамаглі таксама народны ансамбль танца "Ойра" і струнны ансамбль "Archi" пад кіраўніцтвам Юліі Сядовай, які на працягу вечара выконваў музыку часоў Крашэўскага.

У кожнай зале "Пружанскага палацыка" наведвальнікаў чакаў прыемны сюрпрыз. Выстаўка народнай творчасці і майстар-клас выцінанкі, які правяла для цікаўных народны майстар Марыя Кулецкая, майстар-клас паланэза, дадзены кіраўніком "Ойры" Васілём Пілюцікам, фотасесія з "гаспадарамі палацыка" панам і пані Швяйкоўскімі, пясочнае шоу і прагляд фрагментаў гофманаўскага фільма "Калі сонца было богам", знятага паводле рамана Крашэўскага. Урэшце, вясёлы аўкцыён "старадаўніх рэчаў", такіх, напрыклад, як выява палацыка ці гусінае пяро, амаль такое, якім пісаў свае шэдэўры пан Юзаф.



*Старадаўні шляхетны паланэз — сімвал эпохі Крашэўскага.*

Аднак галоўнай інтрыгай свята, безумоўна, стала сустрэча з "сапраўднымі" пані Зоф'яй і панам Юзафам Крашэўскімі. Іх ролі выконвалі апранутыя ў сярэднявечны строй і кунтуш (панства XIX стагоддзя надта любіла на сваіх вечарынах пераапранацца ў "гістарычныя сармацкія" касцюмы) навуковы супрацоўнік музея "Пружанскі палацык" Марына Каўтанюк і студэнт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў Ігар Баранаў. Пан Крашэўскі і яго верная спадарожніца правялі для гасцей тэатралізаваную экскурсію "Разам з Крашэўскім", прыгадаўшы асноўныя вехі жыцця класіка-земляка і прадставіўшы спецыяльна падрыхтаваную да свята выстаўку яго кніг, сярод якіх былі і даволі рэдкія выданні.

Завяршылася свята апоўначы захапляльным вогненным шоу.

Артлінія

# Зоркі збіраюцца ў замку

**Сёння, заўтра і ў нядзелю Нясвіж прымае ўдзельнікаў і гасцей фэсту "Вечары Вялікага тэатра ў замку Радзівілаў". Трэцяе лета запар ажыццяўляецца гэты музычна-тэатральны праект, заснаваны НАВТ оперы і балета, Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніяй Беларусі, Нацыянальным гісторыка-культурным музеем-запаведнікам "Нясвіж" пры падтрымцы Міністэрства культуры краіны, Мінскага аблвыканкама, Нясвіжскага раённага выканаўчага камітэта.**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, фота Віктара Кавалёва**

"Вечары..." збіраюць шырокае кола гледачоў, у ліку якіх турысты з розных мясцін Беларусі ды замежжа, сталічныя аматары мастацтва і афіцыйныя асобы. Няма патрэбы тлумачыць, чаму свята высокіх акадэмічных жанраў лёгка і арганічна ўвайшло ў культурную прастору Нясвіжа. Калісьці менавіта тут, у нашай некаранаванай сталіцы (і, як вядома, на гэты год афіцыйна абвешчанай культурнай сталіцы Беларусі), у радзінным доме знаных на ўвесь свет вялікіх князёў Радзівілаў закладаліся традыцыі айчыннага прафесійнага музычна-тэатральнага мастацтва. Сюды запрашаліся на працу выдатныя кампазітары, артысты, мастакі з Еўропы, тут атрымлівалі прафесійную падрыхтоўку і далучаліся да творчасці мясцовыя таленты. Прыдворныя імпрэзы радзівілаўскага Нясвіжа, адукаванасць, творчыя здольнасці ды мецэнацтва гаспадароў замка славіліся на ўсю Еўропу. І "Вечары Вялікага тэатра ў замку Радзівілаў" у аднаўленым сэрцы нашага гістарычнага горада — гэта своеасаблівы працяг тутэйшых старасвецкіх традыцый, вяртанне да магутных каранёў багатай і шматаблічнай беларускай культуры.

"Вечары..." зарыентаваныя на традыцыі правядзення еўрапейскіх фестываляў *open air*, таму большая частка праграмы ладзіцца на вольным паветры, ва ўнутраным замкавым двары. Сёння тут а 21-й гадзіне Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Беларусі прадставіць прэм'еру, самыя першыя паказы якой адбыліся ў Мінску на пачатку гэтага тыдня: аднаўленую пастаноўку "Яўгенія Анегіна" П. Чайкоўскага. Заўтра — вечар аднаактовых балетаў: "Кармэн-сюіта" Ж. Бізэ — Р. Шчадрына, "Балеро" М. Равеля. А ў нядзелю — шыкоўны гала-канцэрт салістаў нашага Вялікага тэатра. Апроч таго, зоркі фестывалю ўпершыню выступяць на новай пляцоўцы — у Тэатральнай зале замка, дзе 23 чэрвеня а 15-й гадзіне прагучыць праграма "Ты словы свае прысвяціў Беларусі". Яна складзена з вакальных твораў на вершы Уладзіслава Сыракомлі. Яшчэ адзін дзённы канцэрт пройдзе ў касцёле Божага Цела: гэта будзе нядзельная сустрэча з музыкай В. Казлоўскага і Ю. Дашчынскага — беларускіх кампазітараў эпохі класіцызму.



*Замак у чаканні фестывалю.*

Повязі

# У промнях Сонца

**Цудоўныя работы са збору Дзяржаўнага гістарычнага музея Масквы можна пабачыць на выстаўцы "Каштоўныя ўзоры. Золата ў помніках дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва". Яны прадстаўленыя ў Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь. Праект у нашай краіне ажыццёўлены дзякуючы фінансавай падтрымцы кампаніі "Japan Tobacco International".**

**Дар'я ШОЦІК, фота аўтара**

Ва ўсе часы золата лічылася каштоўным металам, які вабіў прыгажосцю. Яго бляск зачароўвае чалавека. Вядомы рускі вучоны Міхаіл Ламаносаў заўважыў: "Першы высокі метал ёсць золата, якое праз свой выдатна жоўты колер і бліскучую светласць ад іншых металаў адрознае". І сапраўды, гэты метал выкарыстоўвалі ў аздабленні розных прадметаў, для ўпрыгожвання кніг. Менавіта таму кнігі лічыліся ўнікальнымі, цяпер яны разглядаюцца як помнікі пісьменства свайго часу.

Пра сяброўскія адносіны з Дзяржаўным гістарычным музеем Масквы, праекты, якія ствараліся сумесна, распавяла ў сваім выступленні намеснік дырэктара Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь Ніна Калымага.

— Такая выстаўка з'яўляецца знамянальнай, бо гістарычныя шляхі нашых краін перасякаліся, мы маем узаемны культурны ўплыў, а значыць, мы цікавыя адно аднаму і па сёння.

Выстаўка "Каштоўныя ўзоры" эстэтычная, непаўторная, і пра гэта сведчаць больш як 130 прадметаў гісторыі, культуры і мастацтва, дбайна адабраныя, каб паказаць беларусам багацце калекцый нашага музея, — падкрэсліла намеснік дырэктара па фондавай рабоце Дзяржаўнага гістарычнага музея Масквы Марына Чысцякова.



*Падарунак ад расійскіх калег.*

Найбольш старажытным з экспанатаў лічыцца пергаментны ліст з унікальнай харавой кнігі XIV ст. Самыя познія — сярэбраныя пазалочаныя брацыны і коўш, зробленыя з выкарыстаннем вітражнай эмалі ў Маскве ў 1980-х гг. ювелірам Яўгенам Сарыкіным. Арганізатары выстаўкі — Таццяна Сізова, Эмілія Шульгіна, каардынатар праекта — Таццяна Мартынава.

З-пад пяра

➤ Бібліятэкі Слуцкай раённай сістэмы публічных бібліятэк, школы Случчыны ўдзельнічаюць у рэспубліканскай акцыі "Чытаем разам — чытаем па-беларуску". Спрыяе гэтаму міні-праект "Чытаем разам з пісьменнікам". Гарадскую дзіцячую бібліятэку-філіял № 3 наведалі Алена Масла, Уладзімір Ягоўдзік, Рагнед Малахоўскі, Ганна Міклашэвіч. Па-сапраўднаму святочнымі атрымаліся прэм'ера кнігі "Зялёны лісток на планеце Зямля" (да 75-годдзя Я. Сіпакова), падарожжа па старонках беларускай літаратуры "Зрабі свой выбар".

**Ларыса ЦІШКЕВІЧ**

➤ Нядаўна ў сталічнай бібліятэцы № 5 прайшлі арганізаваныя Мінскім гарадскім аддзяленнем СПБ літаратурныя чытанні "Таласы маладых". Маладыя аўтары чыталі ў гэты вечар свае творы. Вершы выпускніцы філалагічнага факультэта БДУ Маргарыты Латышкевіч публікаваліся ў "ЛіМе" і "Маладосці". Ганна Чумакова друкавалася не толькі ў газетах і часопісах, яна са сваёй нязменнай спадарожніцай гітарай не раз зачароўвала студэнцкую аўдыторыю. У 15-гадовай школьніцы Каці Масэ незадоўга да сустрэчы ў серыі "Мінскія маладыя галасы" ўбачыла свет першая кніжка "Льецца святло ў маё акно". Першакурсніца БНТУ, пераможца паэтычнага конкурсу ўніверсітэта Наста Ланеўская перад шырокай аўдыторыяй выступала ўпершыню. У бібліятэцы ў гэты дзень акрамя маладых паэтак прысутнічалі і аўтары, ужо знаёмыя аматарам паэтычнага слова, — адказны сакратар часопіса "Маладосць" Рагнед Малахоўскі і паэт Дзмітрый Дземідовіч. Яны выступілі не толькі з пажаданнямі юным творцам, але і з уласнымі вершамі. Вяла вечар паэтка Лізавета Палеес.

**Алена ПАЛЬ**

➤ Рашэннем Віцебскага абласнога выканаўчага камітэта зацверджана "Літаратурная прэмія імя Петруся Броўкі". Яна заклікана актывізаваць стварэнне літаратуры высокага мастацкага ўзроўню, якая ўзбагаціць айчынную культуру. Кандыдатам на прысуджэнне прэміі можа быць як адзін творца, так і калектыў аўтараў. Вылучэнне кандыдатаў адбываецца працоўнымі калектывамі, грамадскімі аб'яднаннямі, якія дзейнічаюць на тэрыторыі Віцебскай вобласці. Для вызначэння лаўрэатаў у трох намінацыях (проза — у тым ліку публіцыстыка і драматургія, — паэзія і літаратура для дзяцей) ствараецца адпаведная камісія. Лаўрэатам будуць уручацца дыпломы і грашовыя прэміі.

**Тамара КРАСНОВА-ГУСАЧЭНКА**

➤ У гасцёўні літаратурнага аб'яднання "Пралеска", якое шмат гадоў плённа дзейнічае пры раённай бібліятэцы г. Гомеля, адбылася прэзентацыя першага зборніка паэзіі Марыны Башуравай "У кроплях акварэлі". Рэдактар зборніка — Ніна Шклярава, член Саюза пісьменнікаў Беларусі, лаўрэат многіх літаратурных прэмій, кіраўнік школы-студыі "Малады літаратар". У сваёй скарбонцы маладая паэтка мае дзве вышэйшыя адукацыі, захапляецца жывапісам, фатаграфіяй. Піша на рускай, украінскай і англійскай мовах. Амаль усе творы М. Башуравай напоўнены непаўторным святлом. У вершаваных радках адчуваецца рамантычнасць, глыбокі філасофскі роздум, узнёслыя летуценні закаханай лірычнай гераіні, яе перажыванні, імкненне да святла, да існасці жыцця. Творы Марыны Башуравай запамінаюцца цікавымі пейзажнымі замалёўкамі, непаўторнымі вобразамі, вылучаюцца навізной.

Упэўнена, што першы зборнік Марыны Башуравай не пакіне раўнадушнымі чытачоў.

**Ганна РОШЧАНКА**

# Інбелкульту — 20!

## У Інстытуце культуры Беларусі прайшлі ўрачыстыя мерапрыемствы, прысвечаныя 20-годдзю яго дзейнасці.

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

З якога часу варта весці адлік у гісторыі Інбелкульта? Педантычныя гісторыкі абавязкова згадаюць, што ў 1922 — 1928 гадах у БССР існаваў Інстытут беларускай культуры, які быў ператвораны ў Акадэмію навук. Калі кіравацца часам узнікнення арганізацый, што з'яўляліся непасрэднымі папярэднікамі сучаснага Інбелкульта, дык кропкай адліку стане 1944 год. Менавіта з таго часу ў беларускай сталіцы існаваў Рэспубліканскі Дом народнай творчасці, які на апошняй стадыі існавання СССР меў назву Рэспубліканскі навукова-метадычны цэнтр культуры. Паралельна з ім у беларускай культурнай прасторы дзейнічалі Рэспубліканскі інстытут павышэння кваліфікацыі работнікаў культуры і Рэспубліканскі метадычны кабінет навучальных устаноў культуры і мастацтваў. У выніку аб'яднання трох устаноў 3 чэрвеня 1991 года быў створаны Беларускі інстытут праблем культуры, які пасля шэрагу арганізацыйных пераўтварэнняў атрымаў у 2010-м сучасную назву. Сённяшні Інбелкульт забяспечвае павышэнне прафесійнага ўзроўню і перападрыхтоўку кіруючых работнікаў і спецыялістаў сферы культуры, рэалізуе навукова-метадычную і прагнозна-аналітычную дзейнасць, а таксама прадстаўляе беларускую культуру за мяжой.

Галоўным мерапрыемствам, якое было прысвечана 20-годдзю дзейнасці Інбелкульта, стала міжнародная навукова-практычная канферэнцыя "Культура Беларусі: рэаліі сучаснасці", якая прайшла з удзелам каля 120 навукоўцаў з Беларусі, Азербайджана, Германіі, Кітая, Літвы, Расіі, Турцыі, Украіны і Японіі. На ёй былі абмеркаваны вынікі і дасягненні айчыннай культуры за гады незалежнасці і перспектывы яе развіцця ў кантэксце сучасных сусветных сацыякультурных працэсаў.

На адкрыцці канферэнцыі з уступным словам выступіў міністр культуры Беларусі Павел Латушка. У грунтоўнай прамове знайшлі адлюстраванне асноўныя кірункі развіцця нацыянальнай культуры, якая, на думку Паўла Паўлавіча, развіваецца надзвычай дынамічна. Стратэгія яе развіцця вызначаецца праграмай "Культура Беларусі", разлічанай да 2015 года. Як афарыстычна заўважыў міністр, бюджэтная палітыка павінна пераарыентавацца з кіравання выдаткамі на кіраванне вынікамі. Была звернута ўвага на шэраг заканадаўчых актаў, якія дазволяць рэалізаваць гэты прынцып. У кантэксце юбілею ўстановы вельмі цікавай падалася інфармацыя пра перадачу Інбелкульту архіва колішняга Нацыянальна-навуковага цэнтра імя Ф. Скарыны. Гэты ход дазволіць вывучыць яго дзейнасць, а таксама больш эфектыўна пабудаваць адносіны з беларускай дыяспарай за мяжой.

Дырэктар Інстытута імя Гётэ ў Мінску Франк Бауман прызнаўся, што яму часта задаюць пытанне: як беларуская культура прадстаўлена ў Еўропе? З аднаго боку, яно сведчыць пра цікавасць еўрапейцаў да Беларусі. З другога — гэта задача хутчэй стаіць перад Інбелкультам, які мае тыя ж мэты, што і Інстытут імя Гётэ. Грунтуючыся на ўласным досведзе, Ф. Бауман назваў тры фактары поспеху: вельмі прафесійны і дасведчаны калектыў, разгалінаваная сетка партнёраў унутры краіны і добры бюджэт. Пры выкананні гэтых умоў шлях на вывучэнні і прапагандзе культуры будзе не такі пакручасты.

Кіраўнік Інфацэнтра японскай культуры ў Беларусі Масака Тацумі нагадала, што праз два гады будзе адзначацца 200-годдзе з дня нараджэння беларуса Іосіфа Гашкевіча, які з'яўляўся першым консулам Расійскай імперыі ў Японіі і стваральнікам японска-рускага слоўніка. Дадам ад сябе, што распрацоўку адпаведных урачыстасцей маглі б узяць на сябе Інбелкульт і Інфацэнтр. У завяршэнне свайго выступлення спадарыня Тацумі прачытала ўласны пераклад верша Янкі Купалы "А хто там ідзе?" на японскую мову.

Юрый Бондар і Марына Мажэйка, адпаведна — першы прарэктар і прарэктар Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў, падкрэслілі, што 20-годдзе Інбелкульта з'яўляецца і іх святам. Перыяд сумеснага знаходжання пад адным дахам (у 2007 — 2010 гадах Інстытут уваходзіў у склад універсітэта) яны жартам назвалі марганатычным шлюбам, які закончыўся шчаслівым разводам і падарыў абодвум бакам цудоўныя ўспаміны.

Удзельнікаў мерапрыемства і супрацоўнікаў Інбелкульта таксама павіншавалі загадчык аддзела статыстыкі і сацыялогіі навукова-метадычнага цэнтра па культуразнаўстве Міністэрства культуры і турызму Азербайджанскай рэспублікі Бабузадэ Абульфас, дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Раман Матульскі, старшыня Мінскага гарадскога камітэта прафсаюзаў работнікаў культуры Віктар Маліноўскі і рэктар Акадэміі паслядыпломнай адукацыі Андрэй Манастырны.

Пасля пленарнага пасяджэння дыскусіі працягнуліся на секцыях, назвы якіх сведчаць пра надзвычай шырокі спектр праблем, што ўздымаліся ўдзельнікамі. Гэта "Традыцыйная культура Беларусі", "Мемарыяльныя аспекты культуры ("культура памяці")", "Інстытут культуры Беларусі ў структуры прафесійнай адукацыі ў сферы культуры", "Інфарматызацыя і сістэмны аналіз", "Прафесійнае мастацтва сучаснай Беларусі: выбар альтэрнатыў і творчай стратэгіі". Таксама прайшлі два "круглыя сталы": "Рэспубліканскі савет дырэктараў абласных метадычных цэнтраў народнай творчасці", які каардынаваў рэктар Інстытута культуры Беларусі Іван Крук, і "Кіраўнічыя практыкі і маркетынгавыя камунікацыі ў музейнай дзейнасці" (каардынатар Ірына Лапцёнак, начальнік аддзела навукова-метадычнага забеспячэння развіцця музейнай дзейнасці ўстановы).

Акрамя міжнароднай канферэнцыі ў сценах Інбелкульта прайшло некалькі выставак. Фатаграфічная адлюстравала гісторыю інстытута. Выстаўка выданняў, якія ў розны час былі падрыхтаваны супрацоўнікамі інстытута, дала магчымасць уявіць яго выдавецкую дзейнасць. Таксама былі прадстаўлены работы лаўрэатаў спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі: больш як два дзясяткі жывапісных палотнаў, а таксама творы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

Падчас урачыстасцей адбылася прэзентацыя пілотнага нумара "Весніка Інстытута культуры Беларусі". Прыемна, што навукоўцы атрымалі яшчэ адну пляцоўку для ўласных даследаванняў.

# Выхадных на граніцы няма

Леанід КРЫВАНОС, фота аўтара

"На границе тучи ходят хмуро…" Памятаеце гэтую песню? Дык вось, калі ў пачатку чэрвеня літаратурны дэсант Мінскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі высадзіўся ў Гродзенскай пагранічнай групе, надвор'е амаль што адпавядала тым песенным радкам. Шквальныя парывы ветру, дождж, здавалася, прымушалі хутчэй сядзець недзе ў цёплым памяшканні, чым выходзіць на вуліцу. Але дрэннае надвор'е — не падстава для палягчэння службовых абавязкаў. Наадварот — у гэтых складаных для службы і адначасова спрыяльных для парушальнікаў граніцы ўмовах ахова дзяржаўнай мяжы асабістым саставам пагранічнай заставы "Соніцы", куды спачатку завіталі пісьменнікі, ажыццяўлялася ў яшчэ больш напружаным рэжыме. Як адзначыў камандзір падраздзялення Яўген Гоман, адказнасці і пільнасці ніхто не адмяняў.


Мемарыял: на месцы былой заставы.

У адпаведнасці з пагадненнем аб супрацоўніцтве, якое ў свой час падпісалі старшыня Дзяржпагранкамітэта генерал-маёр Ігар Рачкоўскі і старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец, гэта было чарговае планавае мерапрыемства — творчая сустрэча пісьменнікаў з воінскімі калектывамі граніцы. І таму ў абвешчаны Прэзідэнтам Беларусі Год кнігі група літаратараў Міншчыны (намеснік старшыні Мінскага абласнога аддзялення СПБ Анатоль Смалянка, Павел Жукаў, Рыгор Саланец і аўтар гэтых радкоў) пад кіраўніцтвам першага сакратара праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі Генадзя Пашкова прыехала да гродзенцаў, каб расказаць пра сваю творчасць, пісьменніцкую арганізацыю, пазнаёміцца з бытам і службовымі ўмовамі пагранічнікаў, знайсці матэрыялы з жыцця для сваіх будучых твораў. А самае галоўнае — сустрэцца з вайскоўцамі пагранічнай заставы "Лясная", над якой шэфствуе Мінская вобласць.

Пагранічнікі "Соніцы" паказалі пісьменнікам жылыя і службовыя памяшканні заставы, узбраенне, расказалі пра вынікі аператыўна-службовай дзейнасці. Так, размаўляючы, удзельнікі сустрэчы перайшлі да творчасці. Цяпер ужо вайскоўцы з захапленнем слухалі гасцей. Пра сваё ваеннае і творчае жыццё гаварыў палкоўнік у адстаўцы, заслужаны журналіст Рэспублікі Беларусь, празаік Анатоль Смалянка, чытаў свае вершы лаўрэат дзяржаўнай прэміі Беларусі Генадзь Пашкоў, дзяліліся ўспамінамі і дэкламавалі творы іншыя пісьменнікі. Пакуль ішоў дыялог, нехта з пагранічнікаў рыхтаваўся да службы, іншыя, наадварот, толькі падыходзілі. Адным словам, граніца жыла сваім клопатам. Таму, на жаль, не ўсе ваеннаслужачыя здолелі сустрэцца з намі. Аднак мы пакінулі бібліятэцы заставы паліцу кніжак беларускіх літаратараў.


Уручэнне кніг на пагранічнай заставе "Лясная".

Далей наш шлях палягаў у Белавежскую пушчу, дзе ў рэліктавым лесе размясцілася пагранічная застава "Лясная". Перад гэтым наш спадарожнік — начальнік сацыякультурнай і аркестравай службы палкоўнік Аляксандр Сушыцкі адвёз гасцей на месца, дзе некалі размяшчалася адна з пагранічных застаў, якой перад Вялікай Айчыннай вайной камандаваў старшы лейтэнант Кірычэнка і якая 22 чэрвеня 1941 года ў ліку першых прыняла на сябе ўдар нямецка-фашысскіх захопнікаў. Амаль што ўсе пагранічнікі загінулі. Сёння ў тым месцы знаходзіцца мемарыял, пабудаваны на добраахвотныя ахвяраванні беларускіх пагранічнікаў, а сведчаннем жудасных часоў застаўся фундамент ад будынка заставы.

…Праз некалькі гадзін нас ужо сустракалі зусім па-зямляцку. Бо большая колькасць вайскоўцаў "Ляснойд" — з Міншчыны. Тут прадоўжыліся літаратурныя дыскусіі, размовы пра службу, жыццё. Вадзім Курасевіч з задавальненнем зазначыў, што хлопцы са сталічнай вобласці адказна выконваюць абавязкі, бо лічаць службу на граніцы высокім даверам землякоў. Так на практыцы рэалізуецца слоган пра дзяржаўную мяжу, якую ахоўвае ўвесь народ.

Мы паабяцалі, што зноў прыедзем да пагранічнікаў, але з творамі, героямі якіх, магчыма, стануць тыя, з кім мы сустракаліся.

# Расказаў туркменскі дыван

**Вялікая Айчынная вайна ўсё далей і далей ад нас. Здавалася б, за дзесяцігоддзі, што мінулі з тых жахлівых часін, ужо нічога новага і не раскажаш пра дні, напоўненыя болем і крывёю. І ўсё ж, здараецца, жыццё, знаёмства з асобнымі забытымі лёсамі прыносяць сапраўдныя адкрыцці.**

**Кастусь ЛАДУЦЬКА**

У скарбонцы памяці, якой з'яўляецца Беларускі дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, ёсць цікавы экспанат: ручной работы туркменскі дыван з партрэтам камандуючага 1-га Беларускага фронту маршала Савецкага Саюза Канстанціна Ракасоўскага. У музей дыван перадала сям'я военачальніка ў 1968 годзе. Дарэчы, зусім нядаўна фотаздымак унікальнага твора дэманстраваўся на беларускай выстаўцы ў Музеі выяўленчага мастацтва Туркменістана ў Ашхабадзе.

Якая ж гісторыя хаваецца за дываном, які быў сатканы туркменскімі майстрыхамі ў 1943 годзе? Пачатак гісторыі — у Туркменістане. У 1941 годзе пабраліся шлюбам аднавяскоўцы з аула Саюналы Тахтабазарскага этрапа — Агульбіке і Агаберды. Каханне паяднала гэтых маладых людзей. Агульбіке было толькі 20 "з хвосцікам". Яна працавала настаўніцай у ауле Марчак. А завочна закончыла Марыйскі педагагічны тэхнікум. Агаберды і яго жонка марылі пра вучобу ў інстытуце. Ды пачалася вайна. Агаберды пайшоў на фронт.

Агульбіке Аразгельдыева вучыла дзяцей. Адпрацаваўшы на ўроках у школе, бегла на працу ў поле. Часта вяла сярод дэхкан тлумачальную работу, расказвала пра падзеі на фронце. І часта пісала лісты свайму мужу. А ў пісьмах заўсёды былі вершы, што нараджаліся ў яе познімі вечарамі. Пра што расказвала ў вершах маладая туркменская жанчына і, мяркуючы па ўсім, таленавітая паэтэса-пачатковец?.. "Сваё ты, вораг, атрымаеш!..", "Шукаючы вас", "Вяртайся!" — вось назвы некаторых твораў. Пісала Агульбіке пра тое, што фашысцкія гады будуць пакараныя за ўсе здзекі і ўсё зло, што прычынілі савецкім людзям, пра тое, што яна і ўсе аднавяскоўцы жывуць верай у вяртанне дадому сваіх мужоў, сыноў, бацькоў.

Жыхары Марчака ведалі, што Агульбіке піша вершы, часта прасілі яе прачытаць новыя творы, перапісвалі шчымлівыя радкі для сябе і захоўвалі гэтыя лісточкі як самае дарагое, цытавалі іх быццам малітвы-абярэгі. Разам з іншымі жанчынамі Агульбіке збірала ў Фонд абароны сродкі, каштоўнасці. Жыхары калгаса "Тузыл гошгун" сабралі сярод іншага і 84 кілаграмы срэбра. Захаваліся кадры кінахронікі з эпізодам, дзе маладая прыгожая туркменка ў белай хустцы здае ўласныя ўпрыгожванні. Гэта — Агульбіке. Пры канцы 1943 года працаўніцы Марыйскага велаята сабралі цэлы эшалон падарункаў франтавікам. Жанчыны, сярод якіх была і Агульбіке, выткалі дыван з партрэтам маршала К. Ракасоўскага. Ведалі, што іх падарункі павінны патрапіць на 1-ы Беларускі… Там, дарэчы, ваяваў і муж настаўніцы і паэтэсы — Агаберды.

Разам з іншымі туркменкамі паехала на фронт і Агульбіке. Дыван з партрэтам быў уручаны асабіста ставутаму военачальніку. Расказала туркменка і сваю ўласную гісторыю… Камандуючы фронту даў загад арганізаваць сустрэчу жанчыны з мужам. Быў вядомы нумар палявой пошты. Агульбіке паказала маршалу ліст, які ведала на памяць. Але Агаберды быў на самым перадавым участку фронту. Удалося ў гэтай ваеннай калатнечы арганізаваць толькі тэлефонную размову. Можна ўяўляць, якой цеплынёй дыхалі словы закаханых людзей. Яны ж пражылі разам толькі тры месяцы…

З фронту Агульбіке прыехала ўзнёслая, усхваляваная. Новыя вершы так і ліліся з яе шчодрай душы, з яе шчырага сэрца. Як і гэты твор — "Шукаю цябе".

*Мы с земляками собрались в дорогу,*
*Путь нам далёкий предстоял и долгий —*
*Солдатам с Родины подарки привезти.*
*Мы едем на войну с надеждой вас найти.*

*Хоть фронт далёк, но дух войны повсюду,*
*Растёт тревога —*
*что же дальше будет…*
*Не знала я, что этот путь так труден,*
*Но мы идём вперёд с надеждой вас найти.*

*Неделя проходила за неделей,*
*То ехали, то шли — душа вперёд летела.*
*Земля в огне, а значит, мы у цели.*
*Мы на войне с надеждой вас найти.*

*Тяжёлый воздух порохом пропитан,*
*Болит душа за раненых, убитых.*
*Теперь уже вовеки не забыть нам*
*Дорог, что мы прошли, чтоб вас найти.*

*Я чувствую, ты здесь, ты где-то рядом —*
*Агаберды! И встреча нам в награду,*
*За то, что я прошла сквозь все преграды,*
*С надеждой в сердце, что найду тебя.*

*Но бой идёт — и ты на поле боя!*
*Нам сквозь огонь*
*не встретиться с тобою,*
*Лишь долетел*
*по рации твой голос —*
*Я счастлива — ты жив,*
*и я нашла тебя.*

**(Падрадкоўны пераклад з туркменскай мовы.)**

…Усё было ў новых творах — і пяшчота, і трывога, і боль, і, канечне ж, каханне. Прывезла Агульбіке ў аул і патэфон, які туркменцы падараваў маршал Ракасоўскі. Дарэчы, патэфон гэты захоўваецца ў туркменскім паселішчы і сёння.

А следам за вяртаннем дэлегацыі, якая наведала байцоў на 1-м Беларускім, прыйшла праз лічаныя месяцы ў аул Марчак журботная вестка: загінуў муж Агульбіке — Агаберды. Маладой паэтэсе здавалася, што гэтага не можа быць, для яе па-ранейшаму гучаў голас з палявога тэлефона: "Родная, мілая! Што ты робіш у гэтым полымі?! Цябе ж можа спаткаць куля! Хутчэй ад'язджай адсюль! Закончыцца вайна, і мы абавязкова з табой сустрэнемся! Чакай мяне!.." Не дачакалася. Агаберды загінуў. І сэрца яе не вытрымала. У 1949 годзе маладая жанчына і паэтэса пайшла з жыцця…

Землякі і цяпер трымаюць у памяці вобраз Агульбіке. А ў 2005 годзе вядомы туркменскі пісьменнік Агагельды Алланазараў падрыхтаваў вершы Агульбіке Аразгельдыевай і выдаў асобнай кнігай пад назвай "Світанне лёсу". Усё ж лёс яе атрымаўся спраўджаны — у каханні, любові да Радзімы, у выкананым перад ёю абавязку, перад родным і каханым Агаберды, якога яна так чакала з фронту!..

*Партрэт на фоне кнігі*



# Высокае і рамантычнае не павінна знікаць

**Навум Гальпяровіч — адзін з самых пазнавальных пісьменнікаў сучаснай Беларусі. Галоўнаму дырэктару радыёстанцыі "Беларусь", вядомаму паэту і публіцысту, яму часта даводзіцца быць у цэнтры ўвагі падчас усемагчымых мерапрыемстваў рэспубліканскага і міжнароднага значэння. Актыўны ўдзел Навума Якаўлевіча, які заўжды выступае шчырым патрыётам роднага Полацка, у падрыхтоўцы і правядзенні юбілейных урачыстасцей, прысвечаных 1150-годдзю гэтага, самага, пэўна, старажытнага беларускага горада, зрабілі свята яшчэ больш яркім і запамінальным. А днямі Навум Гальпяровіч за сваю актыўную культурна-асветніцкую дзейнасць стаў ганаровым грамадзянінам Наваполацка, горада-спадарожніка сівога бацькі-Полацка, што, безумоўна, не магло не ўзрадаваць шматлікіх сяброў і прыхільнікаў паэта.**

**Ірына МАСЛЯНІЦЫНА, фота Кастуся Дробава**

Калі ўспамінаеш сяброў чалавека, адразу ж у памяці ўзнікаюць і згадкі пра нядобразычліўцаў. Аднак Навум Якаўлевіч, здаецца, адзін з нямногіх, хто зусім не мае ворагаў, настолькі шчыра і ветліва ставіцца ён да кожнага, з кім зводзіць яго жыццё ці праца. Шчырасці і добразычлівасці, як і ўменню сябраваць, паводле слоў паэта, ён навучыўся ў герояў кніг, якія былі самымі лепшымі яго сябрамі з дзяцінства.

— Я ўвогуле ў юнацтве чытаў вельмі многа, запоем, — кажа Навум Якаўлевіч. — Навучыўся ў пяць гадоў і з тых часоў не развітваўся з кнігамі. У школу ішоў — абавязкова браў з сабой мастацкую кніжку. І, канечне ж, ведаў, што на ўроку нават заглядваць у яе нельга, але дзеля чагосьці ж існуюць перапынкі!

***— Зразумела, што ў маленстве вашымі сябрамі былі казкі, а на якіх герояў "раўняліся" ў гэтак званыя піянерскія гады?***

— Казак, як ні дзіўна, у маім дзяцінстве было не так шмат, як у іншых. Хаця час ад часу браў у рукі казкі Братоў Грым. Але яны такія страшныя. Я перад сном адну прачытаю, а потым сняцца нейкія пачвары… Мяне больш вабіла прыгодніцкая літаратура для падлеткаў і старшакласнікаў. Вось памятаю, з якім захапленнем чытаў, а пасля і перачытваў некалькі разоў кнігу Валянціны Асеевай пра Васька Трубачова і яго таварышаў, пра тое, як дзеці трапілі ў акупацыю і змагаліся з фашыстамі. Надта любіў кніжку Аркадзя Гайдара "Цімур і яго каманда". У чацвёртым класе мы пад уплывам гэтай аповесці нават стварылі нейкае таемнае таварыства, не ведалі, праўда, чым займацца. Але надта хацелася рабіць штосьці добрае, патрэбнае. Сярод маіх любімых кніг былі раманы Аляксандра Дзюма і Фенімора Купера, Жуля Верна і Луі Бусенара. І — творы фантастаў. Гэтае захапленне фантастыкай, дарэчы, засталося на ўсё жыццё. Я вельмі люблю братоў Стругацкіх, перачытваю і Айзека Азімава, і Рэя Брэдберы…

***— Трэба думаць, ніякія, нават самыя вялікія "касмічныя" жахі не спалохаюць чытача пасля Братоў Грым! Навум Якаўлевіч, я назвала б вашу паэзію як патрыятычны рамантызм. У больш маладога пакалення паэтаў рамантызму хапае, а патрыётыкі — не. Безумоўна, час цяпер не такі, каб моладзь масава чытала Асееву і Гайдара. А на чым жа выхоўваецца сёння патрыятычным рамантыкам?***

— Безумоўна, мы ў маладосці знаходзілі вакол сябе значна больш рамантычнага. Можа, тыя кнігі, якія гадавалі нас, былі і занадта пафасныя, можа, там было шмат непраўдападобнасцей. Але пасля іх сапраўды хацелася рамантыкі. Аднак не толькі Гайдар ды Асеева выхавалі мяне рамантыкам і патрыётам. У значна большай ступені тут заслуга майго горада. Калі я пазнаёміўся ўпершыню з героямі Полацка — у часы майго дзяцінства і юнацтва рэдка пісалі пра Усяслава Чарадзея, Еўфрасінню Полацкую, веды пра наша слаўнае мінулае прыходзілі выпадкова і таму яшчэ больш уражвалі — я зразумеў насамрэч, што такое рамантыка, і прасякнуўся неверагоднай павагай і любоўю да роднай гісторыі. Я мроіў князем Усяславам, які "шэрым ваўком" абарочваўся, калі за ноч з Кіева ў Полацк прыскочыў. Я адчуваў асалоду ад таго, што праходжу па тых жа мясцінах, дзе ступала нага Еўфрасінні…

А яшчэ на патрыятызм паўплываў, як пэўна можа сказаць шмат хто з нас, Уладзімір Караткевіч. Асабліва яго раман "Каласы пад сярпом тваім". Караткевіч здзейсніў сапраўдны подзвіг, памяняўшы у нашай свядомасці ўяўленне пра продка-беларуса, "пана сахі і касы", на яркі і рамантычны вобраз годнага рыцара. Высакародныя людзі, высокія мэты, героіка… Нам, сапраўды, патрэбны патрыятычны рамантызм. Каб любоў да радзімы была не спажывецкая, а ўзнёслая. У нашым паўсядзённым жыцці цяпер да крыўднага мала высокага, мы ўсё апускаем да ўзроўню пралічвання, праграмавання. Але ж нельга жыць, увесь час гледзячы толькі на зямлю. Трэба калісь вочы і на неба ўзняць. Высокае і рамантычнае не павінна знікаць, бо без гэтага чалавек ніколі не рэалізуе сябе паўнавартасна, нават стаўшы паспяховым у бізнесе, нават пабудаваўшы сабе, скажам, шыкоўную вілу, прыдбаўшы раскошную машыну, яхту…

***— Былі часы, калі да творцаў ставіліся як да пракокаў. Вялікіх раманістаў прыраўноўвалі па ўплывовасці да правадыроў дзяржаў. Аднак сёння ўсё перамянілася, ды і літаратары, бывае, ставяць сябе ў пазіцыю лёкаяў, якія пытаюцца ў натоўпу: "Чаго жадаеце?" — перад тым, як сесці за пісьмовы стол. Як могуць яны ўвогуле выхаваць свайго чытача?***

— Сапраўды, часам мы прыніжаем ролю пісьменніка, зводзім яе толькі да ролі чалавека, які задавальняе попыт. Жаночыя раманы трэба — літаратар іх напіша, дэтэктывы — значыць, будуць дэтэктывы, каб пацешыць людзей, заняць іх вольны час. Але выхоўвае зусім не такая літаратура, і ўсе мы гэта ведаем. Калі нараджаецца вялікі твор — гэта вялікае шчасце. Гэта як зорка новая нараджаецца. Бо сапраўдны пісьменнік — гэта чалавек, які ўмее слухаць Нябёсы. Вялікія мастакі слова — гэта людзі, якіх можна прыраўняць да апосталаў, да падзвіжнікаў. Цяжка ўявіць свет без кніг Талстога, Гамера, Фолкнера. Іх ведаюць ва ўсім свеце. Гэта — творы назаўжды. Вялікія кнігі ствараліся ва ўсе часы, і, безумоўна, будуць узнікаць і надалей.

***— Ці дапушчальна аўтару трапаведаваць у сваіх кнігах адно і зусім іншае рабіць у жыцці?***

— Той, хто займаецца літаратурай усур'ёз, павінен ведаць, што яму трэба заставацца з чыстымі рукамі і з чыстымі помысламі. Таму брыдка, калі нехта пачынае ў даследчыцкіх працах пра вялікіх прыводзіць усялякія плёткі, капацца ў бялізне. А яшчэ я пакутліва перажываю, калі літаратары, нашы сучаснікі, публічна абліваюць адзін аднаго брудам. Я лічу, гэта недапушчальна, бо ніякім чынам не павышае прэстыж пісьменніка ў грамадстве. І мне сорамна, калі людзі, якія пішуць кнігі, пачынаюць, як на кухні, публічную сварку паміж сабой на старонках выданняў. Пісьменнік, як і святар, прамаўляе Боскае слова. І таму ён павінен адпавядаць таму, што прапаведуе.

# Сардэчная споведзь

**Уздзенская сярэдняя школа-інтэрнат… Малады выкладчык беларускай мовы і літаратуры, выпускнік далёкага 1962 года, стараецца заваяваць сімпатыі пяцікласнікаў, дзяцей небяспечнага ўзросту, да таго ж напалову сірот, а то і ўвогуле бязбацькавічаў, "прышчапіць" ім любоў да прыгожага пісьменства. Урокі ёсць урокі. Абавязковыя. Часам падобныя, як блізняткі. Трэба было ўнесці нейкую разынку, зацікавіць выхаванцаў нечым неардынарным, адметным, ажывіць хрэстаматыйныя постаці пісьменнікаў…**

Мікола МІШЧАНЧУК

Настаўнік-пачатковец у маёй асобе пакуе рукзак, бярэ сухі паёк, неабходную экіпіроўку для дзяцей, колькі палаток і ідзе ў турыстычны паход па літаратурных мясцінах Уздзеншчыны. Узрушаныя, бадзёрыя дзяўчаткі і хлопчыкі літаральна "глыталі" словы сваякоў Паўлюка Труса і Кандрата Крапівы, да якіх мы завіталі. Пасля было наведванне радзімы Алеся Якімовіча — вёскі Чурылава. Была зорная ноч, праведзеная ў палатках, на ўскрайку светлага гаю. Усё як у дарослых турыстаў, як у рэальным паходным жыцці. Той паход прыхінуў да настаўніка дзяцей, пакінуў выразны след у іх душах. Літаратуры стала вучыць значна лягчэй, бо памякчэлі сцятыя жыццёвымі непрыемнасцямі, сямейнымі сваркамі ды звадкамі сэрцы маіх выхаванцаў, адкрыліся насустрач сонцу…

Прыгадалася ўсё гэта пасля чарговага чытання-перачытвання кнігі чуйнага да прыгажосці, да праблем выхавання мастацкім словам Алеся Карлюкевіча "І марам волю дам: літаратурная карта Пухавіччыны", прасякнутай дабрынёй, шчырасцю, поўнай рупных клопатаў пра захаванне і адраджэнне духоўнай спадчыны нашага народа на прыкладзе цудоўнага кутка краіны, сапраўднага гняздоўя літаратараў — Пухавіччыны.

Кніга напісана на хвалі высокага натхнення, нібыта на адным дыханні, вольна, раскавана, таму што яе аўтар улюбёны ў родны край, у крынічнае матчына слова. Сапраўды, "волю думкам даў" энтузіяст краязнаўства (радзімазнаўства), думкам, якія вынікаюць не толькі з захопленасці, але і з эрудыцыі: "Чытаеш слоўнік Мікалая Шатэрніка і быццам плывеш у бяскрайнім акіяне моўнай асалоды, моўных фарбаў і адценняў. Бабрак — гэта бабёр. Дошчачку, аказваецца, называюць яшчэ і дашчуркай. Снягур — снягір. <…> А так званыя дзіцячыя словы: вова — воўк, кока — бульбіна альбо яйка, дзюдка — парася, зюзя — холад, тпруцькі — ісці на двор, баля — абаранак… Тут і хараство, і таямніцы, і штуршок для ўспамінаў пра адрознасці вясковай мовы ад літаратурнай". Які мяккалагодны, разгорнуты (далей пішацца пра пазнанне пухавічанамі саміх сябе ў гэтай лексіцы, пра ілюстраванне мясцовых слоў прыказкамі) аўтарскі каментарый! І разам з тым — дыдактычна-павучальны, бо суправаджаецца ён споведзю пра лёс настаўніка-энтузіяста.

Амаль кожны міні-артыкул складаецца з некалькіх кампанентаў, як і мастацкі твор: экспазіцыі (аповед пра тое, як аўтар дабіраўся да знакамітых імёнамі паселішчаў і згубленых падчас сярод векавечных лясоў "неперспектыўных" вёсачак і хутароў), завязкі (апісанне мінулага і сучаснага статусу вёсак, навакольнай прыроды), развіцця дзеяння (сустрэчы з земляками славутасцей, размовы з імі, дзённікавыя (дакументальныя) запісы, цытаванне ўрыўкаў з іх). Ролю кульмінацыі ў міні-артыкуле звычайна выконвае слова аўтара, якое і падсумоўвае ўбачанае і пачутае, і, разлічанае "навырост", прагназуе ход далейшага вывучэння праблемы.




У згаданым вышэй нарысе пра Мікалая Шатэрніка высвечваецца сэнсавай зорачкай-залацінкай урывак з яго прадмовы да выдадзенага слоўніка, патрыятычна-выхаваўчы змест якога неаспрэчны: "…я маю сваёй няўхільнай задачай працу гэтую працягваць". І гэтая ідэйнасэнсавая залацінка ўзмоцнена аўтарскімі адносінамі, аўтарскім нераўнадушным словам: "Якая, пагадзіцеся, шырокая моўная палітра! Чытаеш, знаёмішся з адценнямі слова (зафіксаванага М. Шатэрнікам. — **М. М.**), а ўражанне такое, што старонкі чыйгосьці ці свайго ўласнага жыцця перагортваеш".

Так у кожным артыкуле. Так пра кожнага (забытых імёнаў лічаныя адзінкі) пісьменніка, найперш таго, хто нарадзіўся ў пухавіцкім гняздоўі (А. Вольнага і М. Чарота, М.Вяршыніна і В. Гарбацэвіча, Я. Казеку і В. Мысліўца, А. Бачылу і А.Моркаўку, З. Біралу і Т.Бондар).

Згадвае радзімазнавец і славутыя Дудзічы (там цяпер знаходзіцца асяродак беларускай культуры музейны комплекс "Дудуткі"), дзе нарадзіўся і жыў паблізу, у Замосці, да канца сваіх дзён выдатны дзеяч беларускай літаратуры і культуры Аляксандр Ельскі, калекцыя якога складалася з партрэтаў, карцін, эстампаў, рукапісаў знакамітых людзей многіх краін свету. Артыкул пра выбітнага беларуса — адзін з самых грунтоўных у кнізе, можа таму, што ўтрымлівае ў сабе не толькі літаратуразнаўчы складнік, а арыентуецца на большае — комплекснае, цэласнае — пазнанне і "ўпісанне" ў агульную культуразнаўчую (радзімазнаўчую) канцэпцыю кнігі канкрэтнай мясціны, той, якая заслугоўвае пашыранай і паглыбленай інтэрпрэтацыі. Так, у кнізе нараджаюцца "сілавыя" кропкі энцыклапедычнага характару: апісанні цэнтраў пухавіцкай культуры ў Мар'інай Горцы, Гарэльцы і яго ваколіцах, Шацку, Тальцы і ваколіцах, Блужы, Блоні, Турыне, Рудзенску, Свіслачы, Раўнаполлі ды іншых. Пісьменнік згадвае сярод славутых ураджэнцаў Пухавіччыны не толькі літаратараў, але і мастакоў, кампазітараў, навукоўцаў, удзельнікаў барацьбы з фашызмам, эмігрантаў. І — што вельмі важна — рупных і шчырых настаўнікаў, супрацоўнікаў музеяў, журналістаў, клопатамі якіх масаваму чытачу, а найперш падрастаючаму пакаленню, адкрыўся пухавіцкі край сваімі новымі гранямі, багаццем не толькі матэрыяльных, але і духоўных скарбаў. Падобны энцыклапедычна-пазнавальны аспект як бы сам сабою спалучаецца з педагагічна-выхаваўчым, эмацыйна-ацэначным, але ненавязліва, тактоўна, сардэчна. Алесь Карлюкевіч адкрывае чытачам постаці такіх людзей, якія ніколі не здраджвалі свайму краю, сваёй малой радзіме, бачылі ў ёй, як у кроплі, цэлы свет.

*"Кніга напісана на хвалі высокага натхнення, нібыта на адным дыханні, вольна, раскавана, таму што яе аўтар улюбёны ў родны край, у крынічнае матчына слова. Сапраўды, "волю думкам даў" энтузіяст краязнаўства (радзімазнаўства), думкам, якія вынікаюць не толькі з захопленасці, але і з эрудыцыі.*

Чытаю кнігу і шчыра дзіўлюся грандыёзнаму аб'ёму праведзенай працы. Гэта ж колькі трэба было аб'ездзіць вёсак, вёсачак, да якіх нават у XXI стагоддзі цяжка дабрацца! Колькі матэрыялаў, у тым ліку архіўных, рэдкіх, не проста перагарнуць, а перачытаць, пераасэнсаваць. А колькі часу затрачана на гутаркі, сустрэчы з людзьмі, якія спрычыніліся да духоўнай спадчыны Пухавіччыны! "Ніхто не забыты, нішто не забыта". Для аўтара кнігі гэта не лозунг, а фактар натхнення на пошук, на высілкі, "выжыльванне", вынікам якіх становяцца адкрытыя невядомыя ці забытыя імёны, не заўважаныя шырокай грамадскасцю мясцовыя таленты, усе тыя дзеячы, найперш літаратуры, што пакінулі след на літаратурнай карце Пухавіччыны.

Да ліку адкрыццяў, звязаных з вывучэннем архіўных матэрыялаў не толькі беларускіх, але і расійскіх, украінскіх, з аб'ёмнай, кампаратывісцкай працай можна аднесці артыкул А. Карлюкевіча пра ўраджэнца Шацка, пухавічаніна Аляксандра Мікульчыка — аўтара першапачатковага тэксту "Беларускай марсельезы", пазней дапрацаванага ці то У. Галубком, ці то М. Краўцовым, а магчыма, Я. Фарботкам і нават Я. Карскім. Аўтар расповеда пра забытага, недаацэненага аўтара выявіў тут высокую навуковую кампетэнтнасць, такую, што пры належнай дапрацоўцы (найперш — параўнальнага аналізу тэкстаў) артыкул кнігі мог бы "перарасці" ў параграф дысертацыйнага даследавання ці саліднай навуковай манаграфіі.

Кніга і пра "сціплага бібліятэкара з вёскі Голацк" Аляксандра Пікуліка, які, будучы чалавекам з хворым сэрцам, як піша А. Карлюкевіч, "мог бы спакойна сядзець і корпацца ў старых і новых кніжках", рапартаваць пра вынікі працы, даглядаць прыкаваную да ложка хваробай жонку. Але ён "апантана займаўся краязнаўчым пошукам", судакранаўся "з неспадзяванымі адкрыццямі". І паспяваў пісаць даволі цікавыя, а галоўнае — шчырыя, ад сэрца вершы. Радкі некаторых з іх поўніліся прадчуваннем уласнага дачаснага канца, няспраўджанасці думак і надзей:

*На споведзь час ідзе і мой.*
*А на душы бывае горка,*
*Што праляцела стараной*
*Надзей маіх нязбытых зорка.*

Колькі такіх герояў адкрыў чытачам Алесь Карлюкевіч! Якую шырокую панараму разгарнуў! І прадставіў іх годна, зацікаўлена, эмацыянальна. Так, як, напрыклад, прадстаўлены малавядомы паэт Рыгор Папараць (Сапун) з вёскі Шэлегі, як рэпрэзентаваныя ўдзельнікі (і кіраўнікі!) літаратурных аб'яднанняў пры "Пухавіцкіх навінах", "Рудзенскай праўдзе". Адгарніце, дарагія чытачы, старонкі кніжкі, на якіх ідзе зацікаўлены аповед пра Коласавы мясціны на Пухавіччыне, пра літаратараў, якія наведвалі даваенны дом творчасці "Пухавічы", мелі лецішчы ў цудоўных мясцінах, — Янку Купалу, Яўгена Рамановіча, Эдуарда Самуйлёнка, Змітрака Бядулю, Міхася Лынькова, Ізі Харыка, Міколу Хведаровіча, Аркадзя Куляшова. Любілі, наведвалі Пухавіччыну і Кандрат Крапіва, і Пятрусь Броўка, і многія іншыя слынныя літаратары…

Ва "Уступе" Алесь Карлюкевіч тлумачыць, што ён клапоціцца "выключна — пра літаратурна-краязнаўчыя прыярытэты Пухавіцкага раёна, не адмаўляючы, безумоўна, кожнаму ў праве ўшанавання сваёй роднай старонкі". Як кажуць, карты ў рукі. І тым, хто шануе слуцкіх песняроў. А сярод іх імя Васіля Віткі — нашага класіка не толькі дзіцячай, але і "дарослай" лірыкі, пакуль недастаткова даследаванай, вартай большай увагі, да таго ж выдатнага педагога, аднадумцы і сябра В. Сухамлінскага. Гэтыя мясціны падаравалі нам і паэта-эксперыментатара Рыгора Крушыну, якому віхура ваенных і пасляваенных абставінаў наканавала лёс "чорнага лебедзя", выгнанца з роднага краю. Карты ў рукі і капыльцам — землякам Кузьмы Чорнага, Цішкі Гартнага, цэлай плеяды мастакоў слова. А Уздзеншчына? А Салігоршчына?.. І гэта толькі ў Мінскай вобласці!

Алесь Карлюкевіч не адзінокі ў сваёй спробе "ажывіць" краязнаўства. Толькі адзін прыклад… Трымаю ў руках "Літаратурную карту Берасцейшчыны" (2008 г.), выдадзеную даволі прыстойным накладам — 1700 асобнікаў. Рэдактар і ўкладальнік — старшыня Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Анатоль Крэйдзіч, ён жа — і ў складзе творчай групы, у якую ўвайшлі таксама супрацоўнікі БрДУ імя А. С. Пушкіна на чале з рэктарам М. Часноўскім, дэканам філалагічнага факультэта В. Фелькінай. А "касцяк" калектыву склалі супрацоўнікі былой (крыўдна да слёз!) адзінай у рэспубліцы кафедры методыкі выкладання беларускай літаратуры і краязнаўства, якой доўгі час кіравала В. Ляшук, а яе пераемнікам быў У. Сенькавец. Помню, як пачыналіся яны — светлыя традыцыі — з літаратурнай карты Берасцейшчыны ў кабінеце роднай літаратуры пры незабыўным Уладзіміру Андрэевічу Калесніку. Ды абставіны супраць гуманітарных навук, супраць філалогіі: студэнтамі-знаўцамі слоўнага мастацтва цяпер мала хто жадае стаць. Далёка не лепшыя выпускнікі школ ідуць да нас. Мала сярод іх энтузіястаў. І ці будзе больш? Невядома. Такая ж сітуацыя і ў іншых ВНУ Беларусі. А можа, і за яе межамі.

Але кніга застанецца. Застанецца ў людской памяці як напамін пра добрыя справы закаханых у свой край энтузіястаў. Радкі "Пасляслоўя" гучаць як клятва ў вернасці сваёй роднай старонцы, мастацкаму слову: "…спрачаюся з самім сабою і даказваю, што мастацкая літаратура становіцца тады болей прыцягальнай, калі да знаёмства з ёй падыходзіш з уласнымі адкрыццямі і твора, і аўтара як нечага блізкага і роднага, у пэўнай ступені знаёмага. І гэтую задачу якраз і здольна вырашаць, на мой погляд, літаратурнае краязнаўства, веданне агульнанацыянальнай літаратуры з вышыні сваёй роднай і блізкай старонкі…"

Алена МІКУС

# Капілка гісторый

**Дзеці збіраюць у капілку ўсё, што з'яўляецца грашыма: манеткі з розных краін, у якіх паспелі пабываць разам з бацькамі, драбязу, за якую мараць купіць па меншай меры ровар, а хопіць там хіба на чупа-чупс, капейкі часоў СССР, што настальгічна заваляліся ў кубку за шклом бабулінай секцыі, нават уласнаручна намаляваныя грашовыя адзінкі. Выпадкова могуць туды трапіць і знакі, што ўяўляюць пэўную каштоўнасць: англійскі фунт стэрлінгаў — ужо нагода задумацца пра рэальную пакупку. Усё гэтае багацце для дзяцей мае аднолькавую вартасць: малыя абсалютна ўпэўненыя, што яно абавязкова спатрэбіцца для набыцця "неакрэслена чаго", вельмі важнага і неабходнага.**

Кніга Мары Левінай "Копилка для мелочи" сабрала пад вокладкай шэраг розных па сваім значэнні гісторый. Гэтым яна нагадвае дзіцячую капілку, у якой померназбірана ўсяго. І толькі чытачу вызначаць, што з гэтага яму патрэбна і важна на кожным канкрэтным этапе жыцця. Наступны агляд зарыентуе ў тым, што можна знайсці ў зборніку.

Аповесць "Былое и Серафим" — версія гісторыі пра Папялушку, інтэрпрэтацыя якой вандруе ў жаночай прозе з зайздроснай рэгулярнасцю. Сюжэт, што гарантуе 100 працэнтаў папулярнасці і прыязнага стаўлення ад аўдыторыі. Ды і як можа не зачапіць гісторыя добрай маленькай дзяўчынкі Лены, якая сталее, ператвараецца ў добрую, разумную, годную дзяўчыну, потым — жанчыну з чыстымі і светлымі перакананнямі. Усё — ад самага пачатку твора — працуе на абсалютна пазітыўны вобраз гераіні, створаны ў традыцыях жаночай рамантызаванай прозы. Вось яна, маленькая, разгубленая, у кратчастым халаціку стаіць за дзвярыма замкнутай кватэры, а мама з трэцяй змены вернецца хіба што ранкам. Карціна ў завязцы аповесці выклікае комплекс пачуццяў да гераіні, ключавымі з якіх з'яўляюцца давер і спачуванне. На працягу разгортвання сюжэта яны толькі ўзмацняюцца і дапаўняюцца новымі, якія таксама працуюць на пазітыўны вобраз жаночага персанажа. І перад намі ўжо дзяўчына-падлетак, якая ў школе ратуе сяброўку ад сораму — бярэ адказнасць на сябе за кінутую падчас урока запіску. Так з'яўляецца павага. Далей — болей: Лена кахае, аднак малады чалавек не звяртае на яе ўвагі і захапляецца прыміты ўнай прыгажуняй-бландзінкай. Яна выходзіць замуж за іншага, але нават у шлюбе захоўвае вернасць свайму мужчыну. Абсалютна станоўчы вобраз гераіні, яе нетыповыя паводзіны, рамантычнасць (з цікавасцю вывучае літаратуру, верыць у каханне, захоўвае вернасць ідэалам) — усё выклікае жывую эмацыянальную рэакцыю пазітыўнага кшталту. Было б недарэчнасцю і парушэннем законаў жанру, калі б Сусвет не заўважыў гэтага носьбіта святла і дабрыні. Таму ў фінале твора ўсё становіцца на свае месцы: бландзінка знікае, мужчына расплюшчвае вочы, гераіня і прынц урэшце злучаюцца. Фінальная карціна прасякнутая пачуццём дабрыні і справядлівасці. Як, зрэшты, і ўвесь твор, які мэтанакіравана крочыў да хэпі-энду.



Яшчэ адна міні-версія казкі пра Папялушку прадстаўлена апавяданнем "Пристрою душу в тёплое место…". Назва твора настройвае на чаканне сюжэта з мефістофельскімі матывамі. Аднак насамрэч усё аказваецца куды прасцей. Гэта лёгкая, "амаль каляднася гісторыя", якая робіць казку явай. Твор апісвае жыццё маладой правінцыйнай дзяўчыны Ніны, якая жыве ў сталіцы, займаецца бухгалтэрыяй у адной са шматлікіх офісных кантор і ледзь-ледзь зводзіць канцы з канцамі — значная доля заробленага ідзе на арэнду "хрушчоўкі" ў прыгарадзе мегаполіса. І вось у адзін дзень, які абяцаў быць не самым лепшым з-за пагрозы звальнення і надышоўшага тэрміну аплаты за жыллё (а плацідь не было чым), мяняецца ўсё. Як гэта адбылося? Справа ў тым, што Ніна не з тых, хто ў крытычных абставінах пасыпае галаву попелам. У пошуках новай кватэры ці пакоя вялікае Нешта падштурхоўвае яе на непрадказальны ўчынак — проста так яна змяшчае аб'яву ў інтэрнэце, у якой дэкларуе жаданне прыстроіць душу ў цёплае месца. Гэта становіцца магічнай кнопкай, націснуўшы якую, гераіня атрымлівае грошы, кар'ернае павышэнне і самае важнае ў жаночай карціне свету — каханне. Гісторыя сапраўды лёгкая, незацягнутая, пазітыўная. Але за яе прастатой насамрэч прамаўляецца важная думка пра тое, як кожны з нас адчувае патрэбу ў душэўнай цеплыні. Нават банальнае фармуляванне важнага запыту (няхай і ў лёгкай жартоўнай форме), усведамленне таго, што душы насамрэч холадна, імпульс змяніць гэта могуць стаць паваротнымі.

Трагічная гісторыя чалавечага падзення раскрыта ў апавяданні "Жена Гагарина". Яно пра тое, якім пакручастым можа быць лёс чалавека — добрага, простага, са шчырымі памкненнямі, але нешчаслівага. Адкуль гэтае няшчасце, жыццёвая пакута? Магчыма, з вырачанасці, наканаванасці, якія адчуваюцца ва ўсім, што робіць гераіня. Імкненне Дусі быць карыснай хоць камусьці нагадвае хаатычнае чаплянне за жыццё, у якім экзістэнцыйна неабходна мець сэнс. А ён увесь час выслізгвае. У выніку гераіня спускаецца ўсё ніжэй і ніжэй: спачатку настаўніца алгебры ў школе, потым з-за перанесенай хваробы рэгістратарка ў паліклініцы, пасля жанчына з неакрэсленым родам дзейнасці, якая знайшла сябе ў душэўных гутарках з бамжамі на вакзале, пры канцы твора — пацыентка псіхічнай лякарні, "жонка Юрыя Гагарына". За гэтым сумны фінал: экзістэнцыйнае небыццё набывае лагічную форму фізічнай смерці. Гэтае апавяданне — не толькі трагічная гісторыя аднаго прыватнага лёсу, яно — пра неабходнасць быць патрэбным. Калі гэта знікае, чалавек проста перастае жыць.

Самымі цікавымі творамі кнігі з'яўляюцца апавяданні "Волшебный вкус истины" і "Тосканское розовое". Абсалютна розныя тэматычна і ідэйна, яны змяшчаюць у сабе немалы матэрыял для разваг. Першае прадстаўляе чытачу гісторыю абсалютна кепскага чалавека, біяграфія якога складаецца адно з негатыўных момантаў. Твор відавочна прыцягвае арыгінальным сюжэтам: выпіўшы магічнай гарбаты, Віктар Міхайлавіч ператвараецца ў таго, хто ён ёсць насамрэч, — пацука. Далей паказваецца сутнасць гэтай пацучынасці. Усё сваё 35-гадовае жыццё герой толькі і быў заняты тым, каб схапіцца за цыбулін хвосцік і, учапіўшыся за яго, трапіць у рай. Гэты "рай" звязаны для яго выключна з атрыманнем задавальнення: ад свайго высокага сацыяльнага статусу, кар'living росту, жанчын і г.д. У ім няма месца для душэўнай работы. Яго жыццё — гэта жыццё без абавязкаў, адказнасці перад жонкай, маці, магчымымі дзецьмі. Выразным з'яўляецца цынізм Віктара Міхайлавіча: у час пахавання маці ён адпачывае ў Турцыі, пра што згадвае з уласцівай яму лёгкасцю. Стаўшы пацуком, герой пачынае шукаць у сабе нешта чалавечае. Ён перабірае сваё жыццё на прадмет чагосьці добрага, зробленага ім. Аднак спробы застаюцца марнымі. Даходзіць да камічнага — згадак, як яшчэ ў школе збіраў макулатуру і металалом ды сцягнуў з агульнага калідора ў суседкі батарэю. Ачалавечванне не атрымліваецца — насуперак заведзенай у фальклоры і літаратуры традыцыі. Персанаж нават не робіць першых крокаў на гэтым шляху, так і засынаючы пацуком з думкай пра немагчымасць знайсці ў сабе чалавека. Аднак чаму? Магічная гарбата ж хавае ў сабе патэнцыял: з яе дапамогай можна, "знайшоўшы ў сабе чалавека, знайсці цэлы свет". З Віктарам Міхайлавічам гэтага не адбываецца, бо яго эга раздзьмутае занадта шырока, немагчыма за ім убачыць хоць якую перспектыву. Мараль гісторыі гучыць выразна: там, дзе "пацука" зашмат, знайсці ў сабе чалавека нерэальна.

Апавяданне "Тосканское розовое" прэзентуе яшчэ адзін тып гісторыі: гэтым разам яна — прыватны момант асэнсавання жыццёвай сітуацыі. Сюжэтная фактура простая, паветрана-лёгкая. Аднак праз такую прастасць раскрыты механізм пражывання істотных падзей чалавечага жыцця. Гераіня твора француженка Іў за столікам у кавярні з келіхам ружовага віна назірае за парай: яна кахае, ён шукае позіркам і знаходзіць іншы аб'ект. Назіраная падзея, на першы погляд, не хавае ў сабе нічога істотнага. Але для Іў яна становіцца кропкай, якая дапамагла ўбачыць і прыняць паварот уласнага жыццёвага шляху. "Тосканское розовое" — апавяданне пра жыццё і пакутлівы пошук гэтай самай кропкі апоры. Яе можна шукаць доўга, перажываючы боль (ці перажоўваючы? — як трапна заўважае Мара Левіна). Калі ж урэшце знайсці, то магчыма перамясціць свой свет у патрэбным кірунку. Адкрыццё тут у тым, што часам у пошуках гэтай кропкі і хадзіць далёка не трэба, і шукаць, блукаючы, бескарысна. Яе ўсведамленне прыходзіць само, як гэта адбылося з Іў, якая проста сядзела за столікам кавярні і піла ружовае тасканскае віно.

Усе тэксты празаічнага зборніка — пра жыццё, дакладней, яго знешнія праявы (пытанне пра першасныя вытокі і глыбінныя стымулы чалавечага ўчынку не стаіць). А яно змяшчае ў сабе і пабытавую драбязу, і маштабы Сусвету. У апавяданнях амаль заўсёды не апошняе месца займае тэма кахання: у жаночай інтэрпрэтацыі свету яно, сапраўды, найістотнейшае.

Кніга, відавочна, прыйдзецца даспадобы тым чытачкам, якія адчуваюць настальгію па нашым агульным савецкім мінулым: некалькі твораў разгортваецца непасрэдна ў гэтым часе ("Серафим и былое", "Elysium № 10220"), персанажы — нібы ўзятыя з кадраў савецкага кіно, сцверджаныя маральныя нормы абсалютныя і ўжо адным гэтым не сучасныя. Тады людзі здаваліся лепшымі, неба — вышэйшым, а таксіст мог не ўзяць грошы, калі ў чалавека здарылася гора. Кніга апісвае свет, які імкнецца да ідэалу і прыгажосці, які існуе паводле прынцыпу справядлівасці, у якім кожнаму даецца па заслугах.

У кнізе Мары Левінай "Копилка для мелочи" няшмат сучаснасці, нават калі творы разгортваюцца ў цяперашнім часе. І гэта таксама камусьці патрэбна. Найперш тым людзям, якія адчуваюць дыскамфорт у свеце рэкламы і кахання даўжынёю ў месяц.

Дар'я ЛЁСАВА

# Салаўі…

Аднойчы задумалася: а хто ён, Леанід Якубовіч, памяці якога Яўгенія Янішчыц прысвяціла душэўны верш "Салаўі"? Маё пакаленне наўрад ці ведае, асабліва не філалагічнае. А верш выразна паказвае на паэта, прытым не абы-якога. Хіба Яўгенія Янішчыц узняла б гэтак высока бяздарнае?! Не, толькі талент здатны адчуць сапраўдны талент! Толькі сапраўдны Паэт мог так увецідь Паэта! І, як птушаняты без мамы, раптоўна прытуліліся да маіх грудзей, забіліся ля сэрца радкі верша "Салаўі". Хто іх забыў, нагадаю:

*Не ведала, не ведала, калі…*
*А думала*
*Зялёным тым прадвеснем,*
*Калі мае замоўкнуць салаўі,*
*То за тваімі —*
*Столькі многа песень!*
*Але што можа стацца на Зямлі*
*Такою вось*
*Высокаю парою:*
*Спяваюць,*
*Не змаўкаюць салаўі*
*Над памяццю,*
*Над песняю тваёю.*

Калі ж даведалася пра жахлівую смерць Леаніда Якубовіча ў чэрвені 1970 года, сэрца перапоўнілася скрухаю.

Ён жа, Леанід, загінуў у маладым узросце! Колькі ён мог яшчэ напісаць, колькі песень недаспяваў і якіх таленавітых, упэўненая, песень! Што ж пагнала яго, майго равесніка (па гадах — не ў часе), у тую салігорскую шахту, якая і пахавала неўтаймоўную прагу сапраўднага жыцця?

"Нарадзіўся ў 1948 годзе ў вёсцы Радкава Салігорскага раёна Мінскай вобласці. Закончыў 11 класаў сярэдняй школы, працаваў у рэдакцыі салігорскай раённай газеты "Шахцёр", рабочым Другога Салігорскага камбіната. Завочна вучыўся на факультэце журналістыкі БДУ імя У. І. Леніна".

Скупыя біяграфічныя звесткі са зборніка "Рунь". А за імі — і жывое слова тых, хто душою дакрануўся да трагедыі жыцця маладога паэта.

Расказвае мая мама:

— Я тады завочна вучылася на факультэце журналістыкі. Памятаю, прыехала на летнюю сесію, а ўсе студэнты — у жалобе. А ў фае вялікі партрэт Лёні ў чорнай рамачцы. Усе: і выкладчыкі, і студэнты не маглі змірыцца з гэтай ранняю жахлівую смерцю! Вельмі таленавіты быў студэнт, яркі паэт! Пабегла да паэтаў на філфак, які знаходзіўся тады на Чырвонаармейскай, — і там партрэт Леаніда ў жалобнай рамцы. І — прыціхлыя студэнты. Умелі тады шанаваць сапраўдныя таленты. А неўзабаве пасля смерці і кніжка "Рунь" з'явілася, я яе тут жа і набыла. І захавала. Можа, каб табе праз дзесяцігоддзі перадаць, каб і ты падзівілася яркаму таленту Леаніда Якубовіча і яго... успомніла!

Спачатку падумалася: недарэчнасць якая! Як я магу "ўспамінаць" таго, каго ніколі не бачыла, з кім ніколі не віталася?

Але, аказваецца, можна павітацца і з тым, каго ўжо няма на зямлі. Можна сказаць яму, як жывому: "Дзень добры, Лёня! Дзень добры, шчыры, блізкі майму сэрцу, маёй душы Паэце! Мне хочацца сёння гаварыць з табою, як са сваім сябрам-равеснікам. Бо менавіта такой паэзіі, шчырай, зразумелай, якраз і нестае нам сёння. Сёння маладыя часцей сягаюць у касмічныя прасторы, а не прыпадаюць да роднай зямлі".

А вось жа Леанід Якубовіч:

*О Беларусь! Старонка дарагая,*
*Мне без цябе, як дрэву без вады...*
*Хоць непрыкметнай птушкай*
*твайго гаю —*
*Абы з табой! Навекі, назаўжды!*

Я ж таксама так думаю! Супадзенне адчування роднай зямлі, крэўных людзей — адно да аднаго! Дзіўна ж мы на зямлі паўтараемся!

Або — ці не мае гэта жаданне абазначыў Леанід Якубовіч:

*Я жыццё сваё хацеў бы бачыць:*
*Гэткім простым, як матулі рукі,*
*Рукі, што спазналі ўсе нястачы,*
*Усе зямныя радасці і мукі.*
*Не жадаю, каб было іначай,*
*Бо тады гады — пустыя гукі...*
*Я жыццё сваё хацеў бы бачыць*
*Неспакойным, як матулі рукі.*

Якую ж песню недаспяваў паэт! Як многа забраў ён з сабой у родную зямельку! Мо таму, каб глыбей, радней я яе чула? Каб размаўляла я з ёй, як з жывою. Ды й ці не так, як Леанід Якубовіч, трэба жыць? Услухайцеся ж:

*Мой кожны дзень —*
*у роздуме глыбокім,*
*І кожны дзень мне дорыць адкрыццё.*
*Хачу я ўбачыць*
*свой паверх высокім*
*У звонкім доме з назваю: жыццё!*

...Яшчэ 18 гадоў спявалі салаўі Яўгеніі Янішчыц над памяццю, над песняю Леаніда Якубовіча. Ці шмат гэта ў вечнасці? Імгненне! Але салаўі заўсёды будуць спяваць у нашай памяці — вечна жывыя і вечна нам дарагія!

# Паэзія



Таццяна Сівец

* * *

*Доктар, мне штосьці перашкаджае*
*дыхаць і гаварыць!*
*Доктар, вы можаце гэта з горла*
*майго ўзяць і выразаць назаўсёды?*
*Не, спачатку было нічога…*
*Нават пэўная асалода…*
*Быццам бы там жылі два заўзятыя дудары…*
*Ды пасварыліся, вырашылі завастрыць*
*Свае гукі, парэзаць рукі,*
*усёю мной завалодаць…*
*І разбурыць…*
*Я вышуквала лекі па Гугле і лемантары,*
*Але ў выніку ўсё ўнутры мяне*
*абярнулася дагары!..*
*Доктар, у вас пальцы такія халодныя…*
*А адчуванне такое,*
*што нешта ўва мне гарыць!*

*Доктар, калі я раней спявала,*
*енчыла, падала ў небыццё,*
*Мне нічога не каштавалі ноты гэтыя,*
*слёзы, крокі,*
*А цяпер я быццам крыштальны, крохкі*
*Інструмент, напоўнены пачуццём…*
*І я плачу, бачыце, як дзіцё!*
*Бо няма ні сыходу мне, ні палёгкі,*
*Ні царква не ратуе больш, ні касцёл…*
*Ад уздыху кожнага паскараецца крывацёк,*
*Чуеце? Што ж пазіраеце,*
*быццам на адкрыццё,*
*На вусны мае, запясці, калені, локці?..*
*Дайце лекі мне ад шаленства!*
*Я ж ведаю, вы дасцё!..*

*Мне штохвілінна коле, драпае ды ірве…*
*На змаганне, доктар,*
*наогул не засталося змогі!*
*Забываюся, адрываюся ад падлогі,*
*Каб упасці долу і зноўку — уніз-уверх!..*
*Як гэта называецца, доктар? Магчыма, звер,*
*Што аніяк не вырвецца*
*з цёплай сваёй аблогі?..*
*Можа, там нехта хаваецца ад завей?..*
*Хто там няспынна, нястомна мяне заве?!.*
*Доктар мне кажа, што ўсё да раніцы зажыве,*
*З горла майго выцягвае зорачку*
*з помніка Перамогі,*
*Глядзіць убок і гладзіць па галаве…*

* * *

*Нават калі аварыя, мусіць быць іншы ход!*
*Ты выбіваеш шкло*
*і выскокваеш — у сумёты…*
*Смяешся, радуешся, што жывы,*
*што дыхаеш, бачыш... Хоць*
*і не верыш у тое, што будзе потым,*
*але шэпчаш некаму: "Не сыходзь…"*

*Ці вось яшчэ выпадак:*
*ты навучыўся плакаць, амаль без слёз:*
*гэтак бязгучна, весела, па-мастацку…*
*Ты разумееш, што час прымушае*
*твой лайнер ісці на ўзлёт,*
*І думаеш, што жыццё,*
*па сутнасці, неблагая цацка…*
*Хаця ад пачатку ведаеш эпілог…*

*Калі ты прапануеш мне лекі*
*ад болю альбо глядзіш,*
*як побач са мною шкло разбіваецца*
*на драбніцы,*
*нагадай мне пра тое,*
*што не залежыць ад хуткасці і гадзін,*
*пра тое, што мусіць быць выхад,*
*нават калі спазніцца!*
*Нават калі нікуды больш не хадзіць!*

* * *

*Найлепшыя вершы, любы, гэта тыя,*
*што мы пісалі пальцамі на пяску!*
*У іх быў і водар сонца, і прысмак хваляў,*
*і… (Не трымай мяне за руку!)*
*Я ўсё роўна распавяду ім пра шчасце,*
*што ніадкуль*
*абрынулася на нас,*
*пра тыднёвы наш Ісык-Куль…*

*Пра спіны нашыя абгарэлыя,*
*пра аблупленыя насы…*
*І як ты праз возера, бы апостал,*
*мяне на руках насіў,*
*і як за намі зайздросліва*
*цікаваў таксіст…*
*Не шкадуй успамінаў —*
*іх хопіць цяпер на ўсіх!*

*Мы адвезлі туды па каменю —*
*кантрабандаю — унутры!*
*Каб пакінуць іх на Санташ,*
*бы ажыўшыя Тамерланавы ваяры…*
*Гэта наш свет, каханы! Мы стварылі яго,*
*мы прыдумалі алгарытм!*
*І чаму б нам цяпер яго*
*іншым не падарыць?..*

* * *

*Калі ты ўнутры пашыты*
*з чорнага аксаміту,*
*а звонку — перліны,*
*пер'е і штосьці яшчэ бліскучае...*
*Надзвычай лёгка запэўніць іх,*
*што і пад скураю ты — блакітны*
*альбо ружова-смарагдавы*
*(з пасачкамі — да кучы!)…*

*Калі ты не бачыў тых,*
*хто цябе зашываў і клеіў,*
*ты можаш лічыць сябе*
*абсалютна шчаслівым, дружа!*
*Так і жыві — распяты на іх каленях, —*
*покуль яны па-над сэрцам табе*
*вышываюць ружы!*

*І толькі тады ты станеш*
*жывым і вольным,*
*калі хтось параспорвае ўсе іх шыўкі*
*і дастане — усе іголкі…*
*Ты ўсміхнешся тады, крышачку стомлена,*
*але ўсё-такі задаволена,*
*бо ў цябе ўнутры будзе перліна,*
*пёрка і штосьці яшчэ — вясёлкавае!..*

## Пра шчасце

*Ведаеш, быць шчаслівым —*
*зусім не цяжка!*
*Гэта нават лягчэй,*
*чым пёрка злавіць рукою.*
*Божухна, хто я табе?*
*Ну, што я табе такое?!*
*Чаму ты ізноў ламаеш мяне,*
*раздзіраеш мяне на часткі?..*

*Слухай, Госпадзі,*
*колькі там засталося —*
*да самалёта?*
*Да таго, як ён зробіць усіх нас*
*падобнымі да анёлаў?..*
*Быць шчаслівым —*
*зусім не значыць — заўжды вясёлым*
*(гэта пабочны эфект,*
*калі хочацца цалавацца*
*альбо галёкаць)…*

*Шчаслівым не трэба*
*ні ваяваць з сабой, ні мірыцца…*
*Шчаслівыя носяць крыльцы*
*на сандалетах…*
*Ты прачынаешся, бачыш —*
*навокал лета!*
*І ад таго, хто побач,*
*пахне каваю і карыцай!*



Віктар Бубнаў

* * *

*На тлумным прыпынку*
*жанчын незнаёмых*
*Я ціха акінуў прывабныя твары*
*І так, як яны,*
*я збіраўся дадому,*
*І ўбачыў дзяўчыну,*
*бы нейкую мару…*

*Я лёгка зусім прыгажуні ўсміхнуўся*
*І ў сэрцы падумаў:*
*была б яна Кацькай…*
*Яна ж — абыякава кінула ў скрусе:*
*— Чаго на мяне ты ўтаропіўся,*
*дзядзька?!*

* * *

*Я сёння бы прыкуты*
*Да ўласнае журбы.*
*Адкуль жа ўзяўся смутак*
*І колькі яму быць?*

*Калісьці ад самоты*
*Ўцякаў, але не збег,*
*Пытаючыся потым:*
*Дзе мой падзеўся смех?..*

*З бядой сустрэўся нейкай*
*І два, і тры разы,*
*Ды не бліжчыць на вейках*
*Ужо раса слязы.*

## У бары

*Завяліся караеды,*
*Точаць хворую сасну.*
*Мабыць, ёй ад гэтых бедаў*
*У бары ўжо не да сну.*

*Мо жыццё ў пакутах траціць?..*
*Бору цэламу баліць,*
*Што, як доктар,*
*добры дзяцел*
*Да сасны ўсё не ляціць.*

*А яна стаіць у млосці —*
*Раны-язвы на кары…*
*Тэлеграму, чую, хтосьці*
*Адбівае ўжо ў бары.*

## Маме

*Увішна мама жыта жала,*
*І гэтак — бы да забыцця…*
*Ды, страпянуўшыся, сказала:*
*— За дзень управіцца б хаця…*

*Звівала мама перавяслы,*
*Былі прыгожымі снапы…*
*…Калі святло яе пагасла,*
*Я сам зрабіўся бы сляпы…*

*Бо колькі слёз па маме зведана,*
*Ўжо не хапае дум і сіл…*
*А ў небе месячык сярэбраны*
*Сярпом тым, маміным, вісіць…*

* * *

*То сонца праменні,*
*То зораў агні…*
*Гадоў насланенні*
*Ўспамінам крані.*

*Пад тоўшчаю часу —*
*Пачуцці, любоў…*
*Мо сённячы ласы*
*Ўкахацца ізноў?*

*Пад тоўстаю глыбай*
*Гадоў і праяў*
*Былую ты хіба*
*Любоў пахаваў?*

*Хоць стрэчы — далёка,*
*Ды ў гэтай цішы*
*Успаміну рылдёўкай*
*Пласты варушы…*

*Якое старанне!*
*І скажаш не раз:*
*Вярнуць бы каханне,*
*Вярнуць бы той час!*



Мікола Маляўка

## Падарожнік

Жыццё лічы на дні
альбо на кіламетры.
**Міхась Стральцоў**

*Пачынае вечарэць патроху.*
*Астывае сонца за спіной.*
*Я зматаў у свой рукзак дарогу —*
*Вёрсты, пешкі пройдзеныя мной.*

*Раскладу агонь і буду думаць,*
*Як і чым душа мая жыла, —*
*Збоч ад гарадскога шуму-тлуму,*
*Збоч ад электрычнага святла.*

*Памалюся — тварам да прыроды,*
*Лягу пад начлежную сасну,*
*А рукзак паходны, як заўсёды,*
*Пакладу пад голаў — і засну.*

*Спіць ці не яна, душа жывая?*
*Раніцай разбудзіць цішыня,*
*І дарогу новую зматаю*
*У рукзак пасля, на схіле дня.*

*Пры апошнім вогнішчы блакітным*
*Пакланюся вёрстам і гадам —*
*І рукзак, дарогамі набіты,*
*Спадчыннікам юным перадам.*

## Хмарка

*За вёскай, на вольнай арбіце,*
*Купалася хмарка ў блакіце.*

*Плыла, натхнёная марай —*
*Сустрэцца з вялікаю хмарай.*

*Убачыла ў блізкім абсягу,*
*Як збожжа марнее ад смагі.*

*І хмарка адна, без сведак,*
*Дажджом сплыла на палетак.*

*А людзі, занятыя дома,*
*Падумалі: ціха, без грому,*

*У свет, ад маланак яркі,*
*Сплыла шчаслівая хмарка.*

## Сцежка

*Спяшаецца ў вёску,*
*Бяжыць без агляды,*
*Над вузкай рачулкай*
*Саскоквае з кладкі,*
*Бяжыць узбярэжкам —*
*Паўз ціхі алешнік,*
*Паўз нашы палаткі*
*На ўзлеску начлежным,*
*Паўз засень кустоў,*
*Трыснягу і аеру*
*Спяшаецца сцежка*
*Дамоў — на вячэру.*

## І сам не заўважыў…

*І сам не заўважыў,*
*Калі*
*Пайшлі ад нас*
*Кавалі:*
*Хто ў лета свае,*
*Хто ўзіму —*
*Малітваю*
*Не падыму.*

*Няўцешна*
*І думкам маім,*
*І слову —*
*Няма*
*Каму*
*Выкаваць*
*Шчасця падкову.*

*Кропка на літаратурнай карце*

# На сустрэчу ў Мілашова

**Хоць і гучаў на імпрэзе ў вёсцы Мілашова, што ў Мёрскім раёне, паланэз М. К. Агінскага “Развітанне з Радзімай” у выкананні салісткі Беларускай дзяржаўнай філармоніі Таццяны Матафонавай, для выступоўцаў літаратурныя чытанні сталіся не развітаннем, а сапраўднай сустрэчай з радзімай. Гасцямі Мілашова сталі ўраджэнкі гэтай вёскі, сёння вядомыя дзіцячыя пісьменніцы Алена Масла і яе сястра Наталля Бучынская, а таксама аўтар гэтых радкоў. Тут, у маляўнічай вёсачцы на беразе возера, прайшлі ІІ Мілашоўска-Мілашаўскія чытанні. Сімвалічна і тое, што сустрэча з чытачамі праходзіла ў адрэстаўраваным фальварку XIX ст., які належаў уладальнікам гэтых зямель — Мілашам.**

**Марына ВЕСЯЛУХА,
фота аўтара**

### Клубок таямніц і лёсаў

Калі зазірнуць глыбока ў гісторыю, можна прасачыць, што вёска Мілашова ўпершыню згадваецца ў дакументах XVI стагоддзя. У 1725 — 1824 гадах гэтай мясцовасцю валодалі Сапегі. Падчас далучэння краю да Расійскай імперыі ўся шляхта павінна была прысягнуць на вернасць імператрыцы Кацярыне II пад пагрозай канфіскацыі маёнткаў. Але Францішак Сапега, як і многія іншыя магнаты, адмовіўся ад прысягі, а маёнткі свае прадаў за бясцэнак. Так гэтыя землі, а таксама Чарэя, што недалёка ад Лукомля, з 1830 года сталі належаць Іосіфу Мілашу, шляхціцу з Коўна, які быў на службе ў магната. Ад прозвішча ўладальніка паходзіць і назва вёскі — Мілашова.

У Іосіфа Мілаша было два сыны — Адам і Яўгеніюш. Яўгеніюш адбудаваў фальварак Ідолта-Мілашова. Адзін з яго сыноў — Артур (ён, верагодна, атрымаў у спадчыну Чарэю) — і быў дзедам славутага французскага паэта-містыка Аскара Мілаша (нарадзіўся і правёў дзяцінства ў Чарэі). Аскар жа быў дзядзькам і настаўнікам польскага пісьменніка, нобелеўскага лаўрэата ў галіне літаратуры Чэслава Мілаша. Як неаднаразова падкрэслівалася падчас прамоў на чытаннях, тое, што карані Чэслава Мілаша — у Беларусі, адчуваецца і ў яго творах. У іх згадваюцца назвы нашых гарадоў, мястэчак, у Мілаша ёсць нават верш пра Оршу. Ён звязаны з успамінамі маленства, калі будучы славуты пісьменнік яшчэ падлеткам у час Першай сусветнай вайны разам з сям’ёй выязджаў у бежанства. На чыгуначнай станцыі ў Оршы ён ледзь не згубіўся, таму ўсё жыццё гэтая станцыя ў пісьменніка атаясамлівалася з няспынным рухам.



*Фальварак XIX ст. у Мілашове-Ідолце, які належаў Мілашам.*

Але на гэтым літаратурная гісторыя Мілашова не заканчваецца. З землямі гэтай парафіі звязаны лёс пісьменніка і святара Пётры Простага (сапр. Ідэльфонс Бобіч). Ён з 1915 года служыў у “старым” касцёле (як яго называюць мясцовыя жыхары, бо ў вёсцы ёсць і “новы”, пабудаваны ў 1939 годзе), які калісьці быў фамільнай крыптай Мілашаў. Скончыў сваё служэнне ў Іўі, дзе падчас вайны быў расстраляны фашыстамі. Недалёка ад Мілашова, у Якужах, нарадзіўся вядомы грамадскі дзеяч, выдавец, публіцыст Язэп Малецкі. Пасля ён жыў і працаваў у Германіі, Аўстраліі, дзе і пахаваны. Калі звярнуцца да імёнаў нашых сучаснікаў, у дадатак да прысутных на імпрэзе, можна прыгадаць нямала выбітных асоб. Гэта празаік Франц Сіўко, доктар філалагічных навук, прафесар, загадчык кафедры беларускай філалогіі і сусветнай літаратуры БДУ культуры і мастацтваў Галіна Тычка, вядомы польскі пісьменнік-гісторык Рышард Курыльчык.

Па ўсім відаць, што ідэя Алены Масла, пісьменніцы-казачніцы, загадчыка рэдакцыі дзіцячай літаратуры выдавецтва “Мастацкая літаратура” тэматычна аб’яднаць усіх Мілашаў, а таксама творцаў, чые карані паходзяць з гэтых зямель, і правесці тут Мілашоўска-Мілашаўскія чытанні — цалкам лагічная і абгрунтаваная.

### Зямля натхняе

Тое, што Мілашова з яго непаўторнай прыродай, мастком праз возера, таямнічымі касцёламі натхняе на творчасць, неаднойчы даказана на практыцы. І з часам магія гэтых мясцін, здаецца, толькі ўзмацняецца. Родная зямля дала сілы Алене Масла восенню мінулага года арганізаваць тут сустрэчу з пісьменнікамі ў межах рэспубліканскай акцыі “Чытаем разам, чытаем па-беларуску”, пазней мілашоўцаў запрасілі ў Мінск, на імпрэзу, што ладзілася рэдакцыяй часопіса “Вясёлка” сумесна з Пасольствам Швецыі ў Беларусі. У мінулым годзе, калі грамадскасць шырока адзначала 100-годдзе Чэслава Мілаша, у бібліятэцы імя Цёткі ў Мінску пры аншлагу прайшлі Першыя Мілашоўска-Мілашаўскія чытанні. Тады ж і быў выказаны намер правесці чытанні ў Мілашове, але ўвесну, калі зацвіце бэз. І гэты час быў абраны не выпадкова. Справа ў тым, што Мілашы з Чарэі былі прафесійнымі заводчыкамі бэзу. У Чарэі ўвесну і ў нашы дні ля кожнай хаты квітнее бэз — так заведзена здавён. Так заведзена і ў Мілашове.

Другія Мілашоўска-Мілашаўскія чытанні адбыліся не ў час квітнення бэзу, але крыху пазней, калі расцвіў язмін, але гэта не пазбавіла сустрэчу цеплыні і шчырасці. Такімі ж пачуццямі адказалі выступоўцам гледачы. А некаторыя з іх і самі сталі выступоўцамі. Паэты-пачаткоўцы, вучні Мілашоўскай школы Сняжана Мацяс, Максім Цярэшка і Руслан Марцілёнак прачыталі ўласныя вершы, прысвечаныя роднай вёсцы.

Алена Масла, ініцыятар і арганізатар сустрэчы, падкрэсліла:

— Я маю мару, каб Мілашоўска-Мілашаўскія чытанні сталі традыцыйнымі. Спадзяюся, гэтыя сустрэчы паспрыяюць таму, што ў Мілашове з’явіцца літаратурны музей і музей вёскі, дзе можна будзе згадаць пра асоб, якія ўсяму свету распавядалі пра нашу вёску.

Упэўнена, мара Алены Сцяпанаўны здзейсніцца, бо пад гэтай задумай з радасцю падпісаўся б кожны творца, чые карані — у Мілашове. Зямля натхняе, і нельга не пачуць яе голас.

*У падтрымку чытання*



**Аляксандр Баль, бард, загадчык музычнай часткі Магілёўскага абласнога драмтэатра:**

## «Пастаянна звяртаюся да Бродскага»

**— Творчасць якіх аўтараў паўплывала на ваша станаўленне як чытача і, магчыма, як аўтара?**

— Пра непасрэдны ўплыў гаварыць нельга. Прачытаў Пушкіна — не значыць, што назаўтра ты будзеш разумець усё, што хацеў сказаць класік, ці пачнеш пісаць сам. Як аўтар я спрабаваў сябе, прыдумляючы рускія тэксты да замежных шлягераў. Некаторыя творы школьнай праграмы ў гады вучнёўства так і засталіся непрачытанымі. Толькі ў арміі на іх вызваліўся час — і я рабіў гэта з вялікім задавальненнем. Усё ж такі да некаторых твораў чалавек павінен дарасці, звярнуцца да іх у пэўны перыяд. Сёння магу сказаць: на мяне паўплывалі Пушкін, Высоцкі.

**— Што чытаеце апошнім часам?**

— У мяне, відаць, як у кожнага чалавека, што піша песні, у доме заўсёды шмат зборнікаў вершаў, якія чытаю адначасова. Такога, скажам, як тыдзень Бродскага, няма — бярэш з паліцы аўтара, што адпавядае настрою. Дарэчы, Бродскага чытаю пастаянна. З апошняга прачытанага застаўся вельмі задаволены вершамі Алены Касьян, украінскай аўтаркі і выканаўцы.

Першае і пакуль апошняе, што я чытаў у электронным фармаце, — п’еса, да якой мне прапанавалі напісаць песні. Акт, што ўжо забываецца, — паслініць палец, каб перагарнуць старонку. Няхай будуць паўсюдна электронныя кнігі, галоўнае, каб жаданне чытаць не прапала. Слова застаецца словам, а літаратура — літаратурай, і няхай яна памнажаецца.

**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА**

***Фота з інтэрнэт-сайта www.mogdt.ru***

*Прэзентацыя*

# З лістоў 1942 — 1945-га

**Ці ведаем мы, што такое сапраўднае каханне? Адзін з варыянтаў адказу — гэта калі амаль кожны дзень пішаш сваёй абранніцы, як рабіў гэта лётчык-бамбардзіроўшчык Георгій Лысоў падчас Вялікай Айчыннай вайны. Святло кахання выпраменьваюць радкі лістоў сямідзесяцігадовай даўніны, што атрымлівала з фронту яго сямнаццацігадовая жонка Валянціна. Цеплыню гэтага пачуцця данесла да чытачоў кніга “Письма с фронта: история любви”, што нядаўна ўбачыла свет у выдавецтве “Северный ветер”.**

**Вольга НОРЫНА**

На рахунку аўтара лістоў каля двухсот баявых вылетаў, два ордэны Чырвонага Сцяга, Чырвонай Зоркі, два — Айчыннай вайны, шматлікія медалі, за плённую працу ў журналістыцы — два ордэны Працоўнага Чырвонага Сцяга, два ордэны “Знак Пашаны”, чатыры Ганаровыя граматы Вярхоўнага Савета БССР. І сорак дзевяць гадоў шчаслівага жыцця з той, каму адрасаваў пяшчотныя радкі. Яны пранеслі сваё каханне не толькі праз вайну — праз усё жыццё. Іх дачка Людміла нарадзілася ў сакавіку 1945-га. Каб зберагчы бацькоўскі архіў ад няўмольнага часу для дзяцей і ўнукаў (“Я лічыла, што гэта будзе прыватнай хатняй кнігай, хацела, каб яна была прыкладам, як трэба кахаць, сябраваць, якім быць”), яна звярнулася да дзяцей сяброўкі — Маргарыты і Вольгі. Тыя ўгаварылі Людмілу Георгіеўну распавесці гісторыю пра сапраўднае каханне сённяшнім чытачам і паспрыялі яе выхаду ў свет.

Хроніка вайны ў лістах маладога лётчыка паўстае з неверагоднай выразнасцю. У лістах захавана аўтарская арфаграфія і пунктуацыя. Яны дапоўненыя і запісамі з лётнай кніжкі Георгія Сцяпанавіча. Ён цытуе каханай вершы, якія саграюць сэрцы байцоў у доўгім расстанні, ненадакучліва выхоўвае сваю палавінку, падказваючы, што пачытаць, паглядзець, суцяшае і ўхваляе за прынятыя рашэнні. І разам з тым, як адзначыла падчас прэзентацыі ў кнігарні “Светач” Галіна Харытонава, старшыня мінскай раённай арганізацыі “Белая Русь”: “У кнізе праз каханне двух маладых людзей паказана бязмерная любоў да Радзімы”.



*Старшыня мінскай раённай арганізацыі “Белая Русь” Галіна Харытонава ўручае кнігі старшыні савета ветэранаў Мінскага раёна падпалкоўніку ў адстаўцы Анатолю Маісееву.*

Выданне, набытае за кошт сродкаў раённай арганізацыі “Белая Русь”, стала падарункам раённаму савету ветэранаў, усім школьным бібліятэкам Мінскага раёна, дзіцячай вёсцы “Истоки”, сацыяльна-педагагічнаму цэнтру, дзе знаходзяцца дзеці, што пры жывых бацьках аказаліся сіротамі, цэнтру сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва Мінскага раёна для аддзялення кругласутачнага знаходжання састарэлых грамадзян і інвалідаў, ідэалагічнаму аддзелу Мінскага райвыканкама (ім будуць узнагароджаны пераможцы конкурсу на лепшага ідэалагічнага работніка ў працоўных калектывах). “Письма с фронта: история любви” адпраўленыя і ў раённую бібліятэку.

Teenbook

# Современные сказки

Евгения ПАСТЕРНАК

**“Зачем нам читать? — часто спрашивают подростки, — всё это нудно, скучно, неинтересно и вообще не про нас”.**
**Я в таких случаях отвечаю, что если нудно и скучно, значит, читаете не те книги. У каждого человека есть “своя” книга. Та, которая заставит дрогнуть, та, которая зацепит и не отпустит до последней страницы. Для огромного количества детей такой книгой стал “Гарри Поттер”. Сказка, в которой сплелись современный мир и мечта о чуде. Сказка, в которой есть Добро и Зло. Сказка, после которой так хочется стать волшебником. Хорошая сказка или хорошее фэнтези объяснит подростку гораздо больше самого реалистичного произведения.**

***Константин Арбенин. Заявка на подвиг: Сказочное повествование. — Москва: Время, 2011.***

Эту книгу я бы рекомендовала не всякому подростку. А подростку умному. Подростку читающему. Тому, кто оценит юмор, кто прочитает многочисленные сноски, тому, кто задумается над тем, что “сказка ложь, да в ней намёк”. Мне бы очень не хотелось, чтобы всё это было пролистано впустую.




Сказочные, но вполне современно реалистичные приключения рыцаря барона Николая и его верной оруженоски доньи Мани. Донья Маня подобрала в кустах рыцаря-неудачника и буквально за три подвига сделала из него первосортного Рыцаря. Говорящую рыбу улопали, дворец детям вернули, многоголового дракона победили, в союз рыцарей вступать не стали. И вроде не про любовь книжка, а про подвиги. Но всё равно про любовь!

Несколько цитат из книги. Перелистываю её и улыбаюсь...

“О сколько нам открытий чудных готовит эта антресоль...”

“Дети наше будущее! Какое будущее! Дети — наше настоящее. Это мы, взрослые, — их будущее, их крайне невесёлое будущее”.

“Нет чудовищ, — есть природа и чудеса. Чудовище существует только одно — человеческая глупость”.

“Я, рыцарь, намерен защищаться сам, старым рыцарским способом. То есть использовать для защиты правду, только правду, ничего кроме правды.

— Вы понимаете, что так вам будет гораздо труднее?

— Понимаю. Но мне так легче”.

Так, сейчас я уткнусь в книгу по второму кругу... Чего и вам желаю!

***Евгениос Тривизас. Последний чёрный кот (перевод с греческого). — Москва: Самокат, 2011.***

Очень трудно объяснить ребёнку, что такое расизм, что такое геноцид. Вернее, объяснить, что это такое, легко, очень трудно объяснить мотивацию. Почему вдруг люди решают взять и уничтожить чёрных котов, чтобы добиться для себя счастья и благополучия? Кто это придумал? Кому это выгодно?

Как, оказывается, просто убедить население целого острова в том, что в их бедах виноваты не они сами, а чёрные коты.

Очень красочно, наглядно и нелицеприятно показано, как легко и быстро правительство понимает, что гораздо проще объявить войну против чёрных кошек, а не решать насущные проблемы, как общество защиты животных немедленно превращается в общество защиты людей от чёрных кошек, как по-разному сами чёрные кошки реагируют на преследования. Кто-то решает сам покончить с собой, потому что сам верит в то, что приносит несчастья, кто-то борется до конца (как главный герой книги), кто-то пытается обратиться за помощью, кто-то надеется отсидеться.

Коты других цветов предают своих чёрных сородичей:

— Наши мысли и молитвы будут сопутствовать вашей праведной борьбе! Но что касается действия — не впутывайте нас, пожалуйста, — говорит кот Снежок.

Надо ли говорить о том, что как только чёрные кошки на острове уничтожены, правительство взялось за уничтожение всех остальных кошек. Ведь ситуация в экономике не изменилась... Отлично показан механизм возникновения слухов, отлично показано, сколько мошенников и подонков немедленно начинает наживаться на этих слухах. Ну и “деньги правят миром”... увы...

Я считаю, что это одна из книг, которую обязательно нужно прочитать современному подростку, чтобы начать “думать своей головой”.

Можно читать лет с 9, младше не нужно, потому что описанные способы уничтожения чёрных котов могут травмировать нежную детскую психику. (Не пугайтесь, описаны именно способы, а не само уничтожение, но моя дочка точно бы обрыдалась.)




Подростки помладше прочтут как сказку (а-ля “Три толстяка”), подростки постарше оценят политическую сатиру и наверняка проведут параллели с окружающим миром. Лёгкий язык, живые персонажи, детектив и немножко любви. И добро в конце всё-таки побеждает.

***Жан-Клод Мурлева. Зимняя битва. — Москва: Самокат, 2007.***

Это уже не сказки, это фэнтези. Тут создан целый мир, придумана страна с историей, географией и героями.

Действие книги происходит в стране, которой правит Фаланга — злой, агрессивный диктатор, ненавидящий всё живое и загнавший всё, что шевелится, в глубокое подполье. Люди боятся разговаривать на улицах, всё наводнено шпионами.




Когда-то давно в стране зрела революция, но герои того, давнего Сопротивления, уничтожены. Более того, детей тех, кто участвовал в Сопротивлении, согнали в интернаты, где они живут в условиях, приближённых к концлагерю.

И вот двое юношей и две девушки решаются на невозможное — бегут.

У одной из девушек чудесный голос, который, как выяснилось, достался ей по наследству от мамы. Мама — символ Сопротивления. Её убил от большой любви (она ему отказала) один из пособников режима...

В итоге “наши”, конечно, побеждают, люди Фаланги предают её и сбегают… Закономерный финал и для диктатора, и для книги.

И последняя книга этого обзора — не сказка, но уж больно она перекликается с “Зимней битвой”, мне хотелось поставить их рядом. Действие этой книги происходит в закрытой школе для мальчиков, которая принадлежит католической общине. Впервые книга вышла в Америке в 1974 году и в её основу легла история, которая случилась с сыном автора. К счастью, в жизни всё было не так трагично. По этой книге снят фильм. Она наделала очень много шума. И вот её перевели и на русский язык.

***Роберт Кормье. Шоколадная война. — Москва: Розовый жираф, 2012.***

Что делать, чтобы история не ходила по кругу? Что делать, чтоб учиться на не своих ошибках? Что делать, чтоб не наступать на одни и те же грабли бессчётное количество раз?

Читать! Книги дают возможность проиграть ситуацию. Посмотреть. Оценить. Подумать.

Что происходит в школе, если директор школы сволочь? Во что превращает нормальных людей страх? Как быстро в такой школе под эгидой патриотизма начинается фашизм?

Вы любите свою школу? Да? Тогда каждый из вас должен продать по 50 коробок конфет и выручку принести директору. Это приказ, он не обсуждается. И даже тени сомнения не возникает ни в одной ученической голове до тех пор, пока Рено не произносит своё “нет!”

И что, можно не продавать? Можно просто сказать “нет”? И ничего тебе за это не будет? Не волнуйтесь, книга вполне реалистична. Вздох свободы задушен быстро и беспощадно. На помощь растерявшемуся директору приходят Стражи… Стражи — это те, кто на самом деле держат школу под контролем. Самый главный — Арчи… Тонкий психолог. Везунчик. Прирождённый лидер и редкостная гадина.

Почитайте, что будет, если дать ему возможность управлять всем. Почитайте, как его ненавидит его же команда. Как они все готовы его предать и утопить при любом удобном случае. И как они все боятся!

Этот удивительный коктейль из ненависти, подобострастия и страха! Читаешь — и как будто вязнешь в паутине. Самое противное — книга прорастает, врывается в жизнь, опутывает своими щупальцами. К сожалению, начинаешь находить прототипов героям в реальности. Есть и тупые садисты исполнители, вроде Янзы, и шавки Арчи, вроде Оби, и брат Леон (директор), который всё делает чужими руками, а сам остается в белом, и простые школьники, которые бы и рады поддержать Рено, но страшно, ох и страшно же…




И как быстро нормальные ребята превращаются в зверей. Как тонко Арчи играет на струнах мальчишеского азарта. Они были готовы поддержать Рено. И они готовы его убить. Потому что толпа при умелом обращении превращается в зверьё. Арчи это знает. И может быть, тот, кто прочитает “Шоколадную войну”, тоже это узнает? Может быть, сможет сказать “нет”? Может быть, сможет остановить очередную бойню?

Ведь читает же: Арчи один, школьников много. Почему же они позволяют ему одному командовать их жизнями? И многие прекрасно понимают, что происходит, но молчат. Не хотят связываться.

В конце книги Арчи, жмурясь от удовольствия, предвкушает чудесный год в школе под покровительством брата Леона.

Вы дочитаете до конца. Вы почувствуете злость. Вы будете думать, что школьники слабаки, что если бы они все договорились, то никакого Арчи бы давно не было…

И может быть, вы оглянётесь по сторонам? И может быть, что-то изменится?

На паліцы

# Пра добрага і блізкага чалавека

Мікола БЕРЛЕЖ




Яркі ўнёсак у нацыянальную, сусветную літаратуры зрабіў чалавек, які і ў жыцці выявіў сябе неардынарнай, шматаблічнай асобай. І часам здаецца, што з пункту гледжання літаратуразнаўства, гісторыі літаратуры, беларускай культуры мы вельмі мала гаворым пра Васіля Быкава...

Новая кніга, выдадзеная ў “Літаратуры і Мастацтве”, носіць крыху нечаканы, “нефарматны” характар. Пад адной вокладкай аб’яднаныя літаратуразнаўчае даследаванне Валянціны Локун “Васіль Быкаў у кантэксце сусветнай літаратуры” і ўспаміны пісьменніка, генерал-маёра ў адстаўцы Анатоля Сульянава “Васіль Быкаў. Камбат. Пісьменнік. Сябар”. Называецца зборнік “Васіль Быкаў: вядомы і невядомы”. Раней успаміны А. Сульянава, а я назваў бы іх дакументальнай аповесцю, друкаваліся ў часопісе “Нёман”. Урывак быў змешчаны ў газеце “Літаратура і мастацтва”, а таксама ў газеце “Звязда”. Не будзем гадаць, чаму менавіта такім, а не іншым аказаўся выдавецкі выбар у паяднанні дзвюх сапраўды разнапланавых работ. Заўважым іншае: абодва аўтары, відавочна, кіраваліся клопатам сказаць нешта новае пра творчасць, жыццё класіка айчыннай літаратуры. І, як мне падаецца, ім гэта ўдалося.

Анатоль Сульянаў доўгія гады быў шчырым сябрам Васіля Быкава. Пра свае стасункі з пісьменнікам, атмасферу вакол творцы, пра яго блізкіх сяброў і расказвае А. Сульянаў. Так, у тэксце чытач знойдзе шмат асабістага, такога, што найперш характарызуе самога аўтара. Але ж якраз гэта і вылучае дакументальную аповесць, робіць яе старонкі цікавымі. Бо, пэўна, у кожнага — “свой Быкаў”. Ды і ва ўсе гады сяброўства Анатоль Сульянаў ставіўся да аўтара “Сотнікава” з надзвычайным піетэтам. Імкнуўся нешта вартае, патрэбнае зрабіць для пісьменніка, стараўся па меры магчымасцей аблегчыць побыт, быць карысным у звычайных паўсядзённых справах. Не шкадаваў часу, каб нейкім чынам паспрыяць Быкаву, яго сям’і праз звароты да тых ці іншых начальнікаў.

Часам А. Сульянаў закранае няпростыя ўзаемадачыненні да класіка нацыянальнай літаратуры тэмы. Расказвае пра акалічнасці ў стасунках Васіля Уладзіміравіча з роднымі, блізкімі людзьмі. Канечне ж, пісаць пра гэта заўсёды не так проста. І часам многія мемуарысты выбіраюць іншы шлях — знаходзяць тое месца, дзе трэба паставіць кропку ці шматкроп’е. Анатоль Сульянаў адважна гаворыць вядомыя яму рэчы, пачутыя з вуснаў самога пісьменніка. І гэтым ніколькі не прыніжае свайго героя. На кожнай старонцы дакументальнай аповесці навідавоку любоў і павага, з якой А. Сульянаў расказвае пра свайго сябра.

Несумненна, камусьці сёння закарціць зрабіць заўвагу, прачытаўшы расповед “Васіль Быкаў. Камбат. Пісьменнік. Сябра”. Маўляў, нешта і не зусім так, як падаецца, занатаваў у сваёй памяці Анатоль Сульянаў. Што ж, і памяць мае права на суб’ектыўны характар. Але напісанае выклікае давер. Яшчэ і таму, што аўтар не абыходзіць вострых вуглоў, імкнецца быць гранічна шчырым і ў ацэнках сваёй пазіцыі, свайго ўласнага светабачання. А напрыканцы піша: “...У дзень пахавання Васіля Быкава я доўга сядзеў каля сябра, успамінаў нашы сустрэчы, узіраўся ў яго заспакоены твар, у яго бледныя рукі, што так многа зрабілі для народа...

І я прасіў у яго прабачэння; магчыма, некалі і нечым пакрыўдзіў мілага, дарагога сэрцу, ціхага, але неспакойнага чалавека.

Прабач, дарагі Васіль Уладзіміравіч...

Прабач нас усіх...”

# За честь, достоинство и вклад в литературу

**Ольга ПОЛОМЦЕВА**

Именно такой была одна из номинаций литературной премии “Большая книга”, лауреатом которой в 2007 году стала Людмила Улицкая, чьи произведения переведены на 33 языка. В этом же году российская писательница основала собственный благотворительный фонд по поддержке гуманитарных инициатив. Один из его проектов — “Хорошие книги” (Людмила Евгеньевна сама выбирает книги российских издательств и рассылает их в библиотеки страны).

Людмила Улицкая родилась 21 февраля 1943 года в Башкирии, где семья была в эвакуации. После войны — школа в Москве, биофак МГУ. Публиковать свои рассказы в журналах начала в конце восьмидесятых годов. Известность пришла к ней после того, как по её сценарию были сняты фильмы “Сестрички Либерти” (1990, режиссёр — Владимир Грамматиков) и “Женщина для всех” (1991, режиссёр — Анатолий Матешко), а в “Новом мире” вышла повесть “Сонечка” (1992). В 1994 г. это произведение было признано во Франции лучшей переводной книгой года и принесло автору престижную французскую премию Медичи. Во Франции же вышла и первая книга Людмилы Улицкой (сборник “Бедные родственники”, 1993) на французском языке.

Среди её наград — премия “Русский Букер” (2001) — за роман “Казус Кукоцкого”. Людмила Улицкая — первая женщина-лауреат этой премии.

Сборник рассказов **“Девочки”**, предлагаемый вашему вниманию в сегодняшней подборке, впервые напечатан в 2002 году, роман **“Зелёный шатёр”** — в 2011-м.

Людмила Улицкая — непревзойдённый мастер детали. Точными штрихами она воссоздаёт портрет времени, заставляет читателя холодеть от ужаса и смеяться до слёз, всем сердцем сопереживая героям произведений. Её лаконичная и невероятно насыщенная проза позволяет ощутить сопричастность судьбам, из которых слагается эпоха.

**“Зелёный шатёр”** — роман о поколении тех, кто взрослел во время хрущёвской оттепели, выбирал судьбу в шестидесятые, платил по счетам в семидесятые годы прошлого века. Время действия произведения можно определить как “от смерти Сталина до смерти Бродского”. Битые в школе не раз “благодаря полной непригодности ни к драке, ни к жестокости”, Саня, Илья и Миха создали тот “союз сердец”, которому не страшны любые испытания. “…такая сцепка между людьми возможна только в юном возрасте. Крючок впивается в самое сердце, и нить, связывающая детской дружбой, не прерывается всю жизнь”.

Коммунальный послевоенный быт, задавленные во время похорон Сталина люди, инвалид-литератор, влюбивший мальчиков в русскую литературу, первое чувство. Они следовали детским клятвам верности высоким идеалам — и вполне логично стали теми, кого власть окрестит позже диссидентами. Но кроме противостояния власти есть ещё смерть близких, болезни, несчастные случаи… Об испытаниях, которые выпали на долю друзей, рассказывается на страницах романа.



Что может быть ярче воспоминаний детства? Когда читаешь сборник рассказов Людмилы Улицкой **“Девочки”,** теряешься в догадках — какой же из них автобиографичен, настолько глубоко раскрыто всё происходящее в детских душах. Здесь первое разочарование свежеиспечённой пионерки Алёны Пшеничниковой, которая ведёт своих подруг к вышившей ногами портрет вождя безрукой Тамаре: “Товарища Сталина она по-настоящему не любила” (рассказ “Дар нерукотворный”). Едва не обернувшаяся трагедией жестокая шутка одной сестрички-близнеца над другой (“Подкидыш”). Жертва во имя любви, которую даже не осознаёт героиня рассказа “Бедная счастливая Колыванова”. Дамоклов меч “дела врачей”, нависший над семьёй Беллы Зиновьевны и Александра Аароновича, в которой растёт внучка Лилечка и умирает от рака её прадед (“Второго марта того же года…”). Поломавшая счастливую семейную жизнь Серго и Маргариты война. У любящих друг друга людей много лет не было детей. Война их разлучила. Чудо случилось, когда в сорок втором году он заехал домой на одну ночь по пути в действующую армию. Но, получив сообщение о рождении двойняшек, решил, что они чужие. “Измена жены была для него несомненна, а мелочными расчётами женских сроков он не занимался”. Он разжигал “в себе огонь ревности такой мощности, что вся грохочущая вокруг война, превратившаяся уже в обыденность, тонула в этом огне, как сухая травинка”. Получив его письмо, Маргарита сошла с ума. Он искал смерти, но та словно обходила его. И он вернулся к этим чужим детям, о которых заботилась его тёща. Вынимая их по вечерам из большого жестяного корыта, “он не обращал внимания на чайного цвета родинки, украшавшие детские ягодицы. И единственным человеком, который мог бы ткнуть его в плоский зад в самую середину родинки в виде перевёрнутой короны, была его бедная жена Маргарита, которая всё сидела в своём кресле и разговаривала с мужем, которого она так любила”.



Под обложкой этого сборника рассказов читатель отыщет ещё и цикл “Детство-49”, со всей полнотой позволяющий сравнить надежды и страхи того времени со своими детскими годами. Всем в детстве приходилось терять деньги. Но прочувствовать, что испытывают шестилетняя Дуся и её младшая сестричка Ольга, вы в полной мере можете из рассказа “Капустное чудо”. Девочек послала за капустой-морковкой на зиму старуха Ипатьева, у которой они оказались после смерти родителей и бабушки, старухиной сестры, а деньги выскользнули из дырявого кармана. “Умненькая Дуся всё думала, что бы такое сказать Ипатьевой, чтобы она их не прибила или, хуже того, не прогнала… Украли? Или отняли? Или ещё чего? Сказать “потеряла” казалось ей совсем невозможным”.

Запомнятся читателю Валька Боброва, что может рассказать о каждой сделке жителей дома со старьёвщиком (рассказ “Восковая уточка”), почти совсем слепой дед-шептун, починивший чуткими руками разбитые внучкой Диной часы (“Дед-шептун”), Серёжа, которому посчастливилось застать в живых прадеда (“Гвозди”): “В то лето Сергей так и не сдружился со своими троюродными. Он ходил за стариком и делал с ним всякую работу: столярную, по дому, на пасеке… Под самый конец лета деду привезли на телеге доски. Сгрузили возле сарая. Дед долго их оглядывал, кряхтел, качал головой… Перед самым Серёжиным отъездом работа была закончена — это был большой длинный ящик с крышкой.

Троюродный брат Митька в последний день спросил:

— А на похороны приедешь?

— На какие похороны? — удивился Серёжа.

— Так прадед помирать собрался, гроб-то на что он строил?”

В рассказе “Счастливый случай” читатели ощутят колорит залитого солнцем двора, где дворничиха Халима на раскладушке сушит свои одеяла, коврики, перины большой разноцветной кучей. Вреднющая старуха Клюквина подучивает внука Кольку перевернуть раскладушку, на что Халима просто собирает всё, как было, и сажает присматривать за вещами дочку Розку. Именно этот пёстрый ворох спасёт от увечья упавшего с крыши Кольку, и Клюквиной придётся наведаться к Халиме с большим пирогом с вареньем.

Заглянет читатель и на день рождения к Геньке Пираплётчикову, герою рассказа “Бумажная победа”. “Его фамилия писалась так нелепо, что с тех пор, как он научился читать, он ощущал её как унижение”. Болезненного мальчика во дворе не любят, и, чтобы изменить ситуацию, мама с бабушкой приглашают его обидчиков на день рождения. Сможет ли это помочь Геньке, который умеет только одно — складывать из бумаги разные фигурки?

Уверена, вы не только на одном дыхании прочтёте, но и не раз перечитаете эти и другие произведения Людмилы Улицкой.





# Магическая сила любви

**Евгения БЕЛИНА**

Символично, что День святого Валентина отмечается зимой. Ведь снег — это символ чистоты, надежды и веры. Вспомните старую традицию: поймать снежинку на ладони и загадать желание, пока она не растает. Главное — успеть…

И всё же… Есть страны, в которых День влюблённых не совпадает с привычной нам датой. Например, в Болгарии он соответствует старинному национальному празднику, дню памяти Трифона Зарезана, покровителя виноградарей. В Японии 14 февраля — аналог нашего 8 марта. Разве что для представителей сильного пола. У некоторых народов День влюблённых никак не связан с зимой, они отмечают его в разное время года. Даже летом — 12 июня. Впрочем, неважно, когда праздновать. Для тех, кто любит, всегда найдётся “свой” день.

Как обрести веру в любовь, научиться отличать любовь от страсти, отыскать свою вторую половинку? Ответы на эти и многие другие вопросы можно найти в **“Книге помощи для всех, кто любит” Ганны Шпак.** Красивое оформление, выполненное в романтическом стиле, предлагает читателю открыть тайну Настоящей Искренней Любви. В книге есть история о молодом священнике Валентине, легенды и предания этого дня, традиции и обычаи празднования в разных странах, символы и знаки любви, а также полезная информация о подарках для любимых, лучшие стихи и цитаты, мысликлассиков литературы и искусства о любви…

Если вы не решаетесь открыть свое сердце любимым или не знаете, как это сделать, — эта книга станет хорошей “шпаргалкой”: стоит только выбрать стихотворение или понравившуюся цитату.

Много прекрасных слов было сказано о любви. Во все века писатели, сценаристы, режиссёры, музыканты, композиторы, скульпторы, художники создали множество произведений о ней. Именно это чувство способно творить чудеса.

В книге вы найдёте множество молитв, которые могут помочь не только обрести веру в любовь, но и подскажут путь к Истинной Любви.

Вы одиноки и не знаете, что такое любовь? Тогда эта книга для вас. Может случится так, что именно она станет вашим верным талисманом и научит распознавать знаки истинного чувства. И тогда вы несомненно получите помощь и покровительство от святого Валентина, а также самую главную награду от него — Настоящую Искреннюю Любовь…

ООО «Харвест» (Минск). — 10100 экз. — ISBN 978-5-271-06025-0 (Астрель). — ISBN 978-5-17-012048-2 (АСТ). — ISBN 978-985-16-02-55-7 (Харвест) (в пер.).

**Теремок**: [для дошкольного и младшего школьного возраста]. — Минск: Букмастер, 2012. — 16 с. — 11000 экз. — ISBN 978-985-549-139-3.

**Толстой, Л. Н.** Три медведя: [для дошкольного и младшего школьного возраста / Толстой Лев Николаевич; художник Марина Малкус]. — Москва: Оникс, 2011. — 10 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5100 экз. — ISBN 978-5-488-02385-7 (Оникс). — ISBN 978-985-18-0794-5 (Харвест).

**Успенский, Э. Н.** Дядя Федор, пес, кот и другие: [для чтения взрослыми детям] / Э. Успенский. — Москва: АСТ: Астрель, 2011. — 122 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 7000 экз. — ISBN 978-5-17-063740-9 (АСТ). — ISBN 978-5-271-26045-2 (Астрель). — ISBN 978-985-16-76-89-3 (Харвест) (в пер.).

**Фраерман, Р. И.** Дикая собака динго, или Повесть о первой любви: [для среднего школьного возраста] / Рувим Фраерман. — Москва: АСТ: Астрель, 2012. — 187 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-07-1405-6 (АСТ). — ISBN 978-5-271-33006-3 (Астрель). — ISBN 978-985-16-9427-9 (Харвест) (в пер.).

**Царевна-лягушка**: [русская народная сказка: для дошкольного и младшего школьного возраста / обработка Сергея Кузьмина; художники: Виктор Чайчук и Александр Ткачук]. — Минск: Книжный Дом, 2011. — 14 с. — 8030 экз. — ISBN 978-985-17-0412-1.

**Цыферов, Г. М.** Дневник медвежонка: [сказки: для дошкольного возраста] / Г. Цыферов; рисунки Э. Булатова и О. Васильева. — Москва: Астрель, 2011. — 30 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-271-39100-2 (Астрель). — ISBN 978-985-18-0734-1 (Харвест).

### Літаратура Беларусі на рускай мове

**Авласенко, Г. П.** Ветерок и госпожа Зима: сказка / Геннадий Авласенко. — Минск: Літаратура і Мастацтва, 2012. — 133 с. — Содержит художников: Аверченко А., Агибалов Д., Вардеванян С., Ващенко А., Долганова Д., Станкевич М., Тимохов Г., Филиппова М., Шпунт А.-М. — 1600 экз. — ISBN 978-985-6994-84-8 (в пер.).

**Азбука в стихах**: [для дошкольного и младшего школьного возраста]. — Минск: Букмастер, 2012. — 16 с. — 11000 экз. — ISBN 978-985-549-133-1.

**Болдин, В.** Для чего придуман слон?: [для дошкольного и младшего школьного возраста] / Валерий Болдин. — Минск: Минская фабрика цветной печати, 2012. — 31с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-454-608-7 (в пер.).

**Добрый котик**: [для дошкольного и младшего школьного возраста]. — Минск: Букмастер, 2012. — 16 с. — 11000 экз. — ISBN 978-985-549-135-5.

**Екимова, Е. А.** Православная азбука в стихах: [для чтения взрослыми детям] / Елена Екимова; [рисунки Татьяны Соколовой]. — Минск: Свято-Елисаветинский женский монастырь в г. Минске, 2011. — 43 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-6886-69-3.

**Кто будет за нас молиться?**: сборник рассказов: [для среднего и старшего школьного возраста] / автор-составитель Борис Ганаго; художник Ирина Зенюк. — Минск: Братство в честь Святого Архистратига Михаила в г. Минске Минской епархии Белорусской Православной Церкви, 2011. — 62 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-6978-17-6.

**Литвяк, Е. В.** Праздник белого цветка: детям о царской семье: [для чтения взрослыми детям] / Елена Литвяк; [художник Евгения Суховерхова]. — Минск: Свято-Елисаветинский женский монастырь в г. Минске, 2011. — 34 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-6886-74-7.

**Севивончик**: приложение к альманаху детского творчества «Севивон» / Еврейское культурное общество «Эмуна»; [редактор-составитель: В. Л. Лясковский]. — Минск: В.И.З.А. ГРУПП, 2011. — 35 с. — 100 экз.

**Умная сказка**: [для дошкольного и младшего школьного возраста]. — Минск: Букмастер, 2012. — 16 с. — 11000 экз. — ISBN 978-985-549-132-4.

### Беларуская літаратура

**Белорусские народные сказки**: [для младшего и среднего школьного возраста / перевел с белорусского: Г. Петников]. — Минск: Парадокс, 2012. — 383 с. — 2837 экз. — ISBN 978-985-451-267-9 (в пер.).

**Мазго, У. М.** Лепшыя сябры: вершы, казка: для дзяцей дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту / Уладзімір Мазго. — Мінск: Народная асвета, 2012. — 27 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-03-1710-0.

**Якімовіч, А. М.** Каб мама ўсміхалася: апавяданні, казкі, смяшынкі: [для малодшага школьнага ўзросту] / А. М. Якімовіч; [мастак У. С. Пашчацеў]. — Мінск: Народная асвета, 2012. — 119 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-03-1735-3.

### Тэорыя літаратуры

**Христианский гуманизм и его традиции в славянской культуре**: [сборник научных статей] / Министерство образования Республики Беларусь, Гомельский государственный университет им. Ф. Скорины; [редколлегия: Т. Н. Усольцева (главный редактор), И. Н. Афанасьев, Н. В. Суслова]. — Гомель: ГГУ, 2009– — ISSN 2223-1579.

Вып. 4. — 2011. — 183 с. — Часть текста на белорусском и украинском языках. — 60 экз.

### Беларуская літаратура

**Васіль Быкаў**: вядомы і невядомы: літаратуразнаўчае эсэ, успаміны / [укладальнік Мікола Мінзер]. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2011. — 173 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 1000 экз. — ISBN 978-985-6994-80-0 (у пер.).

## ГЕАГРАФІЯ. БІЯГРАФІІ. ГІСТОРЫЯ

### Краязнаўства

**Беларусь. Факты, 2012**: [справочное издание / составители: Балышева Светлана Валентиновна, Дылейко Александр Александрович; главный редактор: Г. Н. Головатая]. — Минск: БЕЛТА, 2011. — 10 с. + 1 электронно-оптический диск (DVD-ROM). — 2000 экз. — ISBN 978-985-6828-81-5. — ISBN 978-985-6828-77-8 (отд. кн.). — ISBN 978-985-6828-79-2 (DVD-ROM).

**Belarus. Facts, 2012**: [справочное издание / составители: Балышева Светлана Валентиновна, Дылейко Александр Александрович; перевод: Е. Л. Мороз; главный редактор: Г. Н. Голотавая]. — Минск: БЕЛТА, 2011. — 10 с. + 1 электронна-аптычны дыск (DVD-ROM). — На англійскай мове. — 4000 экз. — ISBN 978-985-6828-82-2. — ISBN 978-985-6828-78-5 (асоб. кн.). — ISBN 978-985-6828-80-8 (DVD-ROM).

Беларусь. Факты, 2012.

### Геаграфія. Геаграфія Беларусі

**Гомельская область**: [оценка географического и хозяйственного положения области / Г. Н. Каропа и др.]; Министерство образования Республики Беларусь, Гомельский государственный университет им. Франциска Скорины. — 2-е изд., дополненное и переработанное. — Гомель: ГГУ, 2011. — 166 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-439-598-2.

### Гістарычная навука. Гістарыяграфія

**Консультативный совет руководителей государственных архивных служб государств – участников СНГ**: рабочие документы: (Минск, 21 июня 2011 г.) / [редколлегия: В. И. Адамушко и др.]. — Минск: БелНИИДАД, 2012. — 51 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-6733-60-7.

**Криштапович, Л. Е.** Беларусь как русская святыня / Лев Криштапович. — Минск: БОНЕМ, 2011. — 149 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-6630-58-6.

### Гісторыя Сярэдніх вякоў, новага і найноўшага часу

**Носовский, Г. В.** Империя: Славянское завоевание мира. Европа. Китай. Япония. Русь как средневековая метрополия Великой Империи / Г. В. Носовский, А. Т. Фоменко. — Москва: Астрель, 2011. — 718 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — Библиография: с. 696–710. — 2500 экз. — ISBN 978-5-271-37706-8 (Астрель). — ISBN 978-985-18-0679-5 (Харвест) (в пер.).

**Носовский, Г. В.** Тайна русской истории: Новая хронология Руси. Татарский и арабский языки на Руси. Ярославль как Великий Новгород. Древняя английская история – отражение византийской и ордынской / Г. В. Носовский, А. Т. Фоменко. — Москва: Астрель, 2011. — 686 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-271-37707-5 (Астрель). — ISBN 978-985-18-0712-9 (Харвест) (в пер.).

### Гісторыя Расіі. Гісторыя СССР у цэлым

**Гумилев, Л. Н.** Древняя Русь и Великая степь / Лев Гумилев. — Москва: Астрель, 2011. — 839 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-271-39643-4 (Астрель). — ISBN 978-985-18-0930-7 (Харвест) (в пер.).

**Носовский, Г. В.** Новая хронология Руси: Русские летописи. «Монголо-татарское» завоевание. Куликовская битва. Иван Грозный. Разин. Пугачев. Разгром Тобольска и раздел его огромных североамериканских владений между романовской Россией и европейскими колониями на востоке Америки. Возникновение США / Г. В. Носовский, А. Т. Фоменко. — Москва: Астрель, 2011. — 751 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2500 экз. — ISBN 978-5-271-37699-3 (Астрель). — ISBN 978-985-18-0704-4 (Харвест) (в пер.).

### Гісторыя Беларусі

**Аўгустоўскі канал і яго наваколле**: (па дакументах Дзяржаўнага архіва Гродзенскай вобласці) / Дэпартамент па архівах і справаводству Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь, Навукова-метадычная ўстанова «Дзяржаўны архіў Гродзенскай вобласці»; [складальнікі: Л. В. Кісель і інш.; навуковы рэдактар: С. Я. Куль-Сяльверстава]. — Слонім: Слонімская друкарня, 2011. — 113 с. — 250 экз. — ISBN 978-985-6602-97-2.

**Баюра, А. Н.** Хроника основных событий Второй мировой и Великой Отечественной войн: пособие для студентов всех специальностей / Баюра А. Н.; Министерство образования Республики Беларусь, Брестский государственный технический университет, Кафедра социально-политических и исторических наук. — Брест: БрГТУ, 2012. — 59 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-493-212-5. — ISBN 985-493-212-5 (ошибоч.).

**Борисенко, Н. С.** 1941-й: пылающие рубежи Днепра и Сожа / Николай Борисенко. — Могилев: АмелияПринт, 2011. — 658 с. — 600 экз. — ISBN 978-985-6891-18-5 (в пер.).

**Гісторыя Беларусі**: практыкум для навучэнцаў усіх спецыяльнасцей 1-га курса / Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, Мінскі дзяржаўны вышэйшы радыётэхнічны каледж; [складальнік В. С. Саўчанка]. — Мінск: МДРВК, 2011. — 60 с. — 120 экз. — ISBN 978-985-526-129-3.

**Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ў канцы XVIII – пачатку XXI ст.** : у 2 кн. / [А. А. Каваленя і інш.: рэдкалегія: А. А. Каваленя (галоўны рэдактар) і інш.]; Нацыянальная акадэмія навук Беларусі. — Мінск: Беларуская навука, 2011– — ISBN 978-985-08-1308-4 (у пер.).

Кн. 1. — 2011. — 583 с. — 700 экз. — ISBN 978-985-08-1309-1.

**Дианова, Т. Б.** История Беларуси: учебно-методическое пособие для студентов заочного отделения по специальностям 1-74 03 02 «Ветеринарная медицина» и 1-74 03 01 «Зоотехния»: [в 2 ч.] / Т. Б. Дианова, Н. К. Юргевич, Т. В. Воронова; Витебская государственная академия ветеринарной медицины. — Витебск: ВГАВМ, 2011–

Ч. 1: От первобытнообщинного строя до разделов Речи Посполитой. — 2011. — 37 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-512-566-3.

**Лякин, В. А.** Реквием Минской бригаде: исторический очерк / В. А. Лякин. — Мозырь: Белый Ветер, 2012. — 92 с. — 121 экз. — ISBN 978-985-538-616-3 (в пер.).

**Панов, С. В.** История Беларуси: 9-й класс: билеты / С. В. Панов. — 5-е изд., переработанное. — Минск: Аверсэв, 2012. — 96 с. — 21000 экз. — ISBN 978-985-533-185-9.

**Рубинштейн, Л. М.** Нельзя забыть: [воспоминания малолетнего узника Минского гетто и фашистских концлагерей] / Леонид Рубинштейн; [фотографии Аркадия Шульмана]. — Минск: Медисонт, 2011. — 127 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-6982-40-1.

## АГУЛЬНЫ РАЗДЗЕЛ. НАВУКА І ВЕДЫ. ДАКУМЕНТАЦЫЯ. БІБЛІЯТЭЧНАЯ СПРАВА

### Навука і веды ў цэлым

**Основные результаты фундаментальных исследований и предложения по перспективам их использования** / Белорусский республиканский фонд фундаментальных исследований. — Минск: БРФФИ, 1994–

Вып. 18 / [составители: В. В. Кручинский и др.; под общей редакцией В. А. Орловича, В. И. Прокошина, Н. Н. Костюковича]. — 2011. — 264 с. — 152 экз.

**Catalogue of innovation projects and products**: [realized in 2010] / State Committee on Science and Technologies of the Republic of Belarus ; [edited by I. Voitau]. — Minsk: Belarussion Institute of System Analysis and Information Support of Scientific and Technical Sphere, 2011. — 182 с. — На англійскай мове. — 150 экз. — ISBN 978-985-6874-25-6.

Каталог інавацыйных праектаў і распрацовак.

**Main results of fundamental research and search scientific works** / Belarusian Republican Foundation for Fundamental Research. — Minsk: BRFFR, 1994– — На англійскай мове.

Асноўныя вынікі фундаментальных і пошукавых даследаванняў.

Iss. 18 / [compiling: Natalia N. Polovinko; editor: Nikolai N. Kostyukovich]. — 2011. — 209 с. — 74 экз.

**Science, innovations and technologies in the Republic of Belarus, 2010**: short statistical book / State Committee on Science and Technologies of the Republic of Belarus; [scientific editor: I. Khartonik]. — Minsk: Belarusian Institute of System Analysis and Information Support to Scientific and Technical Sphere, 2011. — 67 с. — На англійскай мове. — 100 экз. — ISBN 978-985-6874-22-5.

Навука, інавацыі і тэхналогіі ў Рэспубліцы Беларусь.

### Інфармацыйныя тэхналогіі. Вылічальная тэхніка

**Абламейко, С. В.** Кибернетика жизни: размышления академика / С. В. Абламейко. — Минск: Издательский центр БГУ, 2012. — 252 с. — 1000 экз. (1-й з-д 500). — ISBN 978-985-476-965-3 (в пер.).

**Аладьев, В. З.** Программирование в пакетах Maple и Mathematica: сравнительный аспект / В. З. Аладьев, В. К. Бойко, Е. А. Ровба; Гродненский государственный университет им. Янки Купалы. — Гродно: ГрГУ, 2011. — 517 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-515-481-6 (в пер.).

**Василькова, И. В.** Основы информационных технологий в Microsoft Office 2010: практикум: [для студентов] / И. В. Василькова, Е. М. Васильков, Д. В. Романчик. — Минск: ТетраСистемс, 2012. — 142 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-536-287-7.

**Голдобина, Т. А.** Оформление многостраничных документов в MS Word: учебно-методическое пособие для самостоятельной работы студентов экономических специальностей / Т. А. Голдобина; Министерство образования Республики Беларусь, Белорусский государственный университет транспорта, Кафедра «Информационные технологии». — Гомель: БГУТ, 2012. — 46 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-468-986-9.

**Открытые семантические технологии проектирования интеллектуальных систем** = Open semantic technologies for intelligent systems: OSTIS-2012: материалы II Международной научно-технической конференции (Минск, 16–18 февраля 2012 г.) / [редколлегия: В. В. Голенков (отв. ред.) и др.]. — Минск: БГУИР, 2012. — 544 с. — Часть текста параллельно на русском и английском языках. — Часть текста на английском и белорусском языках. — 120 экз. — ISBN 978-985-488-859-0.

### Кіраванне. Менеджмент

**Бланшар, К.** Одноминутный менеджер и обезьяны: [крутой поворот к большому успеху] / Кен Бланшар, Уильям Онкен-младший, Хэл Берроуз; [перевел с английского П. А. Самсонов]. — Минск: Попурри, 2012. — 173 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3500 экз. — ISBN 978-985-15-1530-7.

**Бланшар, К.** Одноминутный менеджер строит высокоэффективную команду: [новейшие концепции управления] / Кен Бланшар, Дональд Керью, Юнайс Паризи-Керью; [перевел с английского П. А. Самсонов]. — Минск: Попурри, 2012. — 158 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3500 экз. — ISBN 978-985-15-1531-4.

**Дзикович, Н. Г.** Логистика: пособие: [для студентов и слушателей] / Н. Г. Дзикович; Академия управления при Президенте Республики Беларусь. — Минск: Академия управления при Президенте Республики Беларусь, 2012. — 174 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-527-055-4.

**Казакевич, Л. А.** Теоретические основы менеджмента: пособие для специалистов агропромышленного комплекса / Л. А. Казакевич, Е. И. Михайловский; Министерство сельского хозяйства и продовольствия Республики Беларусь, Белорусский государственный аграрный технический университет. — Минск: БГАТУ, 2012. — 290 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-519-500-0.

**Лазарчик, Т. В.** Делопроизводство: курс лекций / Т. В. Лазарчик; Министерство образования Республики Беларусь, Могилевский государственный университет им. А. А. Кулешова. — Могилев: МгГУ, 2012. — 142 с. — 60 экз. — ISBN 978-985-480-766-9.

**Социально-экономические технологии бизнеса**: монография / [Н. В. Киреенко и др.]; Министерство образования Республики Беларусь, Частное учреждение образования «Институт предпринимательской деятельности». — Минск: БГПУ, 2012. — 231 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-501-982-5.

### Стандартызацыя прадукцыі, працэсаў, мер, вагаў і часу

**Добросольцева, Е. С.** Метрология и стандартизация: учебно-методический комплекс для студентов специальности 1-70 04 02 «Теплогазоснабжение, вентиляция и охрана воздушного бассейна» / Е. С. Добросольцева; Министерство образования Республики Беларусь, Полоцкий государственный университет. — Новополоцк: ПГУ, 2011. — 67 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-531-251-3.

**Метрология**: каталог документов: по состоянию на 1 февраля 2012 г. / Государственный комитет по стандартизации Республики Беларусь, Республиканское унитарное предприятие «Белорусский государственный институт метрологии». — Минск: БелГИМ, 2012. — 203 с. — 60 экз. — ISBN 978-985-6726-48-7.

**Правила подтверждения соответствия Национальной системы подтверждения соответствия Республики Беларусь** : (по состоянию на 01.01.2012) / Государственный комитет по стандартизации Республики Беларусь. — Минск: БелГИСС, 2012. — 69 с. — 30 экз.

**Справочник по основным динамическим характеристикам и показателям многопараметрического дискретно-непрерывного закона распределения ГАНКА и сферы его применения**: [в 7 т.] / Белорусский государственный институт метрологии; [под общей редакцией Н. А. Жагоры]. — Минск: БелГИМ, 2010–

Т. 2: Таблицы и графики основных динамических характеристик и показателей многопараметрического дискретно-непрерывного закона распределения ГАНКА ($R_0$, $R_n$, $R_n$, $Ф_r$, $M_R$, $D_R$) и их зависимости от параметров a=b=1, 2, 4, 8, 16, 32, 64, 128; 0≤k≤10; 0≤j≤1 / [А. Н. Головин и др.]. — 2012. — 670 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-6726-47-0.

### Бібліяграфія і бібліяграфіі. Каталогі

**«Аверсэв», издательство (Минск).** Централизованное тестирование, 2012: каталог изданий / Издательство «Аверсэв». — Минск: Аверсэв, 2012. — 62 с. — Часть текста на белорусском языке. — 4100 экз.

**Белорусский государственный университет (Минск).** Тематический план издания учебной, учебно-методической, научной и справочной литературы Белорусского государственного университета на 2012 год. — Минск: БГУ, 2012. — 21 с. — 60 экз.

**Брестский государственный университет имени А. С. Пушкина.** Тематический план издания научной, учебной, учебно-методической литературы издательством Брестского государственного университета имени А. С. Пушкина на 2012 год. — Брест: БрГУ, 2012. — 35 с. — 100 экз.

**Кузьмініч, Т. В.** Бібліяграфазнаўства. Тэорыя : вучэбны дапаможнік для студэнтаў устаноў вышэйшай адукацыі па спецыяльнасці «Бібліятэказнаўства і бібліяграфія (па напрамках)» / Т. В. Кузьмініч. — Мінск: Беларусь, 2012. — 213 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 400 экз. — ISBN 978-985-01-0944-6 (у пер.).

**Мазырскі дзяржаўны педагагічны інстытут.** Бібліяграфічны паказальнік навуковых, навукова-метадычных і творчых работ прафесарска-выкладчыцкага складу і аспірантаў / Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь, Мазырскі дзяржаўны педагагічны інстытут. — Мазыр: МзДПІ, 1994–

Вып. 1 / рэдактары-складальнікі: С. М. Лазарава, Г. С. Макеранкова [г. зн. Макеранкава], Т. Т. Петухова. — 1994. — 228 с., уключаючы вокладку. — Частка тэксту на рускай мове. — Прысвячаецца 50-годдзю інстытута. — 30 экз.

Вып. 2: (1994 г.) / [складальнік Г. С. Макеранкава; адказны рэдактар В. В. Шапялевіч]. — 1996. — 84 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 30 экз.

Вып. 3: (1995 г.) / [складальнік Г. С. Макеранкава; адказны рэдактар В. В. Шапялевіч]. — 1997. — 62 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 30 экз.

Вып. 4: (1996 г.) / [складальнікі: З. А. Валетава, Г. С. Макеранкава, Н. М. Баярчук]. — 2003. — 79 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 30 экз.

Вып. 5: (1997 г.) / [складальнікі: Г. С. Макеранкава, С. М. Лазарава, Н. М. Баярчук]. — 2003. — 68 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 30 экз.

Вып. 6: (1998 г.) / [складальнікі: С. М. Лазарава, Г. С. Макеранкава, Н. М. Баярчук]. — 2003. — 72 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 30 экз.

Вып. 7: (1999 г.) / [составители: С. Н. Лазарева, Г. В. Коробская]. — 2004. — 68 с. — На русском языке. — Часть текста на белорусском языке. — 30 экз.

### Музеі. Пастаянныя выстаўкі

**Линия Сталина** = Stalin's line: историко-культурный комплекс. — Минск, 2012. — 31 с. — Текст параллельно на русском и английском языках. — 100 экз. — ISBN 978-985-454-613-1.

**Літаратурны музей Максіма Багдановіча** = Литературный музей Максима Богдановича / [складальнік Т. Э. Шэляговіч; фотаздымкі: С. У. Калтовіч]. — Мінск: Нацыянальная бібліятэка Беларусі, 2011. — 61 с. — Тэкст паралельна на беларускай і рускай мовах. — 100 экз. — ISBN 978-985-6879-67-1.

**Музейны веснік** / Нацыянальны гістарычны музей Рэспублікі Беларусь; [рэдкалегія: С. У. Вечар і інш.]. — Мінск, 2003–

Вып. 5 / [укладальнікі: Н. У. Калымага, А. І. Ладзісаў, М. А. Плавінскі]. — Артыя Груп, 2011. — 199 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-6893-44-8.




## Кнігарня «Глобус», г. Віцебск

### Кнігі беларускіх выдавецтваў

1. Наталья Батракова. Миг бесконечности. — Минск: Регистр, 2012.
2. Оксана Котович, Янка Крук. Золотые правила народной культуры. — Мінск: Адукацыя і выхаванне, 2012.
3. Беларусь: страницы истории. — Минск: Беларуская навука, 2011.

*В издании, что вышло в свет под грифом Института истории Национальной академии наук Беларуси, на основе новейших достижений исторической мысли, концептуальных методологических подходов, а также национально-государственной идеологии представлена история государства с древнейших времен до наших дней, раскрыты место и роль белорусского народа в развитии европейской цивилизации.*

*Книга состоит из разделов "У истоков белорусского народа", "Белорусские земли в XI—XIII вв.", "В составе Великого княжества Литовского и Речи Посполитой (2-я половина XIII—XVIII вв.)", "В составе Российской империи", "Беларусь в советский период", "Республика Беларусь". Особое место отведено освещению современных достижений белорусского государства.*

4. Александр Алексеев, Олег Лукашевич. Наследие Беларуси. — Минск: Минская фабрика цветной печати, 2010.
5. Барыс Лазука. Гісторыя сусветнага мастацтва. Т. 3. — Мінск: Беларусь, 2011.
6. Анатоль Бутэвіч. Прыгоды Віруса Шкодзі. Незвычайная казка пра караля Віндаўса Вялікага, Віруса Шкодзю і чароўныя камп'ютары. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2012.
7. Уладзімір Караткевіч. Дзікае паляванне караля Стаха. — Мінск: Беларускі фонд культуры, 2010.
8. Уладзіміў Караткевіч. Хрыстос прызямліўся ў Гародні. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2007.
9. Гісторыя беларускай кнігі. Т. 1, 2. — Мінск: Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі, 2009.
10. Сергей Плыткевич. Дикая жизнь в центре Европы: фотоальбом. — Минск: Рифтур, 2006.

### Кнігі расійскіх выдавецтваў

1. Алексей Пехов. Ветер и искры. — Москва: Альфа-книга, 2011.
2. Елизавета Шумская. Цена слова. — Москва: Альфа-книга, 2009.
3. Сергей Лукьяненко. Новый дозор. — Москва: АСТ, 2012.
4. Валентин Пикуль. Фаворит. — Москва: АСТ, 2010.
5. Александра Маринина. Личные мотивы. — Москва: Эксмо, 2011.
6. Евгений Гришковец. Асфальт. — Москва: Махаон, 2008.
7. Юрий Поляков. Замыслил я побег. — Москва: АСТ; Астрель, 2009.
8. Пауло Коэльо. Алхимик. — Москва: АСТ; Астрель, 2012.
9. Бернар Вербер. Рай на заказ. — Москва: Гелеос, 2010.
10. Сергей Клочков. Дар Монолита. — Москва: АСТ; Астрель, 2011.

## Мастак і кніга


Аліўе Талек

# Маляванне без межаў

**Вектары інтарэсаў аматараў кнігі з розных краін перакрыжаваліся ў Мінску. Пазнаёміць беларускіх дзяцей і моладзь з найлепшымі ўзорамі літаратуры сваёй краіны — такой мэтай кіравалася Пасольства Францыі ў Рэспубліцы Беларусь, прапануючы наведаць Мінск мастаку Аліўе Талеку. Выхаду ў свет кнігі на рускай мове "Надо бы" Цьеры Ленэна, якую аздобіў Аліўе Талек, паспрыяла выдавецтва "КомпасГид" (на вокладцы французскіх дзіцячых выданняў прозвішчы аўтара і мастака — побач. І не дзіўна: часта ілюстрацыі аддадзены цэлы разварот, а тэксту на ім — літаральна некалькі радкоў). Заснаванае ў 2008 годзе маскоўскае выдавецтва з самага пачатку бярэ ўдзел у Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы, актыўна супрацоўнічае з беларускімі бібліятэкамі і Пасольствам Францыі. Яго дэвіз — "Стварыць прастору для грамадзян свету".**

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА,
фота Веры Сіраты

Праграма госця была насычанай: Аліўе Талек сустрэўся з дзецьмі, якія вывучаюць французскую мову, з навучэнцамі Мінскага дзяржаўнага мастацкага каледжа імя А. К. Глебава, наведвальнікамі і супрацоўнікамі бібліятэк сталіцы. Ганаровым абавязкам мастака было падвядзенне вынікаў конкурсу "Горад маёй мары", арганізаванага выдавецтвам "КомпасГид", Пасольствам Францыі ў Рэспубліцы Беларусь і парталам TUT.BY. У офісе TUT.BY мастак уручыў прызы пераможцам: кнігі з уласным аўтографам, камплект выданняў для дзяцей і падлеткаў і нават фотаапарат.

Яго майстар-класы прайшлі ў спецыяльнай агульнаадукацыйнай школе № 14 для дзяцей з парушэннем слыху і ў дзіцячай бібліятэцы № 1 г. Мінска. Пакуль юныя мастакі старанна выконвалі заданне, у мяне была магчымасць задаць Аліўе некалькі пытанняў.

**— Ці лёгка згадзіліся на паездку ў Беларусь?**

— Так, люблю падарожжы. Шмат вандраваў па Азіі, Бразіліі, быў на Мадагаскары і ў Чылі.

**— Можа, пазнаёміліся з беларускай літаратурай?**

— Знаёмы з рускай класікай, тое, што мы вывучалі, мне вельмі падабаецца. Калі падкажаце, творы якіх беларускіх аўтараў перакладзеныя на французскую, абавязкова знайду.

*(Разам з супрацоўнікамі Пасольства пералічваем: Купала, Колас, Караткевіч, Быкаў, Курэйчык.)*

**— Скажыце, калі ласка, што паўплывала на ваша рашэнне стаць мастаком?**

— Мой тата вельмі любіў маляваць. Прафесійны вайсковец, ён выхадныя аддаваў свайму хобі і заўсёды далучаў мяне да сваіх заняткаў. Дазваляў шмат маляваць. Пасля заканчэння школы былі два гады ў школе выўтанчаных мастацтваў у Страсбургу і ўніверсітэт, потым тры гады ў вышэйшай школе прыкладных мастацтваў у Парыжы.


*Ілюстрацыя да кнігі "Надо бы".*

**Візітка:**

*Аліўе Талек нарадзіўся ў 1970 годзе ў Брэтані. Скончыў вышэйшую школу прыкладных мастацтваў Дзюперэ ў Парыжы. Актыўна ўдзельнічаў у шматлікіх выстаўках. Працаваў графічным дызайнерам у рэкламных кампаніях, але неўзабаве пачаў ствараць ілюстрацыі да дзіцячых кніг і адразу заваяваў сэрцы лёгкім стылем малявання, забаўнымі персанажамі і выдатным пачуццём гумару. На яго рахунку 60 аздобленых кніг, якія запатрабаваныя не толькі ў Францыі, але і за яе межамі. Яны выдаваліся на 15 мовах свету і атрымалі міжнародныя ўзнагароды ў Японіі, ЗША, Галандыі і г.д. Кніга "Надо бы" Цьеры Ленэна і Аліўе Талека перакладзена на італьянскую, тайваньскую, кітайскую, грэчаскую і іспанскую мовы і атрымала спецыяльны прыз Прэміі Х. К. Андэрсена; прэмію італьянскага часопіса "LIBeR", французскую Прэмію непадкупных, Прэмію за выхаванне грамадзянскай адказнасці.*

*Жыве і працуе ў Парыжы.*


*Ілюстрацыя да кнігі "Надо бы".*

**— Сёння большасць мастакоў стварае ілюстрацыі з дапамогай камп'ютара, а вы аддаяце перавагу ручной працы...**

— Мне значна больш падабаюцца фарбы, я прывязаны да арыгіналаў. Камп'ютар — толькі інструмент, як пэндзаль і іншыя. Трэба ўмець карыстацца ўсімі інструментамі. Галоўнае — творчасць. Добра, што ёсць выдавецтвы, для якіх галоўнае — захоўваць шчырасць кнігі. І фарбы дзеля такой задачы больш прыдатныя.

**— Вы праводзілі майстар-класы для дзяцей розных краін. Мова іх малюнкаў — інтэрнацыянальная?**

— Насамрэч складана адказаць, ці ёсць нешта нацыянальнае, хутчэй ідзе размова пра індывідуальнае. Ёсць людзі, якія могуць данесці сваё персанальнае бачанне. Вось задача: размалёўваць фарбай чорна-белую ілюстрацыю. Адны проста размалююць, а іншыя выкарыстаюць магчымасць і ўнясуць нейкія дапаўненні. І ў гэтай асаблівасці мастацкага бачання ў кожнага нешта сваё.

Дзеці, якія сёння малююць, даволі вялікія. Вось таго мядзведзіка, што малюе беларуская дзяўчынка, магла намаляваць яе французская равесніца. Уплывае, што яны бачаць вакол сябе, масавая культура. Калі б дзеці былі меншыя, было б нешта, што здзівіла. Маленькія больш чыстыя ў плане інфармацыі. Самыя маленькія дзеці розных краін малююць даволі падобна. Калі яны вырастаюць, набываюць больш ведаў і гэта ўплывае на іх манеру маляваць.

Ёсць некаторы ўплыў нацыянальнага: можна сказаць, гэта больш французскае, гэта больш японскае. Але для дзяцей няма розніцы — ім толькі падабаецца альбо не. Калі ўбачыла свет серыя "Рита и Этот, как его?" (пра дзяўчынку і яе сабаку), французскія чытачы казалі: гэта так забаўна, так па-японску. Выдатная японская анімацыя! (Іх тэлеканал адаптаваў серыю для анімацыі). Калі яна трапіла да японцаў, тыя адзначылі: цудоўны французскі гумар.

**— Ці даводзілася вам адмаўляцца ад прапанаваных праектаў?**

— Адмаўляцца — бо адбор ужо праведзены — тэксты прыходзяць ад выдаўца. Рэдактары не прапусцяць кнігу, якая змяшчае эпізоды гвалту, прыгнёту, жорсткасці. Адмовіўся б ад кнігі, дзе занадта падрабязныя апісанні герояў — гэта не дазваляе фантазіраваць і ўносіць у тэкст нешта сваё. Шмат працую з мастацкай літаратурай, люблю тэксты філасофскія, з пэўнай ідэяй.

**— Каго з аўтараў марыце праілюстраваць?**

— Хацеў бы Сервантэса.

**— Што чытаеце для душы?**

— Чытаю шмат сучаснай французскай літаратуры, таму што мая жонка — пісьменніца. І дзеля яе задавальнення, чытаю. Нават кнігу для дзяцей разам выдалі.

**— Не перашкаджае побыту наяўнасць двух творцаў побач?**

— Мы ўмеем ствараць адно аднаму прастору для творчасці, а не ходзім адно за адным па пятах.

## Пад вокладкай

Юэзфа ВОЎК



**Гігевіч, В. С. Крах цывілізацыі / Васіль Гігевіч. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2012. — 288 с.**

У новую кнігу прозы Васіля Гігевіча ўвайшло чатыры аповесці: "Карабель", "Палтэргейст", "Марсіянскае падарожжа", "Страчанае шчасце". У іх аўтар даследуе сучасныя праблемы існавання цывілізацыі ў Сусвеце: паводзіны чалавека, які апынуўся ў чужым грамадстве; магчымасці найноўшых тэхналогій ствараць штучны розум, каб кантраляваць людзей; рэакцыя зямлянаў на незвычайныя побытавыя праявы, выкліканыя кантактамі з іншапланецянамі.



**Корнилович, Э. А. Святополк-Мирские. Хранители чести / Эдуард Корнилович. — Минск: ФУАинформ, 2012. — 104 с.**

У сваёй новай кнізе гісторык звяртаецца да складанага перыяду нашай мінуўшчыны, калі Мірскі замак быў не музеем, а рэзідэнцыяй князёў Святаполк-Мірскіх. У даследаванні, вынікі якога прадстаўлены ў выглядзе нарысаў, выкладзены малавядомыя ці зусім невядомыя факты і падзеі, з іх складаюцца захапляльныя біяграфіі прадстаўнікоў стражытнага беларускага роду. Не так даўно пабачыла свет кніга Анатоля Бутэвіча "Таямніцы Мірскага замка", новае выданне можа стаць яе паўнавартасным дапаўненнем.



**Радунь, В. В. След дождя / Валерия Радунь. — Минск: Четыре четверти, 2012. —54 с.**

Серыя "Мінскія маладыя галасы", заснаваная Мінскім гарадскім аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі, папоўнілася новым зборнікам вершаў. Павіншаваць з першай кніжкай можна паэтку Валерыю Радунь. Аўтарка спрабуе паглядзець на свет шчыра, адкрыта, але ў той жа час стараючыся прыручыць яго — амаль так, як глядзіць на свет дзіця. Свет жа ў адказ прычыняе свае таямніцы, ды так, каб не знікала жаданне яго даследаваць і натхненне пісаць новыя вершы.



**Гофман, Э. Т. А. Эликсиры Сатаны / Эрнст Теодор Амадей Гофман; пер. с нем. Н. Славятинского. — Санкт-Петербург: Азбука, Азбука-Аттикус, 2012. — 448 с.**

Калі вам вядомыя такія імёны, як Гарацый Уолпал, Жак Казот, Эн Рэдкліф, калі вы не проста ведаеце гэтых пісьменнікаў, але і з задавальненнем чытаеце іх кнігі, то згаданы раман Гофмана, безумоўна, прыйдзецца вам даспадобы. Тут ёсць усе класічныя складнікі гатычнай прозы: манастыр, манахі, таямнічыя скрынкі са святынямі, Незнаёмец у фіялетавым плашчы (ён жа Мастак), дзіўныя гісторыі з перапрананнем і пераўвасабленнем, няшчаснае каханне, вар'яцтва, ну і, натуральна, спакусы Д'ябла. Раман можна ўспрымаць сур'ёзна, бо напісаны ён сапраўды па-майстэрску, з дэталёва прапрацаванымі вобразамі і хадамі сюжэта. Аднак яго часцей за ўсё інтэрпрэтуюць як твор з элементамі гратэску і пароды на той самы гатычны раман, такі папулярны ў літаратуры позняга рамантызму. Вось і атрымліваецца, як у казцы: з аднаго боку — гратэскныя вобразы з наўмысна падкрэсленымі рысамі, з іншага — сцэны сапраўднага жаху, апісанні стану, блізкага да вар'яцтва (іх жа нельга падрабіць і выдаць за насмешку). Якія дзверы адчыніць — выбар за чытачом.

***Водгукі дасылайце на электронны адрас аўтара: himarina@tut.by***

**Кнігі для агляду прадастаўленыя магазінам "Кніжны салон". Тэл.: 385-60-89.**



Наталля Ярмольчык

# Смак яблыка

## Апавяданне для падлеткаў

Мама плача кожны раз, калі гатуе мне ежу, потым перацірае яе праз сіта, каштуе страву, каб яна, крый Божа, не была ні занадта гарачай, ні вельмі халоднай, слёзы коцяцца з яе вачэй і тады, калі яна корміць мяне з лыжкі ці выводзіць мяне на свежае паветра. Цяпер мы на лецішчы, і я сябе адчуваю значна лепш, чым у душных абдымках нашай гарадской кватэры.

— Як так сталася? Што ж ты нарабіла? Я думала, у мяне дачушка выдатніца-разумніца, а як выявілася насамрэч, то дзіця неразумнае. Гэта я, я ва ўсім вінаватая. Нашто было кудысьці з'язджаць, пакідаць цябе адну. Хацела грошай зарабіць, а магла ж самае каштоўнае страціць…

Кожны дзень мама гэты маналог не паўтарае, бо ўсё было сказана адразу ж, у першы момант яе прыезду.

Аднак нягледзячы на тое, што з таго моманту мінуў амаль тыдзень, позірк ейны ўсё ніяк не можа "перазагрузіцца" і адлюстроўвае адны і тыя ж думкі, задае тыя ж самыя пытанні.

Як? Чаму? Навошта?

А я і сама не ведаю адказаў на іх, імгненна ўсё атрымалася неяк, я і заўважыць не паспела, як са здаровай трынаццацігадовай дзяўчынкі ператварылася ў слабую, бездапаможную істоту, з якой, здаецца, выдзьмулі ўсю моц дарэшты.

Пачалося ўсё з бяскрыўднага на першы погляд жадання пахудзець на некалькі кілаграмаў, і ўзнікла гэтае жаданне якраз у той самы дзень, калі я ўбачыла яго, самага прыгожага хлопца нашай школы Андрэя з дзявятага "Б", а побач з ім танюткую, бялявую дзяўчынку. Яны сядзелі на лаўцы каля суседняга пад'езда, яна замілавана паглядала на яго, ён з важным і сур'ёзным выглядам нешта ёй тлумачыў, перыядычна тыцкаючы пальцам у манітор ноўтбука, які трымаў на каленях. Тая ж, здаецца, яго не чула, толькі ва ўсе вочы глядзела на яго, як быццам ён Джоні Дэп ці, яшчэ лепш, Брэд Піт. Во, дурніца, зазірні ж ты хоць на хвілінку у манітор, бач, як чалавек стараецца давесці да цябе нейкую інфармацыю.

Дык вось, далоў некалькі кілаграмаў, і — вуаля, я ўжо сяджу на той лаўцы і з цікавасцю зазіраю ў ноўтбук. Магчымасць дыеты я адкінула адразу: па-першае, іх так шмат, у мяне нават склалася такое адчуванне, што дыет больш, чым рэцэптаў прыгатавання ежы ў цэлым свеце, па-другое, эфекту ад дыеты адразу можа і не быць, таму тут неабходна дзейнічаць рашуча і бескампрамісна. Некалькі дзён пагаладаць — і праблема, лічы, вырашана. Сказана — зроблена.

У першы дзень так хацелася есці, нават здавалася, што маім нагам у кватэры вядомы толькі адзін шлях — той, што вядзе да халадзільніка. Як той звер у клетцы, я прайшла па вышэйпазначаным маршруце не адзін і не два разы, пакуль не вырашыла, што трэба абраць іншую тактыку, падмануць арганізм. Як? Адцягнуць яго ўвагу з фізіялагічнага на духоўнае!

Духоўнай дапамогі пачала шукаць ля кніжнай шафы; калі выбірала, што ж такое пачытаць, падумала: як жа добра, што маці няма дома, а то яна ўсе мае планы парушыла б. Але турбавацца няма чаго, мама вернецца з Італіі толькі праз месяц, менавіта на такі тэрмін цётка Тамара, маміна сястра, здолела адкрыць ёй візу. Мама паехала туды не адпачываць, а дагледзець старую сеньёру.

Кніжкі трапляліся, як на бяду, поўныя гастранамічных спакус, некалькі перабрала і ўсё марна: літаральна ў кожнай з першых абзацаў герой ці гераіня снедалі, палуднавалі, абедалі, вячэралі альбо збіраліся гэта зрабіць ў самы бліжэйшы час, лічы, праз старонку ці праз дзве.

Аднак нейкім цудам першы дзень пратрымалася, а на другі ўжо стала лягчэй: пра ежу наогул можна было б забыцца, каб не суседзі: калі ў першы дзень майго змагання яны гатавалі катлеты і варылі абрыкосавае сочыва, то на другі, бачыш ты, захацелася ім паспытаць дранічкаў і капусты тушанай, а я яе так люблю!

Тым не менш дзень не год, перажыла-перамучылася.

Я ўжо і не памятаю дакладна, колькі мінула дзён, калі да мяне завітала цётка Галя, маміна сяброўка. У той дзень я вырашыла зварочваць свой эксперымент, бо мая любімая спадніца ўжо два дні таму пачала сігналізаваць мне: маўляў, хопіць, дарагая, а то пры такіх тэмпах нам давядзецца развітацца. Я і сама ўжо зразумела, што перавыканала план, калі з цяжкасцю дапаўзла да бліжэйшай крамы і з аддышкай старэнькай бабулькі ледзь далезла на свой трэці паверх. Потым яшчэ распачала прыбірацца ў кватэры, а тут і выявілася, што пасля таго, як я нагінаю долу галаву, мяне пачынае ванітаваць. Падлогу давялося дамываць адмысловым чынам, быццам я сляпая, погляд мой быў скіраваны не на падлогу, а на сцены і мэблю. Ад гэтай няўвагі да сябе падлога пакрыўдзілася і, не інакш з жадання адпомсціць мне, засталася мурзатай.

Такі вось незвычайны фізічны экзэрсіс і падкасіў мяне цалкам. Ледзь дапялялася да канапы. Адпачну і ўстану, ага, а ўстаць жа я не магу: як толькі маё цела прымае вертыкальнае становішча, я валюся, нібыта лялька, у якой замест ног шарык.



А дарма цела са мной так пачало сябе паводзіць, у мяне ж мэта высакародная з'явілася — дайсці да кухні і зварыць паболей вугляводаў, каб падмацаваць арганізм сотняй-другой калорый. У такі момант ужо не да пахудзення, тут бы выжыць.

Ляжу, і думка страшэнная ў галаву ўпаўзае: усё, канец. Сяброўкі ўсе як адна на лета разляцеліся хто куды, бабульдзядуль у мяне ўжо няма, пра бацьку мне наогул нічога невядома, мама на ўсе мае пытанні маўчыць. І так мне шкада сябе зрабілася: памерці давядзецца з-за дурасці сваёй. Вось у такі трагічна-драматычны момант і прыйшло маё выратаванне ў выглядзе цёткі Галі, якая, не дачакаўшыся, што ёй адчыняць (а званок я і не чула, ён ужо колькі месяцаў быў сапсаваны), адчыніла дзверы тымі ключамі, якія пакінула ёй мая абачлівая мамачка. Праўда, у першыя хвіліны я зусім не ўзрадавалася мамінай сяброўцы, бо яна такі вэрхал ўсчала, ай-ай-ай, "хуткую" выклікаць кінулася, але, пачуўшы, што я такая худая і бледная не ад хваробы, а праз барацьбу, якая зайшла ну зусім не туды, куды яе накіроўвалі, спынілася пасярод кватэры як укапаная. Праз некалькі хвілін ваганняў я зразумела: "хуткай" не будзе, а чакае мяне размова з мамай, якой па тэлефоне мая выратавальніца ўжо дакладала пра выніκі апошніх дзён маёй біяграфіі.

— Не, "хуткую" не выклікала, сама ведаеш, куды яе завязуць, гэта ж пляма на ўсё жыццё. Калі прыедзеш? Добра, добра… Пасяджу з ёй… Ага. Ты ж сама медык, вызадзіш, ды худая, страшная, што тут гаварыць… Давай тэрмінова выязджай.

З наступнага дня мама выходжвае, а я ёй дапамагаю, імкнуся з усіх сіл акрыяць, каб спыніць яе слёзы і "перазагрузіць" нарэшце ейны позірк.

Мама корміць мяне праз дзве гадзіны маленькімі порцыямі ані халоднай, ані гарачай ежы, смаку якой я зусім не адчуваю. Мне што яблык, што абрыкос, што аўсянка, што манка — усё адно — не тое, што раней, перабірала-выбірала, тое буду, тое не буду, гэта смачна, а гэта толькі свінні могуць есці, носам круціла.

Цяпер я маўклівы і ўдзячны паглынальнік усяго, што даюць, нібыта касманаўт на арбіце, які глытае свае пакецікі без колеру, без смаку і без паху. Калі мне, напрыклад, наліць замест кампоту з сушаных яблыкаў "Fairy" з водарам зялёнага яблыка, я вып'ю і скажу: "Вялікі дзякуй, якая смаката". Мама робіць мне яшчэ і ўколы, балючыя такія, вітаміны розныя, усе, якія павінны быць у чалавека, але якія я так неабачліва павыганяла прэч са свайго арганізма. Яшчэ мне патрэбна свежае паветра, таму кожную раніцу я выходжу і сяджу на лавачцы, вартую пост, што займаюць звычайна бабулькі, якія цяпер адпачываюць-працуюць на лецішчах.

Аднойчы падчас аднаго з такіх адпачыванняў-вартаванняў сядзела я, нічога і нікога не заўважаючы вакол сябе, акрамя стылькага з выгляду матыля. Ён падлятаў да кожнай кветкі, вітаўся, параўноўваў сваю вопратку з кветкавымі сукенкамі і, па ўсім відаць, задаволены, адлятаў.

Раптам я пачула смех, даляцелі да мяне і словы: "Паглядзі на гэтую анарэксічку, калі нават слабенькі ветрычак падзьме, то яна ж утрымацца на лаўцы не здолее. Ха-ха-ха. Паляціць навыперадкі з матылямі". На тым самым месцы, каля суседняга пад'езда, сядзеў Андрэй, толькі дэкарацыі былі іншыя: паўнаватая дзяўчынка з карназынавымі валасамі. Пасля абразлівых слоў я пачула яе гучны смех і ўбачыла ягоны злы і насмешлівы позірк.

— Нявыхаваны дурань, — прашаптала я і ўпершыню пасля прыезду мамы заплакала. Падымалася на свой паверх і раўла, не бачачы прыступак лесвіцы ці то ад цемры ўваччу, ці то ад слёз.

— Ці не паехаць нам на лецішча? — прапанавала маме назаўтра я, і вось цуд: сёння мы ўжо тут (а раней знайшлося б з дзясятак прычын, чаму мы не можам паехаць туды!).

Я адпачываю ў цені абрыкоса, які ў гэты год нібыта забаставаў, прапанаваўшы нам меншую колькасць сваіх дарункаў-пачастункаў, чым у мінулыя гады.

Раніцай я зазірнула ў люстэрка і не ўбачыла больш на твары карычневых плям, сведчанняў парушаных маёй дурасцю працэсаў пігментацыі, мяне гэта ўзрадавала, бледнасць засталася, але ж плямам, плямам я сказала "да пабачэння", "гудбай", "ад'ё" — спадзяюся, назаўжды.

Я ніколі не лічыла сябе прыгожай ці то з-за шырокіх скулаў (відаць па ўсім, нейкі мангола-татар завітаў у наш род-радавод падчас іхняй навалы на нашыя землі), ці то з-за вачэй… Не, вочы мае мне падабаюцца, але толькі на фотаздымку, дзе мне два гады, там яны такія велічэзныя, як два сподкі, дакладней, як дзве талеркі. Якім чынам з такіх "гігантаў" атрымаліся да дзявятага класа адно толькі міндалепадобныя вочы, зразумець я не магу. На ўроках англійскай мовы я для ўсяго класа была дэманстратарам "almond-shaped eyes". Вось так: ва ўсіх вочы як вочы, у каго "біг", у каго "смол", а ў мяне "алмонд". А яшчэ ж рабаціння-рабаціння… Яно наогул на маім твары пачувае сябе паўнавартастым гаспадаром. Праўда, нос — гэта мой гонар, прыгожанькі, акуратненькі, адным словам, такі, які мне і патрэбны, але, як кажуць, адзін у полі не воін, ён усіх да таго стану, каб на цябе людскія позіркі пачапілі шыльду "прыгожая знешнасць", выцягнуць не можа.

Спачатку я вельмі хацела быць падобнай да Жызэль Бундхэн, бразільскай супермадэлькі, а потым, убачыўшы перадачу пра Грэйс Кэлі, колішнюю каралеву Манака, доўгі час шкадавала, што мая знешнасць не мае нічога агульнага з ейнай, пасля ж я пагалядзела адзін вядомы серыял… там была такая прыгажунька-актрыса… дый апошнім часам я прыглядаюся да Карлы Бруні, нічога сабе такая…

— Вітаю! — нехта ўрываецца ў мае невясёлыя думкі, лепш сказаць, стратэгічныя планы на бліжэйшую будучыню наконт майго жадання прыпадабенства.

А… гэта ж Сашка, прывітанне-прывітанне! Саша — мой аднагодак, сусед па лецішчы, ягоныя бацькі — мастакі, у іхняга сына таксама лепшыя сябры — альбом і аловак. Вось і цяпер ён беражліва трымае іх у зубах, пералазячы цераз плот, што аддзяляе нашыя дзялянкі. Падыходзіць да мяне, з кішэні выцягвае вялікі спелы яблык.

— Трымай!

— Дзякуй. А які ў яго смак?

— Гэта самы смачны яблык ва ўсім свеце!

— Ого! Аднак, які гонар, то дзякуй яшчэ раз! Чым жа ён такі адметны?

— Ён — апошні… Ад нашай старэнькай яблыні. Падарунак перад развітаннем.

Яблык важкі, гладкі і прыгожы. Чырвоны-чырвоны! Аж вочы слепіць ягонная чырвань!

— Пойдзем да нас. Падзякуеш яблыні, развітаешся з ёй.

Я, павольна ступаючы, накіроўваюся да веснічак…

Пад вечар Сашка прыходзіць ізноў, працягвае мне аркуш паперы і са словамі "гэта табе!" знікае.

Малюнак мастака-пачаткоўца Сашкі. Паглядзім, што ж ён там накрэмзаў…

Пад старой яблыняй сядзіць ладная, сімпатычная дзяўчынка, у руках ейных — яблык, у якім сіла і моц, любоў і пяшчота, надзея і вера для той, што павінна жыць, ад той, што павінна памерці.

На малюнку не Жызэль Бундхэн, не Грэйс Кэлі, на ім — я, такая, як ёсць… І… я — прыгожая! Ах, якая ж я прыгожая!..

— Мама, мама! Я адчуваю, адчуваю, ён — салодка-горкі. Яблык — салодка-горкі!

Мама абдымае мяне, па шчоках яе цякуць слёзы, я з надзеяй зазіраю ў ейныя вочы: перазагрузіўся, позірк перазагрузіўся! Нарэшце!

Мой дарагі падарунак, ты сапраўды салодка-горкі: салодкі, як любоў тых, хто побач з намі, горкі — як любоў тых, хто нас пакінуў!

# Яднанне ў малітве і творчасці

**Міжнародная выстаўка "Іконы" адкрылася ў мастацкай галерэі Інстытута тэалогіі імя святых Мяфодзія і Кірылы Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.
Назва экспазіцыі — простая, пазбаўленая прыўкрасных эпітэтаў — раскрывае яе канкрэтны змест і адразу настройвае на сустрэчу з мастацтвам сакральнага жывапісу, спакроўленага са старажытнай, прыгожай і трагічнай гісторыяй веры хрысціянскай, з багаслоўскай мудрасцю, з кананічнымі традыцыямі іканапісных школ.**



**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
фота аўтара**

Знаёмячыся з выстаўкай, і сапраўды адчуваеш светлы дух веры, які зыходзіць ад абразоў ды біблейскіх сюжэтаў, тонкія эманацыі малітоўнага настрою, што ад святых выяў перадаецца гледачу. Аднак у адрозненне ад нярэдкіх у наш час музейных прэзентацый, якія знаёмяць з адрэстаўраванымі шэдэўрамі старажытнага іканапісу, гэтая экспазіцыя настройвае эмоцыі, думкі, развагі наведвальнікаў на новы лад. Бо "Іконы" — невялікая, але вельмі яркая частка таго працэсу, што адбываецца ў сучасным сакральным жывапісе. Дзякуючы гэтай выстаўцы, зладкаванай Інстытутам тэалогіі ды Польскім інстытутам у Мінску, мы можам убачыць некаторыя работы ўдзельнікаў Міжнародных майстар-класаў іканапісу, якія з 2009 года штовосень ладзяцца ў Польшчы, у горным паселішчы Навіцы.

Гэты ціхі куток паблізу мяжы са Славакіяй арганізатары праекта выбралі як ідэальнае месца для духоўных стасункаў і засяроджанай творчасці: там няма камп'ютараў ды інтэрнэту і не працуюць мабільныя тэлефоны. Ды ёсць драўляныя дамкі для жытла і майстэрняў, харчаванне і гарачая вада. Майстар-класы ў Навіцах збіраюць жывапісцаў з Польшчы, Украіны, Славакіі (летась да іх далучыліся ўдзельнікі з Беларусі), якія працягваюць праваслаўныя і каталіцкія традыцыі ў іканапісе, арыентуючыся на візантыйскі канон. Сярод іх і студэнты, і людзі без спецыяльнай мастацкай адукацыі. Тут ладзяцца тэарэтычныя заняткі, канферэнцыі, дыскусіі з удзелам вядомых мастацтвазнаўцаў і тэолагаў. Вельмі важна, што арганізатары праекта прытрымліваюцца прынцыпу сумеснай працы і малітвы іканапісцаў абодвух традыцыйных напрамкаў хрысціянства. Новыя абразы часова размяшчаюцца ў мясцовай капліцы. А яшчэ ўзоры сучаснага навіцкага іканапісу вандруюць па розных гарадах Польшчы ды Украіны. Цяпер завіталі ў Мінск, прадставіўшы галоўныя тэматычныя кірункі усіх трох семінараў, якія прысвячаліся іканаграфіі Хрыста, Маці Божай і пракрокаў ды анёлаў. Работы іканапісцаў суправаджае выстаўка выразных здымкаў польскага фатографа Вацлава Бугны, які назірае за працай мастакоў і ўмее "спыняць" яе натхнёныя імгненні.



Пра духоўную, мастацкую, грамадскую значнасць гэтага праекта, пра дзівосную творчую і сяброўскую атмасферу самых сустрэч-семінараў гаварылася падчас вернісажу, сярод удзельнікаў якога былі першы прарэктар Інстытута тэалогіі епіскап Бабруйскі ды Быхаўскі Серафім; протаіерэй Аляксандр Шымбалёў, кіраўнік аддзела адукацыі ды катэхізацыі Мінскай епархіі; ініцыятар майстар-класаў у Навіцах Матэвуш Сора; Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Польшчы ў Беларусі Лешак Шарэпка; прадстаўнікі Польскага інстытута ў Мінску і сталічнай інтэлігенцыі; львоўскія ды мінскія іканапісцы.



У маляўнічым выданні, падрыхтаваным да выстаўкі, нямала напісана пра семінары ў Навіцах. Вось што, сярод іншага, зазначыў ксёндз прафесар Міхал Яноха: "У захапленні іконай, якое ў апошняе дваццацігоддзе дасягнула проста небывалых памераў, хацелася б бачыць значна больш, чым толькі моду і рэлігійна-эстэтычны сентымент. Думаю, у сваёй найглыбейшай плыні зацікаўленасць іконай больш ці менш выяўляецца свядомасцю, жаданнем знайсці тое страчанае адзінства ісціны і прыгажосці, цела і духу, Усходу і Захаду. Сёлетняя выстаўка з'яўляецца адным са сведчанняў такой зацікаўленасці. У эпоху атамізацыі грамадскага жыцця, а разам з ім і мастацтва, дзівіць стаўленне іканапісцаў, якія рашаюцца на сумеснае маленне і тварэнне пад адным дахам... Ёсць вялікая верагоднасць, што тыя абразы будуць перададзеныя наступным пакаленням як свайго роду рэліквія і ў той жа час сямейная памяць. Ці можа хацець майстар-мастак большага за тое, што перад яго тварэннем будуць маліцца сучасныя вернікі, а мабыць — таксама іх дзеці і ўнукі?"

***Суарганізатары майстар-класаў у Навіцы — Таварыства сяброў Навіцы, Брацтва грэка-каталіцкай моладзі "Сарэпта", кафедра сакральнага мастацтва Львоўскай акадэміі выяўленчага мастацтва, варшаўскія суполкі "Шляхі Іконы" ды іканапісная "Школа Хрысціянскага Усходу", мінская майстэрня "Ікопіque". Наведаць выстаўку "Іконы" ў Інстытуце тэалогіі БДУ можна штодня, да 8 ліпеня.***

# Песні вяртаюцца

**Вольга ГЕРЦ,
Арцём КУМЕЛЬСКІХ**

**28 чэрвеня ў Дзяржынскім гарадскім доме культуры адбудзецца канцэрт Нацыянальнага акадэмічнага народнага аркестра Беларусі імя Іосіфа Жыновіча, прысвечаны памяці вядомага дзеяча беларускай эстрады, папулярнага кампазітара, выканаўцы, аранжыроўшчыка Ізмаіла Капланава. Новая праграма знакамітага музычнага калектыву, названая "Песні вяртаюцца", прагучыць у гэтай зале невыпадкова.
Менавіта Дзяржынск стаў для незабыўнага артыста тым горадам, дзе год таму адбылося яго апошняе выступленне.**

Летась увесну Ізмаіл Капланаў прыязджаў сюды разам з Алегам Жукавым і ўдзельнічаў у аншлагавым канцэрце, прымеркаваным да 40-годдзя творчай дзейнасці паэта-песенніка, свайго суаўтара. Узрушаны гарачым прыёмам залы, музыкант паабяцаў прыехаць у Дзяржынск разам з жонкай, заслужанай артысткай Беларусі Нэлі Багуслаўскай і прэзентаваць праграму сваіх песень. Аднак гэтага не адбылося: яго сэрца, адкрытае для ўсіх, чулае да чужых радасцей і трывог, не вытрымала ўласнага хвалявання і падвяло артыста ў той жа вечар. Дактары змаглі толькі палегчыць боль. На другі дзень пасля канцэрта Ізмаіл Капланаў памёр.

Яго песні вяртаюцца да дзяржынскай публікі ў новым абліччы. Іх аранжыроўкі стварыў заслужаны артыст Беларусі, выбітны музыкант-жыновічавец Аляксандр Крамко, які будзе ўдзельнічаць у праграме таксама як дырыжор. За дырыжорскім пультам выступіць і мастацкі кіраўнік Нацыянальнага акадэмічнага народнага аркестра, народны артыст Беларусі Міхась Казінец: маэстра з энтузіязмам працаваў над увасабленнем ідэі гэтага мемарыяльнага канцэрта. Сярод удзельнікаў праграмы — салісты аркестра, Беларускай дзяржаўнай філармоніі, выканаўцы, добра знаёмыя публіцы: Іван Буслай, Марына Васілеўская, Ірына Дарафеева, Нэлі



*Ізмаіл Капланаў з юнай выканаўцай Ганначкай Смірновай.*

Душчынская, Ігар Задарожны, Андрэй Коласаў, Якаў Навуменка, Наталля Салава, Аляксандр Саладуха, Алег Сямёнаў, Пётр Ялфімаў. А яшчэ — дзяржынскі спявак Павел Рахманько, паэт Алег Жукаў і дзевяцігадовая Ганначка Смірнова, з якой Ізмаіл Львовіч супрацоўнічаў на працягу трох гадоў як з выканаўцай некалькіх яго песень для дзяцей.

Апроч вядомых кампазіцый, аркестр і салісты рыхтуюць тры абсалютныя прэм'еры — зусім новыя ўзоры жывой і актуальнай песеннай творчасці І. Капланава, якая гэтак раптоўна ператварылася ў спадчыну...

## ART-пацеркі

**Лана ІВАНОВА,
фота з архіва тэатра і аўтара**

Салістку НАВТ оперы і балета Беларусі Кацярыну Алейнік можна віншаваць з чарговым поспехам: яна стала лаўрэатам 3-й прэміі VII Міжнароднага балетнага конкурсу ў Хельсінкі, у якім удзельнічала 100 выканаўцаў з больш як 20 краін. Ён ладзіўся ў Фінскай нацыянальнай оперы ў межах праграмы, прысвечанай святкаванню 200-годдзя Хельсінкі як сталіцы Фінляндыі.



*Кацярына Алейнік.*

Кацярына Алейнік, партнёрам якой выступіў саліст нашага тэатра Ігар Аношка, у 1-м туры конкурсу выканала па-дэ-дэ з балета "Дон Кіхот", у 2-м — сучасны нумар "Крохкі вечны рай", пастаўлены Д. Куракулавым, у 3-м — па-дэ-дэ з "Лебядзінага возера" і нумар "Я і я" харэографа Д. Залескага.

Не лёс і творчасць аднаго майстра, а заўважны напрамак у гісторыі айчыннага жывапісу стаўся тэмай імпрэзы, праведзенай у музеі Гомельскага палацава-паркавага ансамбля. Яна ладзілася ў межах выставачна-адукацыйнага праекта "Класікі беларускага мастацтва". Увазе наведвальнікаў вернісажа, разгорнутага ў вежы палаца Румянцавых і Паскевічаў, прапаноўвалася вечарына-партрэт "Гомельскі імпрэсіянізм. Творчасць Дзмітрыя Алейніка, Роберта Ландарскага, Міколы Казакевіча". Паўстагоддзя таму гэтыя творцы сваімі карцінамі запачаткавалі з'яву, якая паступова набыла паслядоўнікаў і вызначылася як "гомельскі імпрэсіянізм". Яны былі не проста спадкаемцамі знакамітых французаў, а шукалі сваю манеру для перадачы настрояў і адчуванняў, яркую каларыстыку, адмаўляліся ад выкарыстання чорнай фарбы. Іх новы па тым часе жывапіс выклікаў асаблівую цікавасць на рэспубліканскіх выстаўках.

Прэзентацыя Маладзечанскага мясцовага дабрачыннага фонду "Спадчына Міхала Клеафаса Агінскага" адбылася ў Канцэртнай зале музычнага каледжа, які носіць імя гэтай выдатнай асобы. Асноўная мэта фонду — пошук, захаванне і папулярызацыя аб'ектаў спадчыны роду Агінскіх (гістарычных, архітэктурных, археалагічных, мастацкіх, музычных, літаратурных



*Помнік М. К. Агінскаму ў Маладзечне.*

і г.д.) шляхам прыцягнення сродкаў, а таксама праз канцэртную, навуковую, музейную, публіцыстычную, турыстычную ды іншую дзейнасць. На эмблеме фонду — сілуэт вядомага помніка М. К. Агінскаму, устаноўленага побач з Маладзечанскім дзяржаўным музычным каледжам.

# Маладыя галасы ў новай зале

**Завяршаецца першы канцэртны сезон у новай сталічнай зале "Верхні горад", што з'явілася ў аднаўленых мурах старадаўняга храма ў гістарычным сэрцы Мінска. Чатыры вечарыны з разнастайнымі праграмамі наведвальнікам залы прапанавала за гэты сезон найстарэйшая музычна-адукацыйная ўстанова краіны — Мінскі дзяржаўны музычны каледж імя М. І. Глінкі. Вынікі гэтага спаткання гісторыі і сучаснасці, старажытнасці і маладосці ўразілі і слухачоў, і выканаўцаў.**

**Алена КАЛЯДА**

Сапраўдны "парад планет" маладых музыкантаў, якія з юнацкай непасрэднасцю і энтузіязмам штурмуюць вяршыні прафесійнага майстэрства, разгортваўся перад зацікаўленай і чулай публікай. Навучэнцы каледжа ды іх выкладчыкі зладзілі рознагалосую і маляўнічую імпрэзу, дзе чатыры канцэрты ладна склаліся ў чатыры часткі цэласнага музычнага дзейства. Але пра ўсё — па парадку.

**Частка першая. "Святло Калядтнай зоркі".** Пад такой паэтычнай назвай пры канцы мінулага года, у калядны час, адбыўся канцэрт харавых калектываў каледжа. Гэта быў святочны і ўзнёслы музычны дарунак цудоўным Калядам.

Магутным харавым парталам вечарыны ўспрымалася Імша Ф. Шуберта, што спалучыла ў высокім жанры музычнай літургіі на старадаўні лацінскі тэкст і эпоху кампазітара — пачатак XXI стагоддзя, і ранніяя гады хрысціянства, калі толькі ўсталёўваліся асновы храмавага рытуалу. Працяглы і складаны твор быў выкананы аб'яднаным калектывам (спявалі камерны хор каледжа "Канцэрціна" і маладзёжны хор "Спеў Белай Русі" Адміністрацыі Партызанскага раёна , дырыжор А. Снітко) прафесійна і натхнёна.

Далейшая праграма прадставіла шэраг стылёва і жанрава разнастайных твораў. Да згаданых выканаўцаў далучыліся яшчэ чатыры (!) харавыя калектывы: навучэнцаў спецыяльнасці "Спевы" — дырыжор А. Снітко; спецыяльнасці "Акадэмічны хор" — дырыжор Ю. Сікорская; спецыяльнасцей "Фартэпіяна" і "Музыказнаўства" — дырыжор Д. Жыгалава; вучняў сектара педпрактыкі — кіраўнік Л. Стульская. Чаргаваліся і зліваліся тэмбры жаночага, змяшанага і дзіцячага хароў, галасы салістаў і музычных інструментаў. Вечарына паступова набірала ход, каб "выбухнуць" грандыёзнай кульмінацыяй агульнай радасці і весялосці ў калядным перазвоне знакамітай "Jingle Bells", што аб'яднала на сцэне ўсіх удзельнікаў канцэрта.



*Фрагмент канцэрта "Іграем у ансамблі".*

**Частка другая. "Іграем у ансамблі".** Рамантыкай старадаўняй сядзібы, веснавым водарам квітнеючага бэзу, юнацкім прадчуваннем кахання, новых сустрэч і жыццёвых дарог быў прасякнуты наступны канцэрт. Паэтычны настрой у яго атмасферу адразу ж прынеслі вакальны і фартэпіянны дуэты з музыкай М . Глінкі і К. М. Вебера, лірычнымі вершавымі прадмовамі вядучай канцэрта Ірыны Лук'янавай. Настрой гэты падтрымліваўся эмацыянальна прыўзнятым гучаннем рамантычных твораў К. Шымanoўскага, Г. Свірыдава для класічных складаў інструментальных дуэтаў і трыа. Ён адцяняўся танцавальнымі рытмамі больш сучаснай музыкі, якую выконвалі ансамблі духавых і перкусіі. Яго нібы перастварaлі на свой лад набліжаныя да эстраднага шоу выступленні ансамбляў віяланчэлістаў і скрыпачоў.

Ансамблевая ігра — асаблівы стан выканальніцтва. Прыцягальны, бо дае магчымасць сумеснага грання, і па-свойму складаны, бо трэба ў гэтай сумеснай творчасці знайсці пэўны тон партнёрскіх адносін. Знойдзены ў канцэрце "генеральны" тон лірычнага дыялогу як паміж самімі выканаўцамі, так і паміж музыкамі і слухачамі найлепшым чынам спрыяў той атмасферы юнацкіх мрояў і пачуццяў, што лунала ў зале ўвесь вечар.

**Частка трэцяя. "Вясновы калейдаскоп".** Пасля часткі лірычнай, адпаведна законам класічнага цыкла, надышла чарга жартоўна-жанравага, зухаватага скерца. "Гульнёвыя забавы чалавецтва", паводле акадэміка Б. Асаф'ева, увасабляюць адпаведныя часткі санат ды сімфоній. Атмасфера бліскучай віртуознай ігры і гульні — у самым шырокім сэнсе гэтых слоў — панавала ў трэцім канцэрце каледжа. Прадстаўнікі найстарэйшай спецыяльнасці дэманстравалі сваё майстэрства ў валоданні народнымі інструментамі. Гучала музыка і традыцыйнага для іх песенна-танцавальнага кшталту, і класіка-рамантычная, і са складанай ультрасучаснай стылістыкай, і эстрадна-джазавага напрамку. Баян, акардэон, цымбалы, балалайка, гітара, домра ды мандаліна вялі рэй. На сцэну выходзілі даўно створаныя і вядомыя ў сталіцы і ў краіне ансамблі цымбалістаў "Беларусачка" (кіраўнік — Л. Чысціліна-Кулакова) і "Залатая струна" (кіраўнік — Г. Полесава), маладзейшы, але ўжо знакаміты ансамбль "Take style" (кіраўнік — Т. Іванова). Асаблівая ўвага слухачоў была скіраваная на салістаў. Дарэчы, большасць удзельнікаў канцэрта мае званні лаўрэатаў і дыпламантаў музычных конкурсаў. Лепшыя з лепшых нядаўна зноў пацвердзілі статус сапраўдных віртуозаў: Віктар Макаранка, Максім Кірыкаў і Анжаліка Невар занялі адпаведна першае, другое і трэццяе месцы ў VI Рэспубліканскім конкурсе імя І. Жыновіча.

**Частка чацвёртая. Фінал.** У канцэрце "Да вяршыняў майстэрства" выступілі лепшыя з навучэнцаў каледжа — лаўрэаты і дыпламанты рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў, стыпендыяты спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі. Яны ўразілі артыстычным і прафесійным выкананнем складаных твораў сусветнай музычнай класікі. Тут былі арыі з опер і віртуозныя інструментальныя фантазіі, высокая паліфанія і лірычныя п'есы. І нават калі не ўсё ў маладых выканаўцаў выходзіла ідэальна, публіка шчыра падтрымлівала іх.

Удзел у конкурсах, канцэртах, фестывалях — неабходныя прыступкі на гэтым шляху да вяршыняў майстэрства. Гэта і мера прафесійных дасягненняў, пра якія сведчаць не толькі медалі і дыпломы, а найперш — неабыякавасць публікі, яе радасць ад сустрэч з новымі імёнамі таленавітай музычнай моладзі.

## Нашы юбіляры



**Мікалай Іванавіч СЕЎРУКОЎ** — прафесар Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, старшыня Асацыяцыі беларускіх баяністаў і акардэаністаў БСМД, член праўлення саюза;



**Аляксандр Іванавіч СЦЕПАНЦОЎ** — загадчык кафедры менеджменту сацыяльна-культурнай дзейнасці, кандыдат культуралогіі, дацэнт БДУ культуры і мастацтваў;



**Этэры Канстанцінаўна МІМІНАШВІЛІ** — настаўнік Дзіцячай музычнай школы № 2 імя М. І. Аладава г. Мінска;



**Іван Апанасавіч ЧАРАПКО** — настаўнік, кіраўнік узорнага цымбальнага аркестра Лучнікоўскай дзіцячай музычнай школы мастацтваў Слуцкага раёна, старшыня пярвічнай арганізацыі БСМД;



**Аляксандр Паўлавіч ЕЎСЮКОЎ** — хормайстар Светлагорскай дзіцячай школы мастацтваў Гомельскай вобласці;



**Аляксандр Паўлавіч МІЛЬТО** — пенсіянер, былы выкладчык Рэспубліканскай гімназіі-каледжа пры Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі.

# Музыканты збіраюць лаўры

## Калектывы Беларускага саюза музычных дзеячаў на міжнароднай арбіце

**Наталля ВАСІЛЁНАК**

**Рыхтуючыся да 25-годдзя БСМД, яго члены і творчыя калектывы папаўняюць скарбонку сваіх дасягненняў. З сапраўдным фурорам у Санкт-Пецярбургу на міжнародным конкурсе-фестывалі фальклорнай творчасці "Малахітовая шкатулка" выступілі прадстаўнікі нашага саюза.**
**Гэты прэстыжны конкурс-фестываль, які мае глыбокія народныя карані, праводзіцца з мэтай папулярызацыі традыцыйных формаў самадзейнай творчасці, павышэння прафесійнага майстэрства выканальніцкіх калектываў, далучэння шырокай грамады да мастацкай творчасці, выхавання музычнага густу на прыкладзе культурных традыцый розных народаў.**



*Ансамбль трубачоў "Festivo".*

Сёлетні творчы форум "Малахітовая шкатулка" ярка прадэманстраваў умацаванне сяброўскіх сувязей паміж народамі, гарманізацыю міжэтнічных і міжнацыянальных зносін, стаў прыкладам узаемаўзбагачэння нацыянальных культур. Вельмі цёпла прынялі выступленне калектыву БСДМ — ансамбля беларускіх народных духавых інструментаў "Дудачка" Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў у складзе Андрэя Сцяпанава, Андрэя Анціпенкі, Дзмітрыя Сопава, Марыі Драмковай і Яніны Якшэвіч (мастацкі кіраўнік — дацэнт Ігар Мангушаў). І як вынік — высокая ацэнка майстэрства гэтага калектыву міжнародным журы: званне лаўрэата конкурсу з уручэннем дыплома І ступені. Дарэчы, двое ўдзельнікаў гэтага ансамбля на высокім узроўні прадэманстравалі і магчымасці нашых нацыянальных інструментаў — дудкі, жалейкі, дуды, акарыны, — упэўнена выступіўшы ў сольнай намінацыі: Марыя Драмкова заваявала званне лаўрэата конкурсу з уручэннем дыплома І ступені, а Андрэй Сцяпанаў за сваё віртуознае выкананне быў адзначаны Гран-пры конкурсу. (Выкладчык маладых музыкантаў — дацэнт Ігар Мангушаў, канцэртмайстар — Настасся Юшкова).

Поспехаў дамогся на гэтым жа конкурсе яшчэ адзін калектыў БСМД — ансамбль трубачоў "Festivo" (мастацкі кіраўнік — прафесар Аляксандр Карацееў). Гэтыя выканаўцы на беларускіх народных драўляных трубах — Сяргей Каванаў, Аляксандр Карацееў, Андрэй Анціпенка, Дзяніс Смірноў — здзівілі публіку і калег тым, што на такіх быццам бы архаічных традыцыйных інструментах, на якіх гучалі толькі сігналы пастухоў, была выканана арыгінальная праграма з твораў І. Мангушава: "Рана, рана сонейка ўзышло", "Урачыстая фанфара", полька "Скакуха". І як пацвярджэнне майстэрства нашых музыкаў — званне лаўрэата конкурсу з уручэннем калектыву дыплома І ступені.



*Марыя Драмкова, Ігар Мангушаў і Андрэй Сцяпанаў.*

Нядаўна прадстаўнікі БСМД вярнуліся з прэстыжнага музычнага форуму — IV міжнароднага фестывалю духавой музыкі імя Васіля Саколіка "Фанфары Ялты". Прадстаўляючы Беларусь, нашы выканаўцы годна выступалі падчас правядзення марш-параду, цырымоніі адкрыцця, у канцэртных праграмах, шыкоўным капусніку "Музыкі ўсміхаюцца", у конкурсных праграмах, цырымоніі закрыцця і заключным гала-канцэрце. І вынікі ўражваюць! Ансамбль трубачоў "Festivo" заваяваў званне лаўрэата і дыпломы II ступені нават у дзвюх намінацыях: класічнае выканальніцтва і эстрадна-джазавае выканальніцтва.

А вось народны духавы аркестр "Віціны" раённага Цэнтра культуры са Стоўбцаў (мастацкі кіраўнік калектыву — Аляксандр Нічыпаровіч) прывёз з Ялты званне лаўрэата конкурсу ў намінацыі "Аматарскія калектывы" і прэстыжны Гран-пры.

# А п'есы прыходзяць самі...

Вольга ГАВАРКО

**Тры гады Юрый Кулік працуе ў Беларускім рэспубліканскім тэатры юнага гледача. Ён — дырэктар. А яшчэ — рэжысёр і драматург. У 2010 годзе Ю. Кулік як аўтар і рэжысёр стварыў дзіцячы спектакль "Пані Завіруха". У сёлетняй прэм'еры — спектаклі для дарослых "Аднакласнікі" — ён ізноў і аўтар п'есы, і рэжысёр-пастаноўшчык.**



*Юрый Кулік.*

**— Юрый Уладзіміравіч, раскажыце, калі ласка, гісторыю напісання п'есы "Аднакласнікі".**

— Па-першае, на сцэне ТЮГа мае п'есы ставіліся і раней. Былі дзіцячыя пастаноўкі "Купальская ноч" (рэжысёр-пастаноўшчык Мадэст Абрамаў), "Старадаўняя казка", дзе я сам быў і аўтарам, і рэжысёрам. А вось спектакль для дарослых на гэтай сцэне стаўлю ўпершыню.

Камедыя "Аднакласнікі" была напісана даўно, цяпер яна перапісана — з разлікам на пэўных акцёраў і, вядома, з улікам сённяшніх актуалій. Чаму яна напісалася, не магу сказаць... проста хацеў напісаць камедыю, у якой не было б падонкаў, дрэнных, зайздрослівых людзей, а проста склалася б такая заблытаная сітуацыя, смешная, недарэчная, дзе трэба было б звычайным людзям выкручвацца і ў рэшце атрымаць для сябе добры ўрок. На мой погляд, у нашым тэатры на сённяшні дзень не хапае камедый для дарослых. Бо тэатр ў нас не толькі дзіцячы, ён — сямейны.

А ўвогуле, камедыя ў рэпертуары спатрэбілася па многіх прычынах. Адна з іх — наша цяперашняе месцазнаходжанне. Пакуль будынак ТЮГа на рэстаўрацыі, працаваць даводзіцца на маленькай сцэне, для якой вельмі складана падабраць адпаведны матэрыял. "Аднакласнікі" адпавядалі рэальным умовам як нельга лепш: камедыя, адно месца дзеяння, 5 роляў. Таму і вырашылі ставіць.

Гэтая пастаноўка для мяне асабліва значная, бо хутка мой юбілей, і гэта будзе добры падарунак сабе і тэатру, спадзяюся, і гледачу. Наогул, чалавек, які ўсё жыццё прысвяціў тэатру, да яго прырастае і не можа жыць, каб не аддаваць. Я прайшоў доўгі творчы шлях як акцёр, драматург, рэжысёр; стаў дырэктарам. Я не магу быць у тэатры і сядзець у кабінеце. Хачу ствараць, дарыць, рабіць тое, што я ўмею і люблю.



*Сцэна са спектакля "Аднакласнікі".*

**— Скажыце, а ці былі цяжкасці ў напісанні ці пастаноўцы п'есы?**

— Калі хтосьці спрабуе напісаць п'есу ці напісаў ужо, дык разумее, якія цяжкасці ўзнікаюць. Бо, заўважце, драматургіяй займаецца не так ужо і шмат людзей, асабліва ў Беларусі. Галоўная складанасць у тым, што п'еса — гэта толькі падстава для спектакля. І далёка не заўсёды рэжысёр, прачытаўшы добрую п'есу, нават калі яна яму і падабаецца, зможа годна ўвасобіць яе на сцэне. Напрыклад, п'есы Чэхава. Усе кажуць — яны геніяльныя, а добрых спектакляў паводле чэхаўскіх п'ес вельмі мала: ставіць такі матэрыял няпраста. Бывае, п'еса слабенькая, а на яе аснове атрымліваецца вельмі добры спектакль, які ідзе доўга і паспяхова. Цяжкасці ёсць заўсёды, галоўнае — умець іх пераадольваць. П'есу "Аднакласнікі" я ўпершыню ставіў у 1990-х гадах. Напісаўшы яе, звярнуўся ў Тэатр Іванова з Адэсы, які быў тут на гастролях. Адэсіты пачыталі і сказалі: "Добра", — але ставіць хто будзе? І я падахвоціўся ехаць да іх і ставіць п'есу. Думаю, атрымалася нядрэнна, бо спектакль ішоў у Адэсе 12 гадоў. У Беларусі "Аднакласнікі" таксама ставіліся: у Віцебску, Мазыры, Бабруйску. Была спроба пастаноўкі ў Мінску, але не вельмі ўдалая. У Расіі ж п'еса ідзе да гэтага часу.

**— У чым вы ўбачылі актуальнасць менавіта камедыі становішчаў?**

— П'еса "Аднакласнікі" напісана тады, калі СССР развальваўся і была сумная напружаная атмасфера, адчуваўся фінансавы і душэўны крызіс. Мне падалося, што ў такі перыяд драма на сцэне непатрэбная. Вакол і так "драма". І я напісаў камедыю. Гэта і цяпер актуальна: камедыя становішчаў — заўсёды весела, востра, павучальна для самых розных людзей: ад 16 гадоў да глыбокай старасці. Я лічу, што камедыя становішчаў можа зацікавіць любога гледача. Наогул, мне заўсёды складана вызначыць "узроставую" мяжу. Таму нават мае дзіцячыя казкі разлічаныя зусім не на маленькіх дзяцей. Я не ўмею пісаць для самых маленькіх. Напрыклад, драматург Сяргей Казлоў геніяльна піша для малечы, а ў мяне не атрымліваецца. Я пішу для старэйшага ўзросту, мне гэта бліжэй.

**— Магчыма, вы працуеце ўжо над чымсьці новым?**

— Працую над казкай, якая вельмі даўно задумана і пакуль яшчэ пішацца. Магчыма, у хуткім часе выйдзе зборнік, у які ўвойдуць тры мае п'есы для дзяцей — "Купальская ноч", "Старадаўняя казка", "Пані Завіруха" — і дзве для дарослых — "Звычайная Шамаціла", "Аднакласнікі".

**— Напэўна, уласны матэрыял ставіць лягчэй?**

— Наадварот. Гэта вельмі цяжка. Вось п'еса "Аднакласнікі" вылежалася на паліцы, і па вялікім рахунку я стаўлюся да яе ўжо як да чужога матэрыялу. Тады можа атрымацца лепшы рэжысёрскі вынік. Свой матэрыял здаецца заўсёды такім зразумелым, "ідэальным", але, як аказваецца, на сцэне гэта можа быць зразумела толькі табе, а не іншым, не тым, хто глядзіць староннім вокам. Бо п'еса пішацца паводле адных законаў, а спектакль ставіцца паводле зусім іншых. І ў гэтым уся справа. Чужы матэрыял прасцей змяняць, за яго "не чапляешся".

**— Што вас натхняе і заахвочвае ў творчасці? Магчыма, ёсць нейкі сакрэт?**

— Сакрэту няма. Я нават не ведаю, як з'яўляюцца мае п'есы. Часцей за ўсё "прыходзіць" сітуацыя (як у "Аднакласніках"), я пачынаю яе развіваць, развіваць — і атрымоўваецца п'еса. Але гэта не просты працэс. Усе мае персанажы маюць свой характар, таму вядуць мяне, і я не заўсёды ведаю, чым скончыцца. Часам усё нібы перакульваецца з ног на галаву, што сам здзіўляешся. Часта п'еса ўпіраецца ў мёртвую кропку, і трэба адкласці матэрыял на нейкі час, таму што персанаж, маючы свой характар, не дае мне як аўтару лёгка выйсці з "тупіковага" становішча. Даводзіцца папрацаваць, каб рушыць далей. Некаторыя драматургі прыдумляюць сюжэт цалкам і запісваюць, ведаючы, што да чаго і як усё скончыцца. У мяне так ніколі не было. Я магу прыдумаць, але цягам працы ўсё памяняецца. П'есы прыходзяць да мяне самі.

*Бліжэйшыя паказы спектакля "Аднакласнікі" адбудуцца ў новым сезоне — 26 і 27 верасня на сцэне Дома літаратара. П'еса, рэжысура і музычнае афармленне — Юрыя Куліка, мастак-пастаноўшчык Дар'я Волкава, пластычнае вырашэнне — Надзеі Лаўрухінай. Ролі выконваюць Аляксандр Палазкоў (Павел Сяргеевіч), Андрэй Кізіно (Ігар Мікалаевіч), Наталля Гарбаценка (Таццяна Віктараўна), Раіса Астрадзінава, Вольга Сініца (Ірына Васільеўна), Генадзь Гаранскі, Васіль Казлоў (Вася).*

**Аддзел мастацтваў "ЛіМа"**

# Прылучэнне да сцэны

Марына ПЯТРОВА,
рэдактар літаратурна-драматычнай часткі НАДТ імя Якуба Коласа

**Час заўсёды вымагае, каб яму адпавядалі. Сёння людзі шукаюць новыя сродкі ўладкавання высакаякаснага жыцця, новыя інфармацыйныя тэхналогіі, новыя шляхі паскарэння ўсіх магчымых працэсаў… На гэта мы скіроўваем і моладзь. Атрымліваецца, сённяшні падлетак валодае неабдымна вялікім аб'ёмам інфармацыі, лягчэй уяўляе сябе часткай адкрытага на ўсе бакі свету, але адчувае вострую патрэбу эмацыянальнага насычэння, прагне глыбокага ўнутранага жыцця, разумення жывых чалавечых стасункаў. Ён звышдаверлівы, а гэта можа стаць ці небяспекай, ці добрай глебай для нараджэння творчай, самадастатковай асобы.**

Тэатр!.. Ці не ён застаецца тым месцам, дзе ў рэжыме online можна атрымаць вопыт, навучыцца разумець іншага чалавека, паспрабаваць разабрацца ў сваёй душы, пачуць яе? Але няўжо паступова тэатр мусіць пакінуць жыццё новых маладзёнаў, знікнуць, як штосьць бескарыснае? Не думаю. І сведчаннем таго — апантанае імкненне школьнікаў Віцебска далучыцца да тэатральнай творчасці. Сапраўды, тыя два сёлетнія дні, калі ўжо шаснаццаты раз на Малой сцэне Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа праходзіў конкурс — сцэнічныя чытанні "Школьны тэатр", былі прасякнутыя неўтаймоўнай энергіяй артыстаў-пачаткоўцаў. Для іх магчымасць трапіць на сцэну, ды і ў сам будынак Коласаўскага тэатра ў якасці выканаўцы ролі ў спектаклі — як падарожжа ў паралельны і надзвычай вабны свет, падарожжа туды, дзе яны будуць пачутыя, дзе знойдуць падтрымку ў руху наперад…

Фестываль-конкурс "Школьны тэатр" — унікальная з'ява для Беларусі. Гэтым разам ён быў прымеркаваны да 130-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа. Здаецца, абодва вялікія паэты ўзрадаваліся там, на нябёсах, і ўсміхнуліся з палёгкай, калі пачулі, як шаснаццаты год запар у Віцебску малыя прамаўляюць са сцэны на чысцюткай беларускай мове!..

Сёлета ў фінал конкурсу выйшлі дзевяць драматычных калектываў. Для журы, у склад якога ўваходзілі заслужаны артыст Беларусі, прафесар, дэкан тэатральнага факультэта Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Уладзімір Мішчанчук (старшыня); заслужаны дзеяч мастацтваў, дырэктар-мастацкі кіраўнік тэатра імя Якуба Коласа Валерый Анісенка, выбітныя артысты-коласаўцы, справа выбару найлепшай пастаноўкі аказалася няпростай: разнапланавасць твораў і цешыла, і вымушала шукаць шляхі іх суаднясення. У выніку, Гран-пры атрымаў спектакль "Вечнае каханне" па матывах драматычнай паэмы Аляксея Дударава "Чорная панна Нясвіжа", рэжысёрам якога з'яўляецца вучань дзясятага класа Даніла Обухаў. Прызам за першае месца ўзнагароджаны калектыў гімназіі № 2 г. Віцебска пад кіраўніцтвам артысткі тэатра імя Якуба Коласа Алены Ганум за спектакль "Хрыстос прызямліўся ў Гародні" — тэатральны эксперымент паводле аднайменнага рамана Уладзіміра Караткевіча. Акрамя лепшых спектакляў журы вызначыла і самых яскравых выканаўцаў жаночых і мужчынскіх роляў. Спектаклі-пераможцы былі запрошаныя да ўключэння ў рэпертуар Коласаўскага тэатра — і гэта здарылася ўпершыню за 16 гадоў існавання конкурсу, а лепшыя маладыя артысты атрымалі прапанову паступаць на тэатральны факультэт БДАМ. У межах фестывалю адбылася сустрэча Уладзіміра Мішчанчука з будучымі абітурыентамі, падчас якой усе ахвочыя змаглі "праслухацца" і атрымаць карысныя парады.



*Прызёры сёлетняга конкурсу.*

Варта было прысутнічаць там, каб пабачыць, як зіхацяць твары заўважаных прафесіяналамі маладых творцаў, з якой павагай яны ўжо цяпер ставяцца да працы артыста, як усмоктваюць тэатральную этыку… Хутчэй за ўсё, з іх атрымаюцца выдатныя артысты, і ў гэтым будзе адмысловая заслуга "Школьнага тэатра".

Дарэчы, пяцёра артыстаў-коласаўцаў пачыналі свой творчы шлях менавіта са "Школьнага тэатра". На гэты фестываль не трапляюць выпадковыя, абыякавыя, і, мабыць, таму з іх найхутчэй, чым з каго іншага, атрымліваюцца сапраўдныя артысты. Цяпер фестываль існуе на гарадскім узроўні, але як цудоўна было б пашырыць яго межы, бо наша краіна багатая на творчыя таленты…

Вядома, найбольш крэатыўных задум, памкненняў, жаданняў бруіцца ў асяроддзі падлеткаў. І добра знаходзіць для гэтай энергіі мірнае выйсце, а пасля — атрымліваць асалоду ад прапаноў маладзёнаў, падсілкоўваць іх ідэямі ўласную фантазію. Верыцца, што так будзе і надалей, што "Школьны тэатр" будзе жыць заўсёды — як адметны асяродак сцэнічнага мастацтва.



**Вынікі чарговага конкурсу літаратурнай творчасці студэнтаў “Брама мар” — падведзеныя, прызы раздадзеныя, а рэдакцыі беларускіх літаратурных часопісаў чакаюць таленавітых аўтараў. “ЛіМ” гэтым разам прадстаўляе двух пераможцаў-празаікаў (іх было больш, насамрэч, бо шаноўнае журы не змагло вызначыцца з самым лепшым у гэтым жанры). З творчасцю астатніх, вы, несумненна, яшчэ сустрэнецеся на старонках айчынных выданняў. А тым, хто лічыць, што можа напісаць лепш, ёсць час падрыхтавацца і стаць удзельнікамі “Брамы мар-2013”!**

# Вакацыі з ваўкалакам

Зімовыя канікулы ў гэтым годзе я правяла ў сваёй бабулі на Палессі. У горадзе, адкуль я прыехала, снег толькі зацерушыў тратуары і дамы, а тут кожную ноч была завіруха, якая выла воўкам і стукала ў вокны колкім снегам. Заснежаныя стрэхі хат нічым не адрозніваліся адна ад адной і былі падобныя да маленькіх узгорачкаў.

Кожную раніцу разам з бабуляй мы расчышчалі сцежкі да хлява, склепа і варот. Гурбы былі такія вялікія, што наш сабака Кудраш хаваўся ў іх з вушамі. Потым бабуля распальвала печ і пякла бліны. Пасля снедання я збіралася ў лес. Там блукала паміж гурбаў снегу і дрэў, знаходзячы дзе-нідзе сляды зайцоў і ласёў, слухаючы, як доктар-дзяцел сваім стукам выганяе з дрэў усялякіх жукоў, якія псуюць кару.

Так ішлі дні. Зранку мы чысцілі сцежкі, снедалі, а пасля я зноў накіроўвалася ў лес (калі адна, а калі з Кудрашом), а бабуля заставалася сам-насам са сваімі гаршчкамі і сaганамі.

Аднойчы вечарам, калі ўжо ўсе клаліся спаць і вокны ў хатах блішчалі мутным жоўтым святлом, нехта зайшоў да нас у сенцы. Сабака не брахаў — значыць, гэта быў нехта з аднавяскоўцаў. Я адчула нейкую трывогу, села на ложку, а бабуля высунула галаву з запечка. Дзверы рыпнулі, і ў хату ўвайшла старая Ядвіся.

— Добрай ночы! — сказала яна хрыплым ад марозу голасам.

— А што гэта ты па начах ходзіш? — запытала бабуля з нейкай палёгкай.

— А мая ж ты Марыська, зноўку ён у вёску завітаў. Ужо ў Янушкавых цялё зарэзаў, — дрыжачым голасам загаварыла старая, а снег, які таяў на яе валёнках, зрабіў маленькую лужынку каля ног.

— А божухна! — мая бабуля пляснула ў далоні.

Трохі пагаварылі, і Ядвіся пайшла, а бабуля запаліла свечку і доўга малілася перад абразамі. Потым, нічога не сказаўшы, пайшла да сябе ў запечак.

Раніцай мяне абудзіў сабачы брэх. Я расплюшчыла вочы. Бабулі ў хаце не было, а на стале стаяла міса з крупнікам. Падсілкаваўшыся, я выйшла на двор. Кудраш насіўся па сумётах, уздымаючы вакол сябе снежны пыл, і залівіста брахаў. З усіх канцоў вёскі яму адгукаліся сабакі.

Што тут робіцца? — я ішла па вуліцы і думала: “Чаму ўсе такія напалоханыя?”

Растрывожаная сама, я не заўважыла, як дайшла да лесу. Але гэта быў ужо не той лес, які вабіў да сябе сваімі сцежкамі і птушыным клёкатам. Не, цяпер гэта быў лес, які таіў у сабе жах, небяспеку. Мне падалося, што ён стаў больш густым і цёмным.

“Вось ужо гэтыя бабулі! Нагоняць жаху!” — падумала я, адганяючы шэрыя думкі.

Я пайшла ў глыб лесу, азіраючыся і угледаючыся ў кожны кусцік і дрэва. Шоргат снегу, крык птушкі, трэск галля прымушалі ўсё ўнутры дрыжаць.

— А чаму ж гэта пані па лесе адна ходзіць? Тут ёсць вельмі галодныя ў гэтую пару года ваўкі.

Ад нечаканасці я аж падскочыла. Ззаду стаяў малады хлопец і спакойна глядзеў на мяне. Твар яго быў прыгожы, але вочы… Нешта адштурхоўвала ад яго позірку, дзікага, воўчага… Хлопец выдаваў крыху вышэйшым за мяне. На ім былі футра, шапка і валёнкі.

— Я тут заўсёды гуляю, — адказала я, здзівіўшыся, што не заўважыла, як ён падышоў да мяне. — А ты хто?

— Яшка, — проста адказаў ён. — Ты з гэтай вёскі?

— Я тут гасцюю ў бабулі. А ты? Раней я цябе не бачыла.

— Я жыву ўсюды, — адказаў незнаёмец, і па маім целе пабеглі дрыжыкі.

“Дзівак нейкі”, — падумала я.

— Калі хочаш, я пакажу табе лес, бо ведаю яго як свае пяць пальцаў. Мой дзед быў лесніком. Я ведаю шмат цікавых мясцін, — прапанаваў Яшка.

Хвіліну павагаўшыся, я ўсё ж згадзілася. Тым больш што хлопец быў загадкавы, а да вечара яшчэ далёка.

Пакуль мы ішлі па лесе, Яшка паводзіў сябе неяк незвычайна: браў у рукі снег і ўдыхаў яго пах, гладзіў дрэвы. Ён як бы вітаўся з лесам. Збоку гэта выглядала вельмі дзіўна. Потым ён вадзіў мяне па месцах, дзе ўлетку можна назбіраць баравікоў, суніц і арэхаў. Паказаў (праўда, здалёк) мядзведжы бярлог і яшчэ шмат чаго.

Калі мы выйшлі з лесу, быў ужо вечар. Зоркі зіхацелі мільёнамі ліхтарыкаў, пачынала марозіць, і на зямлю белымі мушкамі пасыпаўся снег.

— Дзякуй табе за прыемную прагулку, — шчыра сказала я. — Ужо позна, і бабуля, напэўна, хвалюецца. Я пайду, да пабачэння.

Ён нічога не сказаў, а я развярнулася і пашыбавала ў вёску. Калі трохі прайшла, я павярнулася, каб яшчэ раз паглядзець на майго новага знаёмага, але там яго ўжо не было…

Нарэшце я ўвайшла ў свой двор. Да мяне з вясёлым брэхам кінуўся Кудраш.

— Прывітанне, дружа! — я хацела пагладзіць сабаку, аднак ён чамусьці загыркаў і пайшоў прэч.

Не звяртаючы на гэта ўвагі, я ўзышла на ганак, адчыніла дзверы і аслупянела: на мяне нешта насоўвалася, цяжка дыхаючы і моцна грукаючы нагамі аб падлогу… Калі гэта “нешта” падышло бліжэй, то я ўбачыла, што гэта малы бычок, якога бабуля невядома чаму ўцягнула ў сенцы. Напэўна, каб не змерз.

Смеючыся, я ўвайшла ў хату. На стале стаяла запаленая газніца, а бабуля сядзела на лаве ў куточку. Мне падалося, што яна была вельмі ўстрывожана.

— Дзе ты была так позна? — запытала бабуля, выходзячы на святло. — Ужо і вячэра астыла.

— У лесе гуляла, — адказала я, распранаючыся. — Там быў нейкі дзіўны хлопец, і мы…

— Які хлопец? — збянтэжылася бабуля.

— Дзіўны. Лес добра ведае… — і я расказала бабулі ўсё, што адбылося ўдзень.

— А калі я павярнулася, то яго там ужо не было, — завяршыла я аповед.

— А Настачка! Не хадзі ты болей у лес, — у голасе бабулі чулася трывога. — Ён даўно ўжо не прыходзіў у вёску, але нешта зноў прывяло яго сюды.

— Ды што тут робіцца? — раззлавалася я. — Хто ён? І чаму яго з’яўленне так спужала ўсіх, што баба Ядвіся ажно сярод ночы прыйшла?

Бабуля не вельмі любіла, калі крычаць, і сказала мне, папраўляючы хустку:

— Еш і кладзіся. Зараз усё раскажу.

Ужо калі я ляжала ў ложку, бабуля падышла да мяне і, угледаючыся ў мой твар, села побач.

— Даўно гэта было. Жыў у нашай вёсцы лекар. Ратаваў людзей ад розных хвароб. Як і чым ён лячыў, ніхто не ведаў, але кожны, хто звяртаўся па дапамогу, хутка рабіўся здаровым. За гэта мы і празвалі яго чараўніком. Але ж хто ведаў, што гэта на самай справе так. (Вочы бабулі зрабіліся злымі і халоднымі, як той мароз, што размалёўваў вокны.) Аднойчы адбылося страшнае здарэнне. Сын нашага старасты Яшка пасвіў авечак. Раптам на статак маланкай наляцеў воўк і схапіў адну. Як высветлілася, гэта была авечка чараўніка. Вярнуўшыся з поля, Яшка ўсё расказаў лекару. Той вельмі раззлаваўся і наслаў на юнака праклён. Чараўнік ператварыў яго ў ваўкалака і сказаў, што калі якая-небудзь дзяўчына не спужаецца яго ў абліччы звера, то быць яму зноў чалавекам. З таго часу Яшку ніхто не бачыў. Зрэдку ён наведваўся ў вёску, дзе рэзаў кароў, цягаў курэй па начах. Не было ад яго ніякай рады. Пасля гады два яго не было чуваць. А на гэтым тыдні ён зноўку з’явіўся, — закончыла бабуля, гледзячы некуды ў цемру акна.

— Заўтра прыедзе тата, і я хачу, каб ты паехала ў горад, бо ніхто не ведае, што гэта за хлопец, — сказала бабуля і пайшла спаць.

Але я ўсё зразумела: у лесе ён нячутна падышоў да мяне, воўчы позірк, “вітанне” з лесам, нават тое, што ён так нячутна знік, — усё падказвала: гэта той самы Яшка…

Поўнач. У хаце было ціха, толькі зрэдку ў сне ўздыхала бабуля. Я ляжала з расплюшчанымі вачыма, угледаючыся ў цемру. Яшка, чараўнік, праклён, пярэварацень… Думкі, як восы, наляталі і джалілі маё сэрца. Я паднялася з ложка і, не запальваючы святло, апранулася. Выйшла з хаты, удыхнула марознае паветра. На дварэ было ціха, нават Кудраша не было ні відаць, ні чуваць. Штосьці цягнула мяне да лесу, нейкі абавязак…

Вось і лес. Вялікія сосны стаяць нерухома, пад шапкамі снегу на вершалінах. Цішыня і спакой, спакой і цішыня…

Я ўвайшла ў гушчар. Снег рыпеў ад кожнага кроку. Сэрца млела ад жаху і цемры. Вялікі камяк снегу зваліўся з галіны і прымусіў мяне ўскрыкнуць.

— Не пужайся, — пачуўся ззаду голас.

Я павярнулася і знямела: перада мной стаяў вялікі воўк з жоўтымі нежывымі вачыма. Ён быў у два разы большы за звычайнага ваўка, але я не адчувала страху.

— Чаму ты прыйшла сюды? — запытаў воўк.

— Я ведаю ўсё. Я хачу табе дапамагчы, — як мага спакайней гаварыла я.

— Ты прыйшла мяне ратаваць? — іранічна запытаў воўк. — У такім выпадку чаму ж ты дрыжыш?

— Дык лепей пакутаваць? — з запалам пачала гаварыць я, не звяртаючы ўвагі на яго іронію. — Лепей уцякаць ад сабак і паляўнічых, што хочуць забіць цябе, нягледзячы на тое, што ты быў іх аднавяскоўцам? Яшка, паслухай, табе будзе лепш сярод людзей, ты зноў станеш чалавекам, табе не давядзецца ўцякаць і калаціцца ад холаду… — я выцягнула руку, каб яго пагладзіць, але ён адскочыў убок.

— Мяне баяцца, мной пужаюць малых дзяцей, мяне праклінаюць, — калі ён гэта гаварыў, то вочы яго гарэлі полымем, якое кранала сэрца. — Лепшага лёсу і не трэба. Ідзі дахаты, дзяўчынка, а я як-небудзь пражыву.

— Павер, я не хачу табе благога… — ласкава гаварыла я, набліжаючыся да яго. Я падышла бліжэй да ваўка, і ягоныя вочы сустрэліся з маімі.

— Не трэба, — ён стаяў так блізка, што было чуваць, як б’ецца яго сэрца, а потым — лёгкі дотык да шчакі, я заплюшчыла вочы…

Калі нарэшце апрытомнела, то ўбачыла, што стаю на ганку сваёй хаты і дрыжкі прагінаюць мяне. Шчака яшчэ адчувала дотык воўчай пысы. Я ўвайшла ў хату, распранулася, залезла пад коўдру і заснула.

Бабуля пабудзіла мяне перад абедам. Яна вельмі здзівілася, што я так заспала.

— Напэўна, таму, што ўчора на марозе доўга гуляла, — адказала я і адвярнулася да акна. На дварэ Кудраш, дурэючы, рыў носам снег. Лес, які было трохі бачна, стаяў нерухома густой белай сцяной.

— А што будзе з тым Яшкам, калі ён сустрэне дзяўчыну, якая яго не спужаецца? — раптам запытала я ў бабулі.

— Ён шмат грашыў, рэзаў жывёлу, пужаў людзей, казалі, што нават маленькую дзяўчынку схапіў і зацягнуў у багну. Яго душа не знойдзе супакаення на зямлі, — адказала бабуля.

— Але ж ён зноў стане чалавекам? — з надзеяй запытала я.

— А хто яго ведае. На ўсё воля Божая, — і бабуля перахрысцілася.

“Значыць, ён усё ведаў…” — мільганула ў маёй галаве.

Тата прыехаў пад вечар. Пакуль яны гаманілі з бабуляй, я выйшла з хаты і стаяла каля машыны. На душы было цяжка і балюча. Розныя думкі лезлі ў галаву…

— Ну што? З Богам! — сказаў тата, выходзячы з хаты. Ён сеў у машыну і завёў матор. Я кінула позірк на лес. Між дрэў прамільгнула шэрая постаць, вельмі падобная да ваўка.

“Бывай”.

**Ксенія БАЖКО,**
**студэнтка 3 курса**
**факультэта беларускай**
**і рускай філалогіі БДПУ**
**імя М. Танка**

# Муштук

Леанід Мендзелевіч кожную раніцу едзе на працу. Ён муштруе дзяцей выдзьмуваць ноты: Леанід Мендзелевіч — трубач. Леанід Мендзелевіч кожную раніцу апрануты алоўкава: проста.

У Леаніда Мендзелевіча няма нават рознакалярова шаліка, які, як правіла, павінен быць у кожнага творчага чалавека. Але гэта не бянтэжыць Леаніда Мендзелевіча — ён маршыруе на працу муштраваць дзяцей выдзьмуваць ноты.

Леанід Мендзелевіч мае гонар сёння граць у аркестры: ён раздрукаваў партыі для ўсіх інструментаў, у тым ліку званочка і падвясных талерак. Дома склеіў раздрукоўкі і падпісаў свой лісток: “1-я труба”.

Леанід Мендзелевіч кожную раніцу выходзіць з метро апарань. Ён набывае 0,5 літра гарбузовага соку. Потым Леанід Мендзелевіч хаваецца ў школе.

Там ён адчыняе свой кабінет, вешае паліто ў шафу (дзверы скрыгочуць — даўно трэба папрасіць, каб адрамантавалі), дастае трубу з чахла, прыкладвае яе да вуснаў.

І адчувае, што на ёй няма муштука. Леанід Мендзелевіч сёння забыў дома муштук.

# Вальс

Раніцай пад маім акном вальсаваў дворнік. Я цікаваў за віхурай лісця з-пад яго падэшваў. Раз-два-тры, раз-два-тры… Калі раптам яго заўважалі людзі (як дзіця, калі яму страшна ноччу, недарэчна адчыняе дзверы ў пакой бацькоў-мілаванцаў), слупянеў. Хвіліну-другую мацюкаўся. А потым працягваў. І брудная вуліца зноў патанала ў чысціні яго душы.

**Зміцер БАЯРОВІЧ,**
**студэнт 4 курса Інстытута журналістыкі БДУ**

Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»

*Слова краязнаўцы*



**Сяргей БЕЛЬСКІ, настаўнік гісторыі СШ № 3 г. Хойнікі, распавядае пра "антычную" назву вёскі Марытон:**

— Яшчэ падчас вучобы ў Гомельскім дзяржуніверсітэце імя Ф. Скарыны захапіўся гісторыяй Старажытнай Грэцыі і Рыма. Калі заняўся даследаваннем гісторыі Хойнікшчыны, вырашыў высветліць, адкуль жа ўзялася незвычайная назва Марытон. Відавочна, сённяшняя яе форма прычынілася да таго, што інфарматары нястомнага збіральніка беларускіх легенд і паданняў, доктара філалогіі А. Ненадаўца паведамілі яму, нібы паходзіць яна ад вокліча пастушкоў "Марыя тоне!" (так звалі дачку пана). Падобныя інтэрпрэтацыі назваў даволі пашыраныя ў фальклоры. Але ў інвентары Хойнікцкага маёнтка за 1844 г., які належаў Уладзіславу Прозару, упамянуты фальварак Маратон, што дае падставу лічыць: гэтая назва нададзена тутэйшым магнатам Каралем Прозарам (бацькам Уладзіслава) у гонар перамогі грэкаў над персамі ў 490 г. да н. э. пры Маратоне (Марафоне).

Пасля адмены прыгоннага ладу фальваркавыя землі здалі ў арэнду аднадворцам (19 мужчынскіх душ на 1870 г.): Цішкевічам, Вайцяхоўскім, Кажанеўскім і іншым, якія ўтварылі тут сваё паселішча, што ў адных выпадках называецца засценкамі, у іншых крыніцах — аколіцамі. Магчыма, таму ў паданні, выкладзеным А. Ненадаўцам, марытонскі пан выгодна адрозніваецца ад навакольных землеўладальнікаў сваім дабрадушным стаўленнем да вяскоўцаў (менавіта да марытонцаў): маўляў, усё сабе пасмейваўся ў вусы, ніколі дрэннага слова не сказаў.

Варта ўдакладніць, што пан той быў не марытонскі, а астраглядаўскі, бо менавіта да Астраглядаўскага маёнтка належалі ў паслярэформенныя часы землі, на якіх знаходзіўся Марытон. І першыя жыхары яго паходзілі са шляхты, а таму ніколі не былі прозараўскімі прыгоннымі (людзі каталіцкага веравызнання, марытонцы і пахавальныя прысвячэнні нярэдка складалі па-польску). Гэтыя чыста гістарычныя акалічнасці даследчыку-літаратуразнаўцу або засталіся невядомымі, або, у адрозненне ад падання, не ўяўлялі каштоўнасці для яго тэмы і былі праігнараваныя.

*Музейны ўнікат*

# Алюр тры крыжы

**Да свята Вялікай Перамогі і Дня вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў прымеркавана выстаўка "Беларусь. Салдаты Перамогі", якая адкрылася ў філіяле Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь "Дом-музей І з'езда РСДРП".**

**Дар'я ШОЦІК, фота аўтара**

У экспазіцыі прадстаўленыя вайсковае абмундзіраванне, амуніцыя, узнагароды нямецкіх салдат, якімі карысталіся партызаны і салдаты Чырвонай Арміі пры правядзенні разведкі і дыверсій супраць ворага. А таксама фотаздымкі, зробленыя падчас вайны, ды іншыя цікавыя рэчы. Гэтыя экспанаты належаць вядомаму ў Беларусі калекцыянеру Ігару Бабіцкаму.



*Парадная форма маёра Кубанска-Баранавіцкай казацкай кавалерыйскай дывізіі.*

Адзін з самых каштоўных прадметаў для гаспадара рарытэтаў — парадная форма (перыяду Вялікай Айчыннай вайны) маёра Кубанска-Баранавіцкай казацкай кавалерыйскай дывізіі, якая была сфарміравана ў студзені 1942-га. Вызначылася пры разгроме баранавіцкай групоўкі немцаў, у 1944 годзе ўдастоена ганаровага звання "Баранавіцкая".

— Прадстаўленая форма мае газыры — драўляныя альбо цыліндрычныя пеналы. У часы, калі зброю зараджалі са ствала, у газыры ўстаўляўся адзін зарад пораху. Выйграваў той, хто хутчэй зарадзіць зброю, — распавёў Ігар Міхайлавіч. — А рэмень меў спецыяльныя скобы, на якія вешаўся мяшэчак з кулямі, — і прыгожа, і практычна.

Башлык, які насілі казакі, засцерагаў ад холаду і дажджу і пазначаў занятак казака. Калі крылы башлыка свабодна ляжалі — гэта значыла, што казак адпачывае. Башлык складзены крыж-накрыж на грудзях і заткнуты за рэмень — ваяр знаходзіцца пры выкананні службовых абавязкаў, дастаўляе пакет. Таму, калі салдаты заўважалі такога казака, адразу спяшаліся яму на дапамогу. Башлык завязаны вузлом — казак выйшаў у адстаўку, выхоўвае маленькіх казакоў. Колер башлыка азначаў, да якога войска казак мае дачыненне.

Цікавая адметнасць: часам на пакетах, якія дастаўлялі казакі, ставілі крыж. "Алюр адзін крыж" значыла даставіць пакет. "Алюр два крыжы" — даставіць пакет у штаб, не шкадуючы каня, але пры гэтым застацца ў жывых. "Алюр тры крыжы" — не шкадаваць ні сябе, ні каня, але даставіць пакет. Алюр — гэта хуткасць, з якой імчыць конь.



*Зімовая форма — бекеша — камандзіра Першай беларускай асобнай партызанскай казацкай брыгады.*

Кубанка — таксама важная частка абмундзіравання. Яе выраблялі з воўны маладога ягняці. Менавіта яна адпуджвае скарпіёнаў і тарантулаў.

Не меншую цікавасць выклікае і зімовая форма — бекеша — камандзіра Першай беларускай асобнай партызанскай казацкай брыгады, якая дзейнічала на акупіраванай тэрыторыі Мірскага і Карэліцкага раёнаў. У вёсцы Ярэмічы Карэліцкага раёна ў гонар брыгады ўстаноўлена стэла. Дарэчы, Янка Брыль апісаў гэты атрад у зборніку "Нёманскія казакі".

# Філасофія фальклору

**Гэты вечар ужо назвалі "канцэртам года". І, па ўсім відаць, ён таго варты. Але калі адмовіцца ад залішняга пафасу і гучных параўнанняў, то відавочна адно: гэта падзея ў музычным жыцці Беларусі. Так, у канцэртнай зале "Мінск" выступілі дзве легенды фольку: этнатрыа "Троіца" (Беларусь) і "Kapela ze wsi Warszawa" (Польшча). І калі канцэрты "Троіцы", хоць яны адбываюцца не надта часта, для беларусаў ужо "звыклы цуд", то варшаўскую "Капэлу…" нам давялося пабачыць упершыню. Прызнацца, усе спадзяванні і чаканні адносна канцэрта, арганізатарамі якога выступілі Польскі інстытут у Мінску, Інстытут Адама Міцкевіча і "ПАН студыя", апраўдаліся.**

**Марына ВЕСЯЛУХА**

У першым аддзяленні грала этнатрыа "Троіца". Гэта, як заўсёды, музычная медытацыя, падчас якой кожны гук — значны. Музыкі прадставілі публіцы песні са сцюдзёнага альбома "Зімачка", дзе ёсць і вецер, і мароз, і снег, а таксама новы матэрыял, над якім гурт працуе цяпер. У прыватнасці, купальскую песню "Цар агонь", тут — увесь катарсіс, што перажывалі нашы продкі ў час абраду ачышчэння вадой і агнём на Купалле. Лідар "Троіцы" Іван Кірчук падзякаваў продкам, што яны пакінулі такія цудоўныя мелодыі. Фальклор — філасофскі, і сёння многае гучыць і ўспрымаецца не так, як раней. Іван Іванавіч падкрэсліў:

— Для мяне гэты канцэрт —здзяйсненне мары 10 — 15-гадовай даўніны. Калі мы выязджалі на замежныя фестывалі, бачылі, як там усё арганізавана. І вось цяпер маем нешта падобнае ў Мінску, а менавіта — выступленне фольк-гурта такога ўзроўню з намі на адной сцэне. Беларусы часта радуюцца, калі знаходзяць, што іх продкі былі шляхцiцамі, я ж радуюся, што мой прашчур быў млынаром.

Што да выступлення варшаўскай "Капэлы" ў другім аддзяленні, то яно насіла зусім іншы характар. Медытацыі змяніліся чыстым захапленнем ад майстэрства ігры на цымбалах, скрыпках, ад жывой энергіі польскага фольку. Музыкі з "Капэлы…", у сваю чаргу, выказалі радасць ад першага наведвання Беларусі, а таксама падкрэслілі, што выступленне на адной сцэне з нашай "Троіцай" для іх — гонар.

Дарэчы, назва гурта перакладаецца як "Капэла з вёскі Варшава", таму не дзіўна, што выступленне так спадабалася беларускаму гледачу. Справа ў тым, што існаванне вясковых капэл — з'ява традыцыйная і для беларускай культуры. Амаль у кожнай нашай вёсцы быў свой гурт — капэла, гралі ў іх на скрыпках, бубнах, кларнетах, цымбалах. Але варшаўская "Капэла…" — гэта гурт з сусветным імем, яго альбом "Nord", што не так даўно пабачыў свет, брытанскай газетай "The Guardian" прызнаны адным з найлепшых у галіне фольку (дарэчы, у запісе дыска бралі ўдзел і музыкі з іншых гуртоў ды краін, у тым ліку — знакаміты шведскі калектыў "Hedningarna", які выступаў у Мінску ў 2011 годзе падчас "Дударскага фэсту"). Нягледзячы на тое, што музыкі выкарыстоўваюць традыцыйныя інструменты, гучаць яны вельмі сучасна, часам нават авангардна. Спадзяюся, што гэтае выступленне стане пачаткам добрага сяброўства польскага гурта з беларускай публікай.

*Памяці журналіста*

## Галоўны атрыбут — пяро

**Алесь ХІТРУН**

**У Лідскім гісторыка-мастацкім музеі, у будынку, дзе жыў паэт-рэвалюцыянер Валянцін Таўлай, разгарнулася выстаўка "Аляксандр Жалкоўскі — таленавіты руплівец на ніве журналістыкі".**

На яе адкрыццё — ушанаванне калегі і паплечніка — сабраліся сябры, родныя, літаратары, журналісты, гісторыкі. Кожны з іх падзяліўся сваімі ўспамінамі пра Аляксандра Васільевіча. Хто згадаў пра цеснае супрацоўніцтва з ім у газеце "Уперад" (цяпер "Лідская газета"), хто распавёў пра яго дабрадзейныя справы.

Дзе толькі не быў Аляксандр Жалкоўскі, з кім толькі не сустракаўся! Былі блізкія стасункі з Васілём Быкавым, Ларысай Геніюш, Янкам Брылём, Аляксеем Карпюком, Валянцінай Коўтун, Хрысцінай Лялько… Творчасць журналіста адзначана шматлікімі граматамі, знакамі і медалямі. Галоўным атрыбутам для яго стала пяро. У свой час ён быў адказным сакратаром васілішкаўскай раённай газеты, рэдактарам воранаўскай і мастоўскай райгазет. А газету "Уперад" узначальваў ажно 20 год — з 1969 па 1989-ы. Потым быў уласным карэспандэнтам абласной газеты "Гродзенская праўда". Пазней Аляксандр Васільевіч меў свайго чытача і на старонках лідскай газеты "Прынёманскія вёсткі", рэспубліканскіх выданняў "Белорусская нива", "Літаратура і мастацтва", "Наша слова" і іншых. Як даследчык вяртаў з забыцця імёны, якія цяпер з гонарам ушаноўваюцца.

## У паралельным свеце

Выстаўка работ берасцейскай мастачкі Ніны Гарчанюк "The Parallel World" ("Паралельны свет") адкрылася ў гісторыка-культурным музеі-запаведніку "Заслаўе".

Незвычайныя істоты з іншых вымярэнняў, казачныя персанажы, персаніфікаваныя абстракцыі — што гэта, плён нашага ўяўлення, сон? Не, гэта нашы "суседзі па прасторы". І творы Надзеі Гарчанюк з'яўляюцца своеасаблівым медыятарам, які дазваляе здзейсніць пераход з нашага трохвымернага свету ў іншы, як кажа аўтарка, "прасторава-часавы кантынуум". Сваімі работамі яна сцвярджае: паралельная рэальнасць проста ёсць, як ёсць нябачныя нам радыёхвалі і нячутны нам ультрагук. Толькі яе метафізіка — гэта метафізіка колеру.

**Чэслава ПАЛУЯН**

*Незабыўнае*

**Сяргей ГРАНІК,**
**дырэктар Ваенна-гістарычнага музея імя Д. К. Удовікава, г. Драгічын**

# Дняпроўска-Бугскі рубеж. Як гэта было?

**На пачатку 1944 г. значная частка паўночнай Украіны была вызвалена ад нямецкіх акупантаў. Распачаліся крывавыя баі за важны чыгуначны вузел — горад Ковель. Лінія фронту прайшла непадалёк ад паўднёвых межаў Брэсцкай і Пінскай абласцей Беларусі, што значна паўплывала на становішча партызанскіх атрадаў і брыгад, якія базіраваліся за Дняпроўска-Бугскім каналам і апынуліся ў зоне дзеяння 2-й нямецкай арміі пад камандаваннем генерал-палкоўніка Вальтара Вейса. Такая сітуацыя патрабавала ад яго перагрупоўкі сіл, узмацнення гарнізонаў, размешчаных уздоўж найважнейшых шашэйных дарог і чыгунак, а таксама стварэння ліній абароны на новых рубяжах.**




*Схема абароны Дняпроўска-Бугскага канала.*

У лютым 1944 года ў вёсцы Сварынь — цэнтры партызанскай зоны (тэрыторыя сённяшняга Драгічынскага раёна) — у эвакашпіталі знаходзілася больш як 60 цяжкапараненых і хворых партызан. Да ўсяго вёскі Сварынь, Гаравіца і навакольныя сялянскія хутары былі перапоўненыя мірнымі жыхарамі, якія хаваліся тут ад ворага. А ў партызан адсутнічалі боепрыпасы, закончыліся і старыя снарады, бомбы, з якіх выплаўлялі траціл для правядзення дыверсій. Таму немцы амаль без перашкод карысталіся чыгункамі Брэст — Масква, Брэст — Ковель, Жабінка — Пінск, перавозкі па якіх неабходна было тэрмінова спыніць.

На пачатку лютага камандзір паўднёвай зоны партызан Брэсцкай вобласці маёр Пётр Кавальскі атрымаў звесткі пра тое, што ў раёне станцыі Рафалоўка лінія фронту мае "вароты", праз якія можна лёгка прайсці на вызваленую ад акупантаў тэрыторыю. Для правядзення разведкі Кавальскі сабраў групу партызан на чале з намеснікам камандзіра атрада імя Шчорса Мікалаем Ваганавым, якому была пастаўлена канкрэтная задача: знайсці месца праходу праз лінію фронту і ўстанавіць кантакт з часцямі Чырвонай Арміі. 2 лютага 60 народных мсціўцаў выйшлі на заданне. Становішча заставалася напружаным. Больш як 30 тысяч мірных жыхароў, якія сабраліся ў наваколлях Сварыні, скоўвалі дзеянні партызан. Людзей неабходна было тэрмінова адправіць за лінію фронту. З-за пастаянных бамбёжак самалёты на аэрадром каля Сварыні больш не садзіліся, і таму немагчыма было нават вывезці параненых і хворых.

14 лютага па атрадах і брыгадах разнеслася радасная вестка: група разведчыкаў вярнулася і прывезла каля пяці тон узрывчаткі, шмат зброі і боепрыпасаў. Ваганаў далажыў камандаванню Паўднёвай партызанскай зоны, што прайсці праз лінію фронту ў раёне Рафалоўкі цалкам магчыма. Марудзіць было нельга, бо немцы ў кожны момант маглі зачыніць выратавальныя вароты.

Разам з групай Ваганава прыбылі і вайсковыя разведчыкі 77-га стралковага корпуса, перад якімі я павінен быў наладзіць сувязь з партызанамі Брэсцкага злучэння і сабраць разведзвесткі пра дыслакацыю ворага ў раёне Пінска, Кобрына і Брэста.

19 лютага адправілі наступны абоз, які суправаджалі 300 партызан на чале з Ваганавым. З імі выступілі і вайсковыя разведчыкі. Праз некаторы час даведаліся, што абоз удала перасёк лінію фронту. Пачалі рыхтаваць наступны. Тым часам значныя сілы ворага сканцэнтраваліся ў гарнізонах уздоўж чыгункі Брэст — Лунінец: немцы планавалі аперацыю па выцясненні партызан з-за Дняпроўска-Бугскага канала.

У ноч з 20 на 21 лютага Кавальскі атрымаў данясенне ад камандзіра атрада імя М. Шыша Мікалая Папова, што праціўнік наступае на партызанскую зону каля вёсак Зарэчка і Ляхавічы. Яго партызаны ўступілі ў бой, але ўтрымаць занятыя пазіцыі без падтрымкі было вельмі цяжка. У тую ж ноч на дапамогу атраду імя М. Шыша прыйшлі партызаны брыгады імя Сталіна, атрадаў імя Шчорса і Катоўскага і польскай брыгады імя Т. Касцюшкі. Немцы змаглі пераправіцца праз канал і замацавацца на паўднёвым яго беразе каля Ляхавіч і Зарэчкі. Партызаны атрадаў імя Шчорса, Катоўскага, Бажэнкі, брыгады імя Молатава і Т. Касцюшкі распачалі бай супраць ворага на ўчастку ад Белаазёрскага канала да шляху на Янаў — Любяшоў. Добра, што яшчэ ўлетку народныя мсціўцы падрыхтавалі тут тры лініі абароны з акопамі на поўны рост і ўмацавалі іх дзотамі.

Адначасова немцы пайшлі ў наступленне каля вёсак Белянок, Журавок, дзе змагаліся атрады імя Калініна і Суворава. Адчуўшы абарону партызан, праціўнік спыніўся і пачаў чакаць вынікаў разведкі. Нямецкае камандаванне думала, што часці Чырвонай Арміі выйшлі ўжо да Дняпроўска-Бугскага канала. Пачалі чакаць. У гэты час адбываліся толькі дробныя сутычкі з ворагам. Партызанская ж разведка пасля допыту палонных устанавіла, што немцы кінулі супраць іх 8-ю мадзьярскую дывізію, нямецкую кавалерыйскую брыгаду "Мітэ" і асобны полк "уласаўцаў".

27 лютага ў штаб Паўднёвай зоны паступіла данясенне ад камандзіра брыгады імя Молатава Міхаіла Герасімава пра тое, што Пінская брыгада (камандзір І. Шубітыдзэ) адышла без дазволу са свайго раёна дыслакацыі ў напрамку мястэчка Любяшова і тым самым адкрыла правы фланг абароны яго брыгады. У выніку тракт Янаў — Любяшоў апынуўся цалкам пад кантролем праціўніка, ажно да ракі Прыпяць. У сувязі з гэтым Герасімаў прапануе Кавальскаму, каб астатнія сілы партызан адышлі на паўднёвы бераг Прыпяці і тым самым пазбеглі прамых сутыкненняў з нямецкай брыгадай "Мітэ".

Асцерагаючыся адыходу брыгады Герасімава, Кавальскі далажыў Цэнтральнаму штабу партызанскага руху пра крытычнае становішча. У адказ прыйшоў загад за подпісам Ганенкі: брыгадам Шубітыдзэ, Герасімава і іншым партызанам Паўднёвай зоны перайсці ў поўнае падпарадкаванне Кавальскаму, якому даручаецца кіраўніцтва абаронай партызанскай зоны.

Да гэтага часу часці Чырвонай Арміі ўжо занялі Любяшоў, а яе перадавыя падраздзяленні выйшлі ў раён вёсак Гравіца і Радастава. У гэтай сітуацыі Кавальскаму неабходна было любой цаной затрымаць праціўніка, таму ён загадаў брыгадзе імя Языковіча, якая прыйшла з усходу, і палякам Сатаноўскага, якія знаходзіліся непадалёк ад Сварыні, заняць абарону ўздоўж тракту Янаў — Любяшоў і закрыць правы фланг абароны.

У канцы лютага значна ўскладнілася становішча ў раёне Кобрына і Гарадца. Пры падтрымцы артылерыі і бранятэхнікі немцы адцяснілі атрад імя Катоўскага з-пад вёсак Вялікія Балоты, Малы і Вялікі Рудзец, а самі вёскі спалілі. Іх жыхары знайшлі часовы паратунак у вёсцы Павіць, а партызаны адышлі ў Сварынь.



*Камандзір Пінскай партызанскай брыгады Іван Шубітыдзэ, камісар Пінскай брыгады Архіп Пратасеня, камандзір брыгады імя Молатава Міхась Герасімаў і камісар гэтай жа брыгады Фёдар Кунькоў.*

Пры падтрымцы партызан перадавыя часці 70-й арміі пераправіліся праз Прыпяць каля вёскі Невір і занялі абарону на паўночны захад ад мястэчка Дзівін. З гэтага плацдарма стала магчымым перарэзаць чыгункі Брэст — Масква, Жабінка — Лунінец і Брэст — Ковель. Асцерагаючыся гэтага, немцы перагрупавалі сілы і паспрабавалі выцесніць з дапамогаю механізаваных часцей батальёны 160-й дывізіі і партызан за Прыпяць і тым самым выраўняць лінію фронту. Пад іх ударамі атрады імя Фрунзэ і Чарнака адышлі да Дзівіна і, злучыўшыся з часцямі Чырвонай Арміі, занялі абарону. Пачалося змаганне.

Агульнае становішча ў сярэдзіне сакавіка становіцца вельмі цяжкім. Бесперапынныя баі прывялі да недахопу боепрыпасаў у партызан. А тут яшчэ ад партызанскай разведкі паступілі звесткі, што на станцыі Драгічын выгрузілася сем, а на станцыі Янаў-Палескі дзесяць эшалонаў рэгулярных войскаў праціўніка з танкамі і артылерыяй і хутка рушылі ў паўднёвым напрамку. Пачалося новае наступленне на ўчастку ад Белаазёрскага канала да тракта Янаў — Любяшоў сіламі 211-й матарызаванай дывізіі, 5-й егерскай дывізіі, брыгады "Мітэ" і асобным палком "уласаўцаў". Пра крытычнае становішча партызан Кавальскі неадкладна далажыў камандзіру 160-й стралковай дывізіі генералу Заракаў-Заракоўскаму і папрасіў у яго дапамогі, папярэдзіўшы, што ў выпадку адыходу партызан у акружэнне патрапяць батальёны.

26 сакавіка пасля артпадрыхтоўкі вораг узнавіў наступленне каля Зарэчкі і ўздоўж Белаазёрскага канала. Адначасова былі атакаваны пазіцыі атрада імя Лазо каля вёскі Журавок. Раніцай 27 сакавіка нямецкія егеры паспрабавалі захапіць на поўдзень ад Зарэчкі вышыню 144. Партызаны не змаглі ўтрымаць пазіцыі і пачалі адступаць. На працягу гэтага дня немцы ўклініліся ў іх абарону ажно на чатыры кіламетры. Кавальскі зразумеў, што партызаны не змогуць утрымаць Сварынь, і аддаў загад эвакуіраваць усе тылавыя падраздзяленні ў бок вёскі Вялікая Глуша, на ўкраінскую тэрыторыю. У тым напрамку і пацягнуліся па залітых вясенняй паводкай дарогах шматлікія абозы мірных жыхароў і партызан.

26 — 27 сакавіка ўскладнілася становішча і на правым флангу абароны. Праціўнік наступаў уздоўж грунтавой дарогі Адрыжын — Горкі — Мукашын. Брыгада імя Языковіча ўжо два дні пад артабстрэлам утрымлівала свае пазіцыі, але немцы націскалі. У ноч з 26 на 27 сакавіка Кавальскі, каб удакладніць абстаноўку, выехаў на перадавую ў размяшчэнне атрадаў імя М. Шыша і Шчорса. Разабраўшыся ў сітуацыі, загадаў пачаць арганізаваны адыход да пераправы, якая была каля вёскі Невір, а сам са штабам перамясціўся ў Ветлы. Адзін толькі камандзір польскай брыгады Роберт Сатаноўскі заявіў, што за лінію фронту сваіх партызан не павядзе, а рушыць у Польшчу, таму павёў брыгаду ў процілеглым напрамку. Партызаны, развітваючыся з палякамі, аддавалі ім боепрыпасы і харчы. Праз некалькі тыдняў польскія змагары трапілі ў акружэнне каля возера Свіцязь, але змаглі прарвацца на Люблінршчыну.

Недахопам кіравання абаронай партызан была поўная адсутнасць тэлефоннай і радыёсувязі, якая ажыццяўлялася толькі з дапамогай конных пасланцоў, таму данясенні і загады дастаўляліся са спазненнем. Становішча мянялася кожную гадзіну. У Кавальскага атрымалася толькі на гадзіну ўсталяваць тэлефонную сувязь са штабам 160-й дывізіі, у якой ён папрасіў дапамогі, але так яе і не дачакаўся, а толькі атрымаў загад трымацца любой цаной і не здаваць немцам пераправу каля Невіра. Савецкія часці такім чынам маглі адысці з-пад Дзівіна і Макран.

Камбрыгі Міхаіл Герасімаў і Васіль Вялігін далажылі савецкаму камандаванню, што пад націскам пераўзыходзячых сіл немцаў, пад ударамі артылерыі і авіяцыі вымушаныя адыходзіць да Ветлаў, дзе пачаўся вулічны бой. Рэзка пагоршыўся стан надвор'я. Адліга змянілася марозам і снегападам. Байцы, мокрыя і галодныя, пачалі замярзаць. Іх трэба было тэрмінова абагрэць і абсушыць. У гэтым становішчы Кавальскі вырашае заняць абарону на вышынях з захаду ад Ветлаў і ўтрымліваць пераправу цераз Прыпяць.

Раніцай 29 сакавіка немцы пасля артпадрыхтоўкі пайшлі ў наступленне. Партызанскія брыгады вымушаныя былі пакінуць пазіцыі і адступіць з боем на ўсход ад Невіра. У жорскім баі атрымаў цяжкае раненне Мікалай Ваганаў. Камандзір 160-й дывізіі падпалкоўнік Гарабец загадаў партызанам утрымліваць гэты рубеж, наколькі магчыма. На дапамогу партызанам ён накіраваў стралковы ўзвод, байцы якога мужна змагаліся на правым флангу і не адышлі, нягледзячы на вялікія страты. Пад вечар 30 сакавіка немцы ўварваліся ў Невір і занялі пераправу цераз Прыпяць. Але партызаны, мірныя жыхары і часці дывізіі, якія адыходзілі з-пад Макран і Дзівіна, паспелі пераправіцца на паўднёвы бераг ракі. Акружэння і знішчэння ўдалося пазбегнуць.

Захапіўшы пераправу, немцы адрэзалі адыход за Прыпяць атрадам імя Шчорса, Катоўскага, Чэрнака і батальёну савецкіх салдат, якія заставаліся каля Сварыні і Радастава.

Так 30 сакавіка 1944 года скончылася знакамітая 37-я абарона Дняпроўска-Бугскага канала, якая ўвайшла ў гісторыю партызанскага руху Беларусі. Падчас яе народныя мсціўцы абаранялі рубеж, які працягнуўся амаль на 60 кіламетраў, прыкрываючы правы фланг 70-й арміі, і далі магчымасць яе палкам адысці з-пад Дзівіна і Макран, каб замацавацца на паўднёвым беразе Прыпяці. Тым самым партызаны дапамаглі пазбегнуць акружэння і разгрому адарваным ад асноўных сіл батальёнам 160-й дывізіі.

# Новае слова на знаёмую тэму

**Брэсцкая крэпасць… Сімвал мужнага супрацьстаяння вераломнаму нападу добра ўзброенага ворага. Гэта ведае кожны. Шмат гледачоў перажыло трагедыю 22 чэрвеня 1941 года, паглядзеўшы яркі таленавіты мастацкі фільм пра гэтыя падзеі. За дакументальную стужку для Белвідэацэнтра згадзіліся ўзяцца сцэнарыст Сяргей Трахімёнак і рэжысёр Аляксандр Анісімаў.**

**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА,**
**фота Уладзіміра Болгава**



*Сяргей Трахімёнак. Кадр з фільма "Крэпасць над Бугам".*

## *Сяргей Трахімёнак, пісьменнік, сцэнарыст*

**— Раскажыце, калі ласка, як пачалася ваша работа?**

— Напісаць сцэнарый мне прапанавалі ў Беларускім відэацэнтры восенню 2010 года. Я не быў у захапленні ад гэтай ідэі, таму што нядаўна выйшаў расійскі мастацкі фільм пра Брэсцкую крэпасць і некалькі перадач пра крэпасць і яе форты зрабілі тэлеканалы Брытаніі і Расіі. Але на мае аргументы заказчыкі сказалі, што неабходны свой погляд, які б не паўтараў усё, што было сказана і знята.

І я захварэў на гэта. Знайшоў нейкую ідэю, якая не звужалася б толькі да аднначасова трагічных і гераічных падзей тысяча дзевяцьсот сорак першага года.

**— Што было кропкай адліку — можа, Вялікая Айчынная ў летапісе вашай сям'і?**

— Мой бацька ў верасні сорак трэцяга года трапіў у дзеючую армію, на ўчастак будучага Другога Беларускага фронту — пад горадам Чавусы. Было яму тады васямнаццаць, і быў ён старшым сяржантам, памочнікам камандзіра ўзвода сапёраў. Пазней падчас аперацыі "Баграціён" бацька атрымаў два свае першыя ордэны за забеспячэнне фарсіравання рэк Проні і Бярэзіны. Ён дайшоў да Беластока і там скончыў сваю вайну, бо ў лістападзе 1944-га падарваўся на варожай міне. Таму гісторыя Вялікай Айчыннай — гэта гісторыя ў тым ліку і нашай сям'і. Хаця ніхто з маіх родзічаў не ваяваў у Брэсцкай крэпасці.

**— Ці дапамаглі ў стварэнні стужкі новыя архіўныя матэрыялы?**

— У якасці відэараду фільма намі былі працаваныя кінадакументы абодвух ваюючых бакоў. У тым ліку і тыя, якія раней нідзе не выкарыстоўваліся. Але пры напісанні сцэнарыя я не звяртаўся да новых матэрыялаў. Ды і мэта яго напісання была ў іншым — паказаць той цывілізацыйны стык, што заўсёды існаваў на гэтай прасторы і на якім найбольш верагодна маглі адбывацца канфлікты.

Адным з атрыбутаў гэтага стыку і былі фартыфікацыйныя збудаванні, у тым ліку і Брэсцкая крэпасць.

**— Ці доўга працавалі над сцэнарыем?**

— Пачаў у верасні і здесьці ў снежні прыйшоў да патрэбнага варыянта.

**— Ці задаволены тым, як увасоблены сцэнарый?**

— Сцэнарыст ніколі не можа быць цалкам задаволены рэалізацыяй сваёй ідэі. Асабліва сцэнарыст-візуаліст. Як і рэжысёр, няхай гэта гучыць парадаксальна. Але гэта спецыфіка працы кінадраматурга, не трэба надзімаць шчокі і казаць, што нехта бачыў увасабленне свайго тэксту па-іншаму. Фільм зроблены. Фільм жыве ўласным жыццём.

## *Аляксандр Анісімаў, рэжысёр*

**— Вы не пабаяліся рабіць фільм на такую "небяспечную" тэму? Што новага можна сказаць, калі Брэсцкая крэпасць стала сімвалам, пра яе ведае кожны школьнік?**

— Шчыра прызнаюся, я не выключэнне. Пра крэпасць ведаў тое ж, што і ўсе. У памяць запала кніга Сяргея Смірнова і невялічкі фільм. Прынцыпова нічога не глядзеў перад пачаткам працы — каб адысці ад усяго гэтага матэрыялу і менавіта ўласнымі вачыма зірнуць на мемарыял. Натхніў і сцэнарый, за які яшчэ раз хачу падзякаваць Сяргею Трахімёнку. Я даўно марыў папрацаваць з ім, з тых часоў, як да мяне ў рукі трапіў яго сцэнарый фільма пра Карбышава. На жаль, мне не ўдалося яго зняць, хоць і хацелася. Якраз быў у ваеннай тэме: нядаўна зрабіў фільм "Афган. 20 гадоў. Трафеі", што заняў трэцяе месца на маскоўскім фестывалі дакументальных дэтэктываў сярод 300 стужак з усяго свету. Тэма для мяне блізкая і таму, што абодва мае дзяды, якіх я не бачыў, прайшлі ўсю вайну. Канечне, я ведаў пра вайну шмат — і ад бабуль, і з літаратуры. Наша пакаленне выхавана на ваеннай тэматыцы. Для мяне "Піянеры-героі" ў дзяцінстве былі лепшай кніжкай.

Першымі, на чый суд прадставілі нашу работу, былі супрацоўнікі музея. Яны, можа, сто фільмаў пра крэпасць бачылі. І пасля прагляду — маўчанне. Не маглі слова вымавіць — вельмі моцнае ўражанне. Значыць, патрапіў.

**— А для вас асабіста горад над Бугам чымсьці адметны?**

— Бываў у Брэсце, калі рабіў фільм пра Белавежскую пушчу. Праслаўляць сваю краіну, папулярызаваць зямлю, на якой жывеш і працуеш, — самая ўдзячная тэма. Душа спакойная.

Вельмі хацелася дзяцей сваіх завезці ў Брэст. У нас дача ў Гродзенскай вобласці. І аднойчы вырашылі — едзем на 22 чэрвеня. Сынам вельмі спадабалася. З той першай паездкі наведваць у гэты дзень Брэсцкую крэпасць зрабілася традыцыяй. Касцюміраваная рэканструкцыя падзей хлопчыкаў прыцягвае.

**— Якія моманты працы над стужкай былі самыя яркія?**

— Было цікава збіраць факты. Цікава кантактаваць з музейнымі супрацоўнікамі, якія абагаўляюць гэты помнік. Там няма лішніх людзей. Яны па-сапраўднаму любяць месца, дзе жывуць і працуюць. Музейшчыкі прадаставілі ўнікальныя фотаздымкі, якія выкарыстаныя ў фільме. Для работы дакументальны матэрыял браў у Дзяржынску, маю і свой архіў.

**— Сяргей Трахімёнак — вядомы сцэнарыст, а вось для аператара Мікіты Пінігіна гэта была першая работа.**

— Калі мне прапанавалі зняць гэты фільм, я прачытаў сцэнарый і зразумеў — пашанцавала: вельмі моцна збіты, што бывае крайне рэдка. Звычайна сцэнарыі развальваюцца на хаду, мне даводзіцца іх "сшываць" літаральна белымі ніткамі, і гэта заўважна. Сцэнарый Сяргея Аляксандравіча не паўтараў той стэрэатып, які ў мяне склаўся.

Не шкадую, што ўзяў на фільм Мікіту. Таленавіты аператар, уважлівы. Менавіта ён убачыў сярод наведвальнікаў мемарыяла хлопчыка з рукзачком, якога вы бачыце на экране.

**— Што не паспелі сказаць у адведзены для фільма час?**

— У мінулым годзе адзначалі юбілей крэпасці і 50-годдзе музея. Тэрміны на стварэнне карціны былі вельмі абмежаваныя. 26 хвілін экраннага часу — вельмі мала для гэтага фільма, у мяне нашмат больш інфармацыі, і я мог бы зняць яшчэ адзін, больш працяглы, дакладней расставіць акцэнты.

**— Якая аўдыторыя, мяркуеце, часцей за ўсё будзе глядзець вашу "Крэпасць над Бугам"?**

— Па фармаце стужка зручная для ўрокаў гісторыі ў школе. Дарэчы, многія фільмы, якія зроблены мною на БВЦ, могуць быць дадатковым матэрыялам для ўрокаў гісторыі і літаратуры. Пра Мележа, Макаёнка і г. д. Дзеці паспяваюць пагледзець, і застаецца час абмеркаваць з настаўніцай убачанае.

## *З глыбінкі*

### Шляхта вярнулася ў Пінск

Незвычайнае ажыўленне панавала каля сцэн Палескага драматычнага тэатра ў Пінску. Дзесяць умельцаў шчыравалі над аб'ёмістымі дубовымі стваліамі, з якіх паступова выступалі рысы герояў камедыі "Пінская шляхта": Кручкова і Куторгі, шляхцічаў Пратасавіцкага і Цюхай-Ліпскага… Удзельнікі дзясятага пленэру Брэсцкай вобласці па разьбярстве стваралі скульптурную кампазіцыю, прысвечаную неўміручаму твору Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча.

Творчае бласлаўленне разьбярам дала пінская трупа, прымеркаваўшы да пачатку пленэру паказ спектакля "Пінская шляхта". Аўтарам ідэі і рухавіком яе рэалізацыі стала загадчыца аддзела традыцыйнай культуры Брэсцкага абласнога грамадска-культурнага цэнтра Ларыса Быцко. Яна лічыць, што вяртанне "Пінскай шляхты" ў горад над Пінай — акт гістарычнай справядлівасці. Патрыётам Палесся заўсёды здавалася недарэчнасцю тое, што ў Пінску немагчыма было знайсці ніякіх згадак пра славутую п'есу. Таму ў свой час вялікі ўздым выклікала з'яўленне камедыі на падмостках пінскай сцэны. І вось — новы крок… Ларыса Быцко ўпэўнена, што з прапіскай у Пінску драўляных шляхцічаў горад набудзе яшчэ адзін прывабны куток.

**Людміла БУНЕЕВА,**
**г. Пінск**

### Літаратурны свет Марыі Варабей

Яе творы бяруць за жывое, чаруюць душу. І не дзіўна, бо дзяўчына піша пра тое, што яе сапраўды хвалюе. Маша Варабей вучыцца ў 9 "А" класе сярэдняй школы № 33 г. Брэста.

У 15 год яна ўжо неаднойчы была ў ліку пераможцаў гарадскіх і абласных літаратурных конкурсаў. Нядаўна юная пісьменніца заняла першае месца ў гарадскім конкурсе літаратурнай творчасці сярод школьнікаў "Голас дзяцінства" і не збіраецца спыняцца на дасягнутым.

Пісаць Маша пачала ў 9 год. Аднолькава лёгка карыстаецца яна і рускай, і беларускай мовамі. Творы школьніцы друкаваліся ў рэспубліканскіх і мясцовых газетах, у калектыўным зборніку "Адкрыццё", які выдае Брэсцкае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі.

На пытанне, адкуль бярэ ідэі для твораў, яна прызнаецца: "Пішу пад уражаннем ад падзей з жыцця, але часам сюжэты бачу ўва сне". На творчым рахунку Марыі Варабей ужо ёсць дзве аповесці ў стылі фэнтэзі. Праўда, выдаць кнігу пакуль не атрымліваецца. Цяпер яна працуе над новай аповесцю "Выдуманы сябар". Спрабуе пісаць вершы. Свае творы публікуе ў інтэрнэце.

У мінулым годзе Марыя Варабей заняла прызавыя месцы на раённых алімпіядах па беларускай і рускай мовах. А яшчэ яна займаецца ў гуртку "Журавінка" і ўдзельнічае ў тэатральных конкурсах, любіць беларускую літаратуру. Асабліва творы Уладзіміра Караткевіча і Яна Баршчэўскага.

Паводле слоў Машы, талент неабходна ўпарта развіваць, не адмаўляцца ад сваёй мэты, бо ўменне ствараць уласны чароўны свет з'яўляецца лепшай якасцю чалавека.

**Алена ДЗЕБІШ,**
**г. Брэст**

## *Афарызм*

*Напэўна, самае дзейснае, самае практычнае — прымусіць чалавека заглянуць у сябе, прымусіць яго ўбачыць, які ён ёсць, што ў ім ёсць подлае, а што добрае. Калі ён разбярэцца ў сабе з дапамогай мастацтва, то і будзе вынік.*

**Васіль БЫКАЎ**

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Юрыдычны адрас:
220034, Мінск,
пр. Незалежнасці, 39, п. 4а
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 2300 рублёў
Наклад — 2836
Умоўна друк. арк. 5,58
Нумар падпісаны ў друк 21.06.2012 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 2750
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686